


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

12 СТУДЗЕНЯ 2001г. № 2/4086 КОШТ 115 РУБ.


## САМ-НАСАМ З РАДЗІМАЙ І З ЧАСАМ

***Новая лімаўская рубрыка, якую вядзе народны паэт Беларусі Ніл ГІЛЕВІЧ***

**4**

## Я ЖЫВУ Ў КРАІНЕ...

***Мініяцюры Алены ВАСІЛЕВІЧ***

**5**

## СЛОВА МАЙСТРА НЕ СТАРЭЭ

***Дзмітрый БУГАЁЎ — пра творчасць народнага пісьменніка Беларусі Івана ЧЫГРЫНАВА***

**6—7**

## З НІЗКІ "НЕНАГЛЯДКА"

***Вершы Міколы ШАБОВІЧА***

**8**

## ВІНА

***Апавяданне Барыса ПЯТРОВІЧА***

**8—9, 14—15**

## У ПОШУКАХ БЕЛАРУСАЎ...

***Эрнест ЯЛУГІН — пра кнігу Алеся БЕЛАГА "Хроніка Белай Русі"***

**13—15**




*Выпаў белы-белы снег...*

*Фота А. МАЦЮША*



# КОЛА ДЗЁН

***Навагодні варыянт старога жарту.***

***— Хлопцы, Новы год надышоў!***

***— Глядзі ты, а мы й не заўважылі.***

***— Добра сядзім, браткі!..***

***Прыходу 2001-га нельга было не заўважыць. Вельмі ўжо адметны гадок: і новае стагоддзе пачынае, і — новае тысячагоддзе, праспаць такое аніяк не выпадала. Ці не з гэтае прычыны ўсе мы звязвалі з 2001-ым самыя светлыя мары і самыя вялікія спадзяванні. Такія, што ні расказаць, ні пяром апісаць.***

***І вось ён, жаданы і шматабяцальны, прыйшоў і імпэтна крочыць сабе далей, першую дэкаду ўжо, як кажуць, адолеў, нават з гакам. І што ж у нас новага? Ды пакуль што — малавата новага, амаль нічога. Усё больш старога, таго, што раньш было. Тыя ж асобы, твары, імёны і — тыя ж словы, запэўніванні, абяцанні. Усё тыя ж праблемы заробкаў і пенсій, цэн і коштаў камунальных паслуг. Усё тое ж размежаванне рэдкіх выспаў багацця і шырокага мора ўсеагульнай беднасці.***

***А паслязаўтра — ужо й стары Новы год. Час — катэгорыя ўсё ж рухомая, зменлівая. Значыць, трэба спадзявацца, трэба верыць — будуць і змены. У лепшы бок, вядома...***

## ДЫЯГРАМА ТЫДНЯ

У друку прамільгнулі (акурат прамільгнулі, а павінны былі б прымусіць задумацца!) такія вось лічбы, якія красамоўна характарызуюць хаду нашых "поспехаў" за апошнія гады. Так, у 1994 годзе вытворчасць збожжа ў Беларусі складала 6085 тысяч тон, а ў 1999-ым — 3645 тысяч. У 1994 годзе было рэалізавана мяса жывёлы і птушкі 908 тысяч тон, у 1999-ым — 700 тысяч тон, малака адпаведна — 3540 і 2800, 4 тысячы тон. У 1994 годзе ў краіне было 5037 тысяч галоў буйной рагатай жывёлы, на 1 мая 2000 года — 3725,4 тысячы галоў. Што можа лепш сведчыць пра ўзровень нашага жыцця тады і цяпер?

## КАЭФІЦЫЕНТ ТЫДНЯ

Ёсць такое паняцце — каэфіцыент нараджальнасці (ён паказвае агульную колькасць дзяцей, што нараджае кожная жанчына на працягу свайго жыцця). Дык вось, паводле паведамленняў агенцтва Інтэрфакс, у Туркменіі сумарны каэфіцыент нараджальнасці — 4,9 (100 жанчын цягам жыцця нараджаюць у сярэднім 490 дзяцей), у Таджыкістане — 3,7 (370), Узбекістане — 2,82 (282), Кіргізіі — 2,8 (280). Для таго, каб адбываўся нармальны працэс замяшчэння пакаленняў бацькоў іх дзецьмі, гэты паказчык павінен быць не меншым, чым 2,15 (215). Якая ў гэтым плане сітуацыя ў нас і ў нашых бліжэйшых суседзяў? Самая горшая сітуацыя сярод краін СНД — на Украіне: тут кожныя 100 жанчын нараджаюць усяго 110 дзяцей (каэфіцыент — 1,1). У Грузіі гэты паказчык — 1,16, Расіі — 1,17, Арменіі — 1,3, Малдове — 1,67, Казахстане — 1,8, Азербайджане — 1,88. Яшчэ горшая сітуацыя — у краінах Балтыі. У Латвіі каэфіцыент нараджальнасці — самы нізкі наогул: 1,09, у Эстоніі — 1,21, у Літве — 1,36. Ну, а ў нас? Усяго 1,31! Гэта менш, чым у Нідэрландах (1,63), у Германіі (1,33), у Францыі — (1,75), у Нарвегіі (1,81). Не дзіўна таму, што нас летась стала менш за 10 мільёнаў.

## ПАДАРАЖАННЕ ТЫДНЯ

З першых дзён новага года зноў павысіліся базавыя тарыфы на праезд у цягніках далёкага следавання. Павысіліся нязначна, на нейкія 2,2 працэнта (зараз за праезд з Мінска ў Маскву ў плацкартным вагоне трэба заплаціць 11355 рублёў замест ранейшых 11120 рублёў). Аднак гэтае павышэнне — ужо чацвёртае за апошні месяц, з пачатку снежня мінулага года базавыя тарыфы на праезд у цягніках далёкага следавання ўзраслі на цэлых 18 працэнтаў. Так што, памалу, пакрысе — і голаму сарочка. Ці мо наадварот — з голага апошнюю сарочку?

## МАРКІ ТЫДНЯ

У паштовае абарачэнне паступілі маркі з гербамі Брэста і Гомеля. Тыраж кожнай маркі — 90 тысяч экземпляраў. 10 студзеня, у дзень уводу ў абарачэнне гэтых паштовых знакаў, у Брэсце і Гомелі было праведзена іх урачыстае гашэнне. Сама па сабе — добрая навіна, асабліва для берасцейцаў і гамельчукоў. Толькі вось закрадваецца ўсё ж сумненне: а ці тыя гербы на новых паштовых знаках? Сапраўды гістарычныя, асвечаныя шматгадовай традыцыяй, ці створаныя сёння на патрэбу дня, што апошнім часам стала досыць модным?

## ТЭНДЭНЦЫЯ ТЫДНЯ

Кароткая, у некалькі радкоў газетная інфармацыя на першай паласе "Советской Белоруссии" за 9 студзеня, а выклікае вялікую трывогу. Вось яна: "У кожнай чацвёртай вёсцы з 4 тысяч сельскіх населеных пунктаў Гродзенскай вобласці няма дзяцей, якім было б менш чым 15 гадоў. У вобласці 300 вёсак, усё насельніцтва якіх складаецца з пенсіянераў". І гэта — на Гродзеншчыне, самай "благапалучнай", як любяць гаварыць сёння нашы чыноўнікі, вобласці. Што ж тады гаварыць пра Віцебшчыну ці Магілёўшчыну?!

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ ТЫДНЯ

Прадпрыемства "Дарыда" вядома сваёй дабрачыннай дзейнасцю. Толькі напярэдадні сёлетніх калядных і навагодніх свят "Дарыда" купіла каля трох тысяч падарункаў для дзяцей, семсот білетаў у цырк, фундавала навагодні спектакль для дзятвы ў пасёлку Мачулішчы, парадавала падарункамі выхаванцаў Ждановіцкага дзіцячага дома. Ды міжволі згадваецца, што бутэлька аднайменнай мінералкі каштуе даражэй, чым... такая ж пасудзіна малака. І таму пасля такое згадкі нейк сама па сабе блякне гэтая актыўная дабрачынная дзейнасць фірмы...

## ПАДМАН ТЫДНЯ

Па традыцыі перад Новым годам у тысячах беларускіх хат і кватэр схуднелыя леташнія календары (насценныя) замяняюцца на тоўстыя сёлетнія. Апошняя акалічнасць дала падставу карэспандэнту БЕЛТА В. Лоўгачу звярнуць увагу на такі момант: большасць гэтых календароў — хлусяць, указваюць зусім не беларускі час узыходу і заходу сонца, скажам. Чаму? Ды таму, што, за выключэннем календара "Родны край", усе яны — расійскія і падаюць адпаведна расійскія звесткі. Тыраж "Роднага краю" — мізэрны, яго хапае на нейкае паўсотні тысяч кватэр і хат беларусаў, ды і ён можа быць нерэалізаваны па той простай прычыне, што паўсюль прадаюцца календары расійскія. Карацей кажучы, "Родны край" трэба шукаць (і гэта ў Беларусі!), а расійскія календары ў нас — на кожным кроку, дзе ні ступіць. Аказваецца, такім чынам, што нават і тут мы — пакрыўджаныя, што ёсць і такая вось — каляндарная — дыскрымінацыя...

## ГАНАРАВАННЕ ТЫДНЯ

Мы прызвычаіліся не паважаць моду, нават слоўкі ў нас з'явіліся з адпаведным адмоўным акрасам: модніца, моднічаць. А між тым, можа быць і добрая мода. Вось, скажам, мода аб'яўляць і тым самым ганараваць "чалавека года" — у пэўнай галіне навукі, культуры, вытворчасці. Такая мода набывае і ў нас усё большае распаўсюджанне. Так, у саўгасе "Рудакова" Віцебскага раёна напярэдадні новага стагоддзя і тысячагоддзя звання "Чалавек года" ўдастоена агранам-арганізатар Людміла Леўкіна. Акурат з яе ў саўгасе хочуць пачаць добрую традыцыю і штогод адзначаць такім чынам лепшых працаўнікоў і адначасова прыкладных ва ўсіх адносінах людзей. Што ж, хай будзе і такая мода, хай прыжываецца...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Шмат клопатаў праявіў СБП, яго камісія па творчай спадчыне Барыса Сачанкі, каб былі прыняты ўсе захады па ўвекавечанні памяці выдатнага пісьменніка. Самым складаным аказалася ўстанавіць надмагільны помнік на Маскоўскіх могілках.

І вось нарэшце пасля неаднаразовых зваротаў кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі прынята пастанова Савета Міністраў, у якой гаворыцца: "прыняць прапанову Міністэрства культуры і грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў" аб установцы ў 2001 годзе надмагільнага помніка вядомаму беларускаму пісьменніку Барысу Сачанку. Фінансаванне работ па праектаванню і стварэнню надмагільнага помніка ажыццявіць за кошт Міністэрства культуры, па ўстаноўцы — за кошт Мінскага гарвыканкама".

•

Па прапанове кіраўніцтва СБП зацверджаны план мерапрыемстваў па арганізацыі ўшанавання народнага пісьменніка Беларусі І. П. Шамякіна, які падпісаў кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь М. У. Мясніковіч. План прадугледжвае прыём народнага пісьменніка Беларусі Прэзідэнтам краіны, правядзенне ўрачыстага вечара ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы, забеспячэнне выпуску выдавецтвам "Мастацкая літаратура" рамана І. Шамякіна "Сэрца на далоні" і выдавецтвам "Юнацтва" зборніка аповесцей апошніх гадоў, асвятленне жыццёвага і творчага шляху пісьменніка па тэлебачанні і радыёвяшчанні, у дзяржаўных перыядычных выданнях.

•

Да ўдзелу ў Днях культуры Беларусі ў Расіі рыхтуецца дэлегацыя Саюза беларускіх пісьменнікаў. У праграме паездкі — выступленні перад масквічамі і гасцямі расійскай сталіцы, сустрэчы з калегамі-пісьменнікамі, прыём у Пасольстве Беларусі ў Расійскай Федэрацыі.

У склад дэлегацыі, якую ўзначальвае в. а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, уваходзяць Аляксей Дудараў, Раіса Баравікова, Генрых Далідовіч, Уладзімір Ліпскі, Генадзь Пашкоў, Уладзімір Карызна, Таіса Бондар, Эдуард Скобелеў.

**Н. К.**

# За высокія творчыя дасягненні

***Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне "Аб прысуджэнні спецыяльных прэмій Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва", у якім гаворыцца:***

"1. Пагадзіцца з рашэннем савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва і прысудзіць за высокія творчыя дасягненні ў 2000 годзе спецыяльныя прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва ў памеры 100 мінімальных заработных плат кожная ў наступных намінацыях:

**музычнае мастацтва**

КУЗНЯЦОВУ Вячаславу Уладзіміравічу, дацэнту, загадчыку кафедры аркестроўкі і аранжыроўкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, — за высокія творчыя дасягненні, стварэнне і пастаноўку на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Рэспублікі Беларусь балета "Макбет";

**тэатральнае мастацтва**

ДУДАРАВУ Аляксею Ануфрыевічу, драматургу, заслужанаму дзеячу мастацтваў Рэспублікі Беларусь, — за стварэнне гістарычных п'ес, пастаўленых Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы;

ШМАКАВУ Фёдару Іванавічу, народнаму артысту СССР, артысту Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа, — за вялікі ўклад у тэатральнае мастацтва Беларусі, стварэнне спектакля па п'есе А.Астроўскага "Праўда — добра, а шчасце — лепш" і выкананне ролі Грознага ў гэтым спектаклі;

**журналістыка**

СТРАЛЬЦОВУ Барысу Васільевічу, прафесару факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктару філалагічных навук, — за вялікі ўклад у развіццё журналістыкі і кнігу "Публіцыстыка";

**кіно і тэлебачанне**

ШПІТАЛЬНІКАВУ Уладзіміру Барысавічу, галоўнаму рэдактару творчага аб'яднання спартыўных праграм Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, — за стварэнне ў 2000 годзе новых цыклаў праграм "Спорт-курьер", "Стадион", "Дневники Олимпиады";

**архітэктура і рэстаўрацыя**

аўтарскаму калектыву архітэктараў у складзе КОСЦІЧА Барыса Сяргеевіча і КАЗАК Марыі Георгіеўны — за архітэктурна-вобразнае і функцыянальна-планіровачнае рашэнне, якое адлюстроўвае сацыяльную значнасць і спецыфічнасць аб'екта — Рэспубліканскага дзіцячага рэабілітацыйнага цэнтра для дзяцей-інвалідаў у г.Мінску;

**народная творчасць**

СУПРУНЧЫКУ Івану Піліпавічу, народнаму майстру разьбы па дрэве в.Цераблічы Столінскага раёна, — за пластычнае ўвасабленне ў традыцыйнай разьбе па дрэве беларускіх фальклорных матываў;

**выяўленчае мастацтва**

ДУДАРЭНКУ Леаніду Аляксандравічу, заслужанаму дзеячу мастацтваў Рэспублікі Беларусь, — за серыю жывапісных твораў "Званы праваслаўя", якія былі выкананы ў 2000 годзе;

РЭЮ Івану Пятровічу, заслужанаму дзеячу мастацтваў Рэспублікі Беларусь, — за стварэнне жывапіснай серыі карцін краявідаў Беларусі, якія былі прадстаўлены ў 2000 годзе;



**харэаграфічнае мастацтва**

ШТОПУ Яўгену Аляксандравічу, мастацкаму кіраўніку ансамбля народнай песні, музыкі і танца "Белыя росы" Гродзенскай абласной філармоніі, заслужанаму дзеячу культуры Рэспублікі Беларусь, — за новыя аўтарскія канцэртныя праграмы і высокі мастацкі ўзровень калектыву, удзел у Днях культуры Рэспублікі Беларусь у г.Краснадары Расійскай Федэрацыі ў 2000 годзе;

**эстрадна-цыркавое мастацтва**

ФІНБЕРГУ Міхаілу Якаўлевічу, мастацкаму кіраўніку заслужанага калектыву Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь, прафесару, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, — за стварэнне ў 2000 годзе высокамастацкіх праграм па творах беларускіх і расійскіх кампазітараў;

**крытыка і мастацтвазнаўства**

АНТАНЕВІЧ Валянціне Аляксандраўне, дацэнту кафедры беларускай музыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, доктару мастацтвазнаўства, — за высокія дасягненні ў навукова-даследчай дзейнасці, падрыхтоўку і выданне манаграфіі "Беларуская кампазітарская творчасць і яе сувязь з фальклорам";

**выхаванне творчай моладзі**

КАЧАРСКАЙ Зоі Веніямінаўне, прафесару кафедры спецыяльнага фартэпіяна Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, — за вялікі ўклад у музычную адукацыю ў рэспубліцы, выдатныя поспехі ў падрыхтоўцы маладых выканаўцаў;

ЛАЗОЎСКАЙ Аляксандры Уладзіміраўне, прэзідэнту канфедэрацыі стылістаў Беларусі, — за перамогу на першым чэмпіянаце па цырульным мастацтве краін Усходняй Еўропы 2000 года, вялікі ўклад у выхаванне творчай моладзі і высокае прафесійнае майстэрства;

МАЦЮШЭНКАВАЙ Гунэфе Фёдараўне, выкладчыку Слуцкай дзіцячай мастацкай школы, — за вялікі ўклад у эстэтычнае выхаванне дзяцей і творчай моладзі, высокае педагагічнае майстэрства;

СВЕНТАХОЎСКАМУ Пятру Уладзіміравічу, дацэнту кафедры малюнка Беларускай акадэміі мастацтваў, — за асабісты ўклад у педагагічную дзейнасць па выхаванні маладых спецыялістаў;

**развіццё міжнародных культурных сувязей**

БАТЫРАВАЙ Ліліі Рыгораўне, старшыні грамадскага аб'яднання "Брэсцкае абласное музычнае таварыства", выкладчыку Брэсцкага музычнага каледжа імя Р.Шырмы, — за арганізацыю сувязі творчай моладзі розных краін у галіне музычнага мастацтва;

**музейная справа**

ГУБАРЭНКУ Валерыю Уладзіміравічу, дырэктару мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой", — за шматгранную і актыўную дзейнасць калектыву мемарыяльнага комплексу па патрыятычным выхаванні падрастаючага пакалення, асабісты ўклад у справу зберажэння і развіцця мемарыяла;

САЛАЎЁВАЙ Алене Андрэеўне, дырэктару Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, — за значны ўклад у зберажэнне і папулярызацыю гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі ў 2000 годзе;

**бібліятэчная справа**

калектыву Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя Янкі Купалы г.Мінска — за значны ўклад у бібліятэчнае абслугоўванне жыхароў г.Мінска, стварэнне лакальнай камп'ютэрнай сеткі;

ПАЦЭНКУ Мікалаю Іванавічу, дырэктару Бераставіцкай раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы, — за адданую працу па стварэнні гісторыка-дакументальнай кнігі "Памяць" Бераставіцкага раёна;

**мастацкая самадзейнасць**

калектыву народнага ансамбля танца "Беларусь" Бабруйскага раённага цэнтра культуры — за прапаганду беларускага танцавальнага фальклору і паспяховы ўдзел у Міжнародным фальклорным фестывалі "Палескі карагод" у 2000 годзе;

народнаму ансамблю танца "Радасць" Брэсцкага гарадскога Дома культуры — за захаванне лепшых узораў харэаграфічнага мастацтва беларускага народа і плённую канцэртную дзейнасць у 2000 годзе.

2. Выдзеліць Міністэрству культуры са сродкаў фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва 36 млн. рублёў на правядзенне ўрачыстай цырымоніі ўручэння прэмій з улікам выплаты 21 спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і 5 прэмій "За духоўнае адраджэнне" ў 2000 годзе.

3. Вызваліць асоб, якім выплачваюцца спецыяльныя прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з дадзеным распараджэннем, ад спагнання падаходнага падатку па сумах атрыманых прэмій."

*На здымку: Аляксандр Лукашэнка ўручае прэмію "За духоўнае адраджэнне" драматургу Аляксею Дудараву.*

ВІНШУЕМ!

# Кажам "Песняры", маем на ўвазе Мулявіна...

...А калі мы гаворым: "Мулявін", дык маем на ўвазе "Песняроў". Гаварыць жа можна бясконца. Бо са сваіх 60-ці гадоў (і гэтая дата акурат сёння, 12 студзеня) без году 40 Уладзімір Мулявін звязаны з беларускім музычным мастацтвам. Праца ў сталічнай філармоніі, у 69-м — стварэнне вакальна-інструментальнага ансамбля, якому было наканавана зрабіцца легендай беларускай, дый усёй колішняй савецкай, эстрады...

Народны артыст Беларусі Уладзімір Мулявін — гэта непаўторны выканаўчы стыль. Гэта індывідуальны кампазітарскі почырк, спалучаны з паэтычнымі радкамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Петруся Броўкі, Уладзіміра Маякоўскага, Яўгена Еўтушэнкі. Гэта своеадметнае аблічча песенных аранжыровак, без якіх не набылі б "фірмовага" гучання мелодыі Юрыя Семянякі, Ігара Лучанка, Ігара Паліводы, Эдуарда Ханка, Аляксандры Пахмутавай.

Уладзімір Мулявін — гэта смелае ўвасабленне Купалавай паэзіі ў "Песні пра долю" і адэкватнае музычнае прачытанне ранніх вершаў песняра; гэта пяшчотная прапікнёнасць "Александрыны", "Завушніц"; гэта жывыя "нервовыя клетачкі" вакальна-інструментальнай кампазіцыі "Праз усю вайну"; гэта зямны і ўзнёслы, вясёлы і драматычны, абноўлены і спрадвечны, невытлумачальны беларускі дух каляндарна-абрадавых песень.

Словам — гэта ўся доўгая, складаная, гістарычная і сённяшняя, надзённая творчая праца "Песняроў", якія першымі ж сваімі апрацоўкамі традыцыйных "Ой, рана на Івана" ды "Касіў Ясь канюшыну" нагадалі народу яго мову і яго імя...



**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Я. КОКТЫША*

НОВАЕ

# Завітаюць музы ў Заслаўе

"Вечны рухавік" новых творчых ідэй, калектыў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі на чале са сваім мастацкім кіраўніком, народным артыстам краіны Міхалам Фінбергам, запачаткоўвае новы фестываль. Яго назва — "Заслаўе-2001", яго мэта — прапаганда і папулярызацыя лепшых узораў камернай інструментальнай творчасці, беларускай музычнай спадчыны сярод несталічнай публікі.

А як жа "Музы Нясвіжа"? Гэтая адметная імпрэза, укаранёная ў мастацкае жыццё нашай краіны, адбудзецца, паводле традыцыі, у маі, і ўжо, дарэчы, шосты раз. А першы музычны фестываль у старажытным і легендарным Заслаўі пройдзе 19—20 студзеня. Калі пачатак будзе ўдалы, з яго разаўецца новая добрая традыцыя.

У студзеньскіх фестывальных праграмах возьмуць удзел камерныя калектывы, што працуюць у складзе Дзяржаўнага канцэртнага: ансамбль трубачоў "Інтрада" пад кіраўніцтвам М. Волкава, ансамбль флейтыстаў "Сірынкс" пад кіраўніцтвам Н. Аўраменкі, Актэт драўляных духавых інструментаў пад кіраўніцтвам Б. Нічкова, Камерны аркестр на чале з В. Сароквм. У рэпертуары — творы М. Кл. Агінскага, М. Ельскага, А. Лядава, Н. Орды, Г. Гарэлавай, Ф. Мендэльсона, П. Чайкоўскага, Ф. Шуберта, Е. Фаміна... З праграмай "Анталогія беларускай народнай песні" ў фестывалі ўдзельнічае Акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы пад кіраўніцтвам Л. Яфімавай. "Заслаўе-2001" набывае важнае асветніцкае значэнне дзякуючы папулярнаму пазнавальнаму каментарыю музыказнаўцы В. Дадзіёмавай, якая будзе весці канцэрты.

Арганізатары імпрэзы — Заслаўскі гарвыканкам, упраўленне культуры Мінаблвыканкама, Міністэрства культуры, заслужаны калектыў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі — спадзяюцца, што новы фестываль арганічна ўвойдзе ў жыццё старажытнага і перспектыўнага горада, а таксама выкліча цікавасць мінскіх меламанаў. Маем яшчэ адну магчымасць паслухаць выдатную музыку ў выкананні калектываў, якія не часта выступаюць у сталічных залах і — рыхтуймася да рамантычнай вандроўкі з музамі...

**С. Б.**

СУСТРЭЧЫ

# Абрус і ручнік з Амерыкі

Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч" пад кіраўніцтвам Галіны Дзягілевай вызначаецца сваёй прынцыповай пазіцыяй слугавання Беларускай Ідэі. Невялікі мабільны творчы калектыў тэатра, маючы сталую тэатральную пляцоўку ў касцёле св. Сымона і св. Алены, часта працуе на выездах у бібліятэках, вучэльнях, школах розных гарадоў рэспублікі для маладой аўдыторыі. Паэтычнае слова нашых паэтаў Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, Ларысы Геніюш, а таксама нашых сучаснікаў — Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Алеся Разанава, Уладзіміра Арлова, Надзеі Артымовіч у выкананні таленавітых акцёраў тэатра набывае новае арыгінальнае асэнсаванне.



Неардынарная падзея адбылася ў Беларускім паэтычным тэатры аднаго акцёра "Зніч" 12 снежня мінулага года. На монаспектаклі "Віленскія мроі", пастаўленым паводле ўспамінаў Юльяны Вітан-Дубейкаўскай і вершаў Надзеі Артымовіч, прысутнічала Маргарыта Пярова з Санкт-Пецярбурга, каб выканаць прыемную і незвычайную місію. Маргарыта Сяргееўна, паходжанне з славутага роду Луцкевічаў, прывезла ў дарунак тэатру "Зніч" абрус і ручнік, якія належалі Ю. Вітан-Дубейкаўскай і захоўваліся, па запавеце, у Яніны Каханоўскай, бабулі знакамітага Данчыка, у ЗША.

Юльяна Вітан-Дубейкаўская (Літаратурны псеўданім Кветка Вітан) з роду Мэнке — немка, народжаная ў Вільні, была нявесткай Івана Луцкевіча, выдатнага дзеяча беларускага Адраджэння. Яна даглядала свайго любага, цяжка хворага на сухоты, да самай смерці. Сустрэцца і пазнаёміцца са сваякамі жаніха Юльяне давялося праз многа год на чужыне, у эміграцыі. Асабліва пасябравала яна з Янінай Каханоўскай, пляменніцай Івана і Антона Луцкевічаў. Менавіта Яніна папрасіла Юльяну напісаць успаміны, а пасля перадрукавала іх.

У сваіх мемуарах, напісаных у Нюрнбергу ў 1953 годзе, спадарыня Вітан-Дубейкаўская, карыстаючыся сваімі дзённікавымі нататкамі, жыва, вобразна ўзнавіла падзеі саракагадовай даўніны. Дзякуючы руплівасці Лявона Луцкевіча, мемуары выйшлі асобным выданнем у Вільні ў 1994 годзе пад назвай "Мае ўспаміны". А ў 1996 годзе адбылася прэм'ера спектакля "Віленскія мроі".

Галіна Дзягілева, выканаўца ролі Юльяны Мэнке, паставілася да працы з усёй адказнасцю. Яна ліставалася з Янінай Каханоўскай, кансультавалася з карэннымі віленчукамі Лявонам Луцкевічам і Галінай Войцік. Вынікам натхнёнай працы рэжысёраў Д. Марыніна, Д. Саладухі, мастака Барыса Герлавана, кампазітара А. Залётнева і актрысы Галіны Дзягілевай стаў выдатны спектакль, прызнаны беларускай грамадскасцю як творчае дасягненне тэатра.

Паглядзеўшы відэазапіс монаспектакля "Віленскія мроі" ў Амерыцы, Яніна Каханоўская была ў захапленні. У знак сваёй высокай ацэнкі гэтай унікальнай тэатралізацыі мемуараў Яніна Каханоўская даслала з Маргарытай Пяровай на Бацькаўшчыну рэчы, якія належалі спадарыні Вітан-Дубейкаўскай. Ільняны даматканы абрус, аздоблены карункамі, і ручнік, які вышыла чырвоным раслінным арнаментам і ўпрыгожыла ўласнай манаграмай сама Юльяна, захоўваліся ў эміграцыі як дарагія сэрцу рэліквіі.

У сваім выступленні Маргарыта Пярова паведаміла, што спадарыня Яніна Каханоўская спадзяецца, што ў будучым гэтыя рэчы зоймуць належнае месца ў музеі братоў Луцкевічаў.

**Ірына МАРАЧКІНА**

АБСЯГІ

## ГОМЕЛЬШЧЫНА...

### "Каханне Ганны Чарнушкі"

Набліжаецца васьмідзесяцігадовы юбілей з дня нараджэння Івана Мележа. Мазырскі гарадскі тэатр, які носіць імя гэтага славутага земляка, даўно пачаў рыхтаваць прэм'еру спектакля ў новай версіі па матывах трылогіі пісьменіка "Людзі на балоце". П'есу напісаў вядомы беларускі драматург Алесь Петрашкевіч. Прэм'еру спектакля "Каханне Ганны Чарнушкі" ўсе чакалі з неаслабнай увагай. Кожнага цікавіў лёс, жыццё, высокія чалавечыя пачуцці мележаўскіх герояў. Таму прэм'ера прайшла пры поўнай зале. Застаецца дадаць, што актыўны ўдзел у падрыхтоўцы спектакля прынялі выкладчыкі і студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў.

### Асэнсаванне часу

На Гомельшчыне добра вядома імя жывапісца і графіка, сябра Саюза мастакоў Генадзя Говара. Ён з'яўляецца аўтарам шматлікіх цікавых твораў. Сярод іх — серыя работ пра старажытныя гарады вобласці. Мастак прымаў удзел у афармленні экспазіцый Гомельскага і Мазырскага краязнаўчых музеяў. А яшчэ Генадзь Говар піша вершы. Нядаўна ён выпусціў другі зборнік "Мой нечаканы вершапад..." Прэзентацыя яго адбылася на радзіме мастака, у Жлобіне. Асноўная тэма кніжкі — асэнсаванне часу, роздумы аўтара над мінулым і сучасным, адлюстраванне роднай прыроды.

### Віншаванні — палацу

Споўнілася сорак год Палацу культуры буйнейшага ў рэспубліцы вытворчага аб'яднання "Гомсельмаш". На працягу гэтага часу ў палацы рэгулярна праводзяцца самыя розныя вечарыны, конкурсы, сустрэчы з цікавымі людзьмі. Тут выступалі, напрыклад, Максім Танк, Ігар Лучанок... У палацы працуюць розныя самадзейныя калектывы. Асаблівая ўвага надаецца дзіцячай творчасці. Гонарам палаца стаў папулярны ўзорны дзіцячы ансамбль танца "Апельсін", які з поспехам выступаў на шматлікіх сцэнах, у тым ліку краін Заходняй Еўропы. З нагоды юбілею ў палацы адбыўся святочны канцэрт.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## ГРОДЗЕНШЧЫНА...

### Ізастудыя сустракае тысячагоддзе

Да тэмы мяжы тысячагоддзяў звяртаецца сёння большасць творчых асоб. І гэта зразумела. Уступаючы ў новую эру, людзям хочацца асэнсаваць перажытае чалавецтвам і скіраваць погляд у будучае. Не засталася ўбаку і дзіцячая ізастудыя абласнога Дома тэхнічнай і мастацкай творчасці моладзі, дзе адкрылася выстава "Замкавая, 13". Каля 30 самадзейных аўтараў ва ўзросце ад 6 да 30 гадоў дэманструюць свае жывапісныя і графічныя працы.

— Кожны з іх стараецца выявіць у карцінах уласны погляд на свет, — менавіта гэта лічыць галоўнай перавагай выставы кіраўнік студыі, выкладчык Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы Іван Русачак. — Аўтары звяртаюцца да простых рэчаў і менавіта ў іх знаходзяць непаўторную прыгажосць. І гэта сімвалічна, бо сапраўдныя чалавечыя каштоўнасці застаюцца нязменнымі, нягледзячы на змену стагоддзяў і тысячагоддзяў.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

## ВІЦЕБШЧЫНА...

### Чарговы нумар

Выйшаў новы, восьмы, нумар літаратурна-мастацкага альманаха "Калоссе", які выдаецца Таварыствам Вольных Літаратараў. Кожны нумар прыемна ўражвае творамі як мясцовых, так і замежных літаратараў. Чарговы альманах парадаваў аматараў творчасці Змітрака Куніцкага: паэт раптам выступіў з прозай — "Полацкімі гісторыямі"...

Прэзентацыя альманаха адбылася ў Полацкім дзяржуніверсітэце. Плануецца правесці яе і ў іншых кутках Беларусі.

### Гучалі вершы...

Як паведамляе літаратурнае і культурна-асветніцкае выданне "Полацкі лабірынт", напрыканцы года адбылося чарговае пасяджэнне літаратурнага аб'яднання "Наддзвінне". Ягоныя сябры абмяркоўвалі важныя жыццёвыя праблемы, чыталі вершы...

А 22 снежня прайшла прэзентацыя зборніка паэзіі Надзеі Салодкай "Я ішла да сябе...".

**Наш кар.**

## МАГІЛЁЎШЧЫНА...

### Напярэдадні дня паэзіі

Падчас падрыхтоўкі да Сусветнага дня паэзіі, які пройдзе на Беларусі 21 сакавіка пад эгідай ЮНЕСКА, праведзены нацыянальны конкурс на лепшы верш сярод навучэнцаў пачатковых і сярэдніх беларускіх школ. У ліку юных аўтараў, чые творы адзначаны аўтарытэтным журы, і малады паэт з Магілёўшчыны — навучэнец Бялыніцкай сярэдняй школы N 1 Сяргей Скамейка.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## МІНШЧЫНА...

### Бывай, дваццаты век...

У Беларускай акадэміі музыкі прайшла літаратурна-музычная кампазіцыя "Я стаміўся ад дваццатага веку...": са сваімі вершамі аматараў паэзіі знаёміў Андрэй Скарынкін. Прагучаў у тым ліку і твор, прысвечаны бацьку — перакладчыку "Боскай камедыі" Дантэ — Уладзіміру Скарынкіну. Старэйшы Скарынкін таксама выступіў на вечарыне. Цёплыя словы аўтару кампазіцыі выказаў вядомы мастак Аляксей Кузьміч. На вечарыне былі выкананы ўпершыню дзве песні артыста-парадыста Сяргея Краўца на словы А. Скарынкіна. Гучалі таксама сімфоніі Алега Хадоскі.

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

## У гасцях у творчых дзяцей

У Палацы дзяцей і моладзі Мінска, пры аддзеле тэхнічнай творчасці вядзецца работа па стварэнні дзіцяча-юнацкай тэлестудыі.

Ужо сёння, паралельна з фармаваннем матэрыяльна-тэхнічнай базы студыі, працуюць гурткі "Аператар гуказапісу", "Аператар" і "Асновы тэлежурналістыкі". Пакуль гэта толькі пачатак. У перспектыве колькасць гурткоў па спецыфіцы тэлебачання будзе расці.

Нядаўна ў гасцях у дзяцей, якія займаюцца ў гуртку "Асновы тэлежурналістыкі", пабывалі паэты Анатоль Зэкаў (галоўны рэдактар "Лясной газеты") і Віктар Шніп (першы намеснік галоўнага рэдактара газеты "Літаратура і мастацтва").

Госці расказалі дзецям пра сябе, пра сваю работу, пазнаёмілі дзяцей са сваімі творамі, адказалі на пытанні. Больш за гадзіну ішла цікавая размова пра беларускую літаратуру і пра журналістыку. Закончылася сустрэча, натуральна, аўтографамі.

В. ПАГОДНЯ

## Гастролі на Урале

Нядаўна Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача вярнуўся з гастроляў у Екацярынбургу. Гэта стала значнай падзеяй для калектыву, бо за межы рэспублікі тэатр апошні раз выязджаў ажно ў 1993 годзе на Украіну: гастраляваў у Львове і выступаў у Днепрапятроўску на Першым украінскім дабрачынным фестывалі. (У кастрычніку Екацярынбургскі тэатр юнага гледача, адзін з лепшых дзіцячых тэатраў Расіі, гастраляваў у Мінску. І вось цяпер — гастролі ў адказ.)

Екацярынбуржцам Беларускі тэатр прапанаваў свае лепшыя спектаклі: "Маленькі лорд Фаўнтлярой" паводле Ф. Бернет (ім распачалі гастролі), "Сястра мая Русалачка" Л. Разумоўскай, "Петэр Мунк і яго каменнае сэрца" паводле В. Гаўфа і "Шчаслівыя жабракі" паводле К. Гоцы, а на малой сцэне для юных гледачоў паказаў казку "Самы... Самы... Самы..." паводле М. Гусева.

Усе ўдзельнікі беларускага калектыву ў адзін голас гаварылі, што гастролі прайшлі выдатна, з поспехам; спектаклі прымаліся вельмі добра. Уральскія гледачы, у параўнанні з нашымі, паводзілі сябе на спектаклях больш стрымана. А ўзрост гледачоў адпавядаў прапанаваным ім спектаклям, што, на жаль, далёка не заўсёды бывае на нашых мінскіх. Больш за 8 тысяч гледачоў пабывала на спектаклях тэатра. Сумненні наконт моўнага бар'ера аказаліся залішнімі. І як прыемна было, калі пасля спектакля падыходзілі гледачы, што некалі жылі на Беларусі ці служылі тут у войску, і гаварылі, што з задавальненнем чулі беларускую мову.

Праўда, спектаклі "Маленькі лорд Фаўнтлярой" і "Шчаслівыя жабракі" ішлі з перакладам на расійскую мову (агучваў па трансляцыі А. Андросік), але, як лічаць акцёры, можна было гэта не рабіць, бо і так было зразумела. Але ж гэта не выключае, што да гастролей за межамі рэспублікі можна рабіць укладыш у праграму (ці нават спецыяльную праграму) з разгорнутай анатацыяй на спектакль, дзе, магчыма, даць і невялічкі слоўнічак з асобнымі беларускімі словамі і выразамі.

Сустракалі і прымалі беларусаў надзвычай сардэчна і добразычліва. Больш гасцінных, уважлівых, чулых гаспадароў за Екацярынбургскі тэатр і ўявіць немагчыма. Беларусы пастаянна адчувалі ўвагу да сябе, клопат з боку кіраўніцтва тэатра. У Доме акцёра адбылася сяброўская сустрэча двух калектываў. А на развітанне кожны з акцёраў атрымаў невялікі сувенір.

Гастролі тэатра шырока асвятляла мясцовая студыя тэлебачання. Амаль кожны дзень нашы гастралёры былі яе гасцямі: адбыліся выступленні кіраўнікоў тэатра і вядучых акцёраў, інтэрв'ю з акцёрамі. Супрацоўнікі тэлебачання паабяцалі падрыхтаваць спецыяльную праграму — справаздачу пра гастролі мінскага ТЮГа і паказаць яе па каналу "Россия".

А закончыліся гастролі канцэртам, наладжаным расійскім і беларускім калектывамі. Дзве з паловай гадзіны доўжылася гэтае вясёлае святочнае прадстаўленне, у якім прынялі ўдзел і прадстаўнікі беларускай дыяспары Екацярынбурга: яны прывіталі і выканалі некалькі беларускіх песень (на словы Ніла Гілевіча), а дырэктар уральскага тэатра Яніна Кадачнікава "выдала" верш пра нашу бульбу (і на беларускай мове).

Дарэчы, жывуць акцёры Екацярынбургскага тэатра юнага гледача, па словах Міколы Лявончыка (прафсаюзнага дзеяча тэатра, а ён ужо разбіраецца ў гэтым), разы ў тры лепш за нашых. Білет у тэатр на вячэрні спектакль каштуе прыблізна $1-2, на ранішнік — $1.

З задавальненнем успамінаюць гастролі ўсе яго ўдзельнікі. Яны, як сказаў М. Лявончык, далі магчымасць нібыта збоку зірнуць на свой тэатр, уявіць сваё сапраўднае становішча і зразумець, што наш тэатр — тэатр еўрапейскі.

Дзіяна СТЭЛЬМАХ

САМ-НАСАМ З РАДЗІМАЙ І З ЧАСАМ

Ніл ГІЛЕВІЧ

# За адно я ўсё ж удзячны свайму бяздольнаму часу



За што — за адно? За тое, што выхаваў у нянавісці да здрадніцтва, да хцівасці, да пошласці і цынізму, да паскудства і гадства. Гэта зрабіла перш за ўсё літаратура "сацыялістычнага рэалізму", якую цяпер абзываюць усякімі апошнімі словамі. Зрабілі такія кнігі, як "На прасторах жыцця" Якуба Коласа, "Трэцяе пакаленне" Кузьмы Чорнага, "Над Бугам" і "Гой" Міхася Лынькова, "У зялёнай дуброве" і "Сцяг брыгады" Аркадзя Куляшова, "Як гартавалася сталь" Мікалая Астроўскага, "Школа" і "Далёкія краіны" Аркадзя Гайдара, "Разгром" і "Маладая гвардыя" Аляксандра Фадзеева, "Бялее парус адзінокі" Валянціна Катаева, "На ўвесь голас" Уладзіміра Маякоўскага, "Краіна Муравія" і "Васілій Цёркін" Аляксандра Твардоўскага, "Ціхі Дон" Міхаіла Шолахава, песні Міхаіла Ісакоўскага і многае іншае — усяго не пералічыш. Калі 10-гадовым хлапчуком ці 14-гадовым падлеткам я чытаў гэтыя творы — я, вядома ж, не задумваўся, колькі ў іх праўды жыцця, аб'ектыўнай гістарычнай рэальнасці, а колькі выдумкі, тэндэнцыйнасці, зададзенасці. Для мяне яны былі бясспрэчна праўдзівымі. Праўдзівыя высокай праўдай маральнай чысціні, душэўнага хараства, адухоўленасці. Праўдзівыя вялікай праўдай чалавечнасці. Праўдзівыя праўдай веры ў дабрыню, у светлых, прыгожых людзей, у тое, што жыццё на зямлі можна вызваліць ад бруду і жорсткасці, зрабіць яго разумным, справядлівым, прывабным. Праўдзівыя непрымірымай праўдай нянавісці да слізнякоў і падонкаў, да запраданцаў і рэнегатаў, да казнакрадаў і выхапняў.

І калі я сёння, нягледзячы на ўзрост, змагаюся за дэмакратычны дзяржаўны лад, за свабоднае жыццё на свабоднай Радзіме, — дык толькі таму, што ў маё сэрца і душу навек увайшла вось гэтая **высокая, вялікая, неперажножная праўда,** што я ведаю: без гэтае праўды ў поўным сэнсе слова дэмакратычнага, свабоднага, чалавечнага жыцця няма і не можа быць. А што без яе можа быць? А тое, што сёння ёсць. І не ўдакладняйце ў мяне — што. Калі не бачыце і не адчуваеце самі — я вам не дапамагу. А тым, каму сёння спакойна і ўтульна на гэтым свеце, размовы аб нейкай праўдзе непатрэбныя.

Дык вось: я бясконца ўдзячны свайму часу за тое, што ён выхаваў ува мне невымерную агіду да той пошласці і гнюсоты, якая з усіх замежных тэлеэкранаў ужо доўгі час (не адзін дзесятак гадоў) плыве ў душы грамадзян Беларусі, у тым ліку і перш за ўсё — у душы моладзі; за тое, што я не магу яе, гэту гнюсоту, бачыць і цярпець, што ад усведамлення гэтага мне хоць трохі лягчэй хадзіць па зямлі.

Пяць гадоў назад я напісаў і апублікаваў гнеўны, можа, нават занадта гнеўны, публіцыстычны верш "Дакуль жа?", у якім выказаў сваю пазіцыю і свой погляд на пастаянную, метадычную, прадумана-забойчую апрацоўку беларускай душы з дапамогай тэлеэкрана. Верш у абарону той **праўды**, за якую я ўдзячны свайму часу. Дазволю сабе паўтарыць яго тут, на гэтай старонцы, — можа, ён і каму-небудзь з чытачоў "ЛіМа" прыдасца.

*Няшчасныя людзі няшчаснай краіны!*
*Ці душы ў нас сталі пачварна-крывымі,*
*Ці сэрцы зачахлі, ці кроў звадзянела,*
*Што столькі ўжо часу бязмоўна-знямела*
*Мы церпім і церпім, нібыта не бачым,*
*Як з тэлеэкрана, са смакам быдлячым,*
*Паганіцца, плюндрыцца, бэсціцца тое,*
*Што ёсць наша права, адвеку святое?*
*Прыстойнасць забыта. Сумленне сканала.*
*Любою парою, з любога канала —*
*Дзярэцца народзец адзін і той самы:*
*Крыўлякі,*
*Паскуднікі,*
*Цынікі,*
*Хамы.*

*Націсну на кнопку — а раптам, а раптам:*
*Спаткаюся зараз у полі з аратым,*
*Ці ў цэху з рабочым, ці з доктарам мудрым,*
*А раптам — з любоўю, а раптам — не з брудам!*
*А раптам засвеціцца скрынка прыгожа:*
*Ці нечым з Купалы, ці з Пушкіна, можа,*
*Ці думай Шаўчэнкі, ці песняй Забэйды, —*
*І чуўся ж бы лепей, і дыхаў лягчэй бы!*
*Ды дзе там! Які там Купала з народам!*
*Дыханне спірае атрутным смуродам.*
*З брыды і гнюсоты нам твораць праграмы*
*Крыўлякі,*
*Паскуднікі,*
*Цынікі,*
*Хамы.*

*Адкуль гэта гадства? Каму яно трэба?*
*Чаму не ўстановіць дзяржава дэкрэта?*
*А хочам, а хочам — і ўсюды вяшчаем,*
*Што хочам, што мэтай жыццёваю маем —*
*Такое грамадства наладзіць культурна,*
*Дзе кожнаму будзе і добра і ўтульна.*
*Дык кіньце фальшывыя лозунгі вобзем!*
*Нічога для шчасця мы ў Бога не возьмем!*
*Нічога! — пакуль на развалінах веры,*
*У кожнай хаціне, у кожнай кватэры,*
*Дратуюць і топчуць наш гонар нагамі*
*Крыўлякі,*
*Паскуднікі,*
*Цынікі,*
*Хамы.*

Не ведаю, хто з чым пераступіў парог XXI стагоддзя, а я — з праўдай, пра якую тут крыху падзяліўся думкамі, якая была, ёсць і будзе мне надзейнай апорай.

## Марыя ДЭМКОВІЧ: "Верыць ў Бацькаўшчыну"

*Дзякуючы яе намаганням Беларусь атрымала больш чым на паўмільёна долараў медыцынскай дапамогі: лекаў, вітамінаў, абсталявання. Яе віталі Буш і Шушкевіч. Ёй дзякавалі за дапамогу чарнобыльскім дзецям колішні міністр замежных спраў Беларусі Краўчанка, былы пасол у Амерыцы Мартынаў, былы прадстаўнік нашай дзяржавы ў ААН Бураўкін. Яе імя можна знайсці сёлета ў амерыканскай медыцынскай энцыклапедыі.*

*Доктар Марыя Барысаўна Дэмковіч. Амерыканка беларускага паходжання. Сумленная жанчына. Справай гонару лічыць дапамогу беларускім дзецям, якія пацярпелі ад чарнобыльскай бяды. Яна — пачэсны сябра Усеамерыканскага інстытута ракавых захворванняў. Гэта менавіта Дэмковіч выступіла калісьці ў ААН, закрануўшы праблему неадкладнай дапамогі беларусам-чарнобыльцам. Гэта менавіта Дэмковіч у Белым Доме на пасяджэнні прадстаўнікоў рэспубліканскай партыі, запрошаных прэзідэнтам Бушам, аргументавана пераканала ўсіх звярнуць увагу на наступствы чарнобыльскай трагедыі ў Беларусі. Менавіта Дэмковіч працягвае клапаціцца пра хворых беларускіх дзяцей і сёння. Тыя дзеткі, якія атрымліваюць з Амерыкі лекі, вітаміны, цацкі, нават не ведаюць, што ўсё гэта робіцца намаганнямі былой беларускай дзяўчыны, якая змушана была развітацца з зямлёй сваіх продкаў у трынаццаць год...*

*Трынаццаць год — дастатковы ўзрост, каб памятаць і ўсё жыццё жыць з гэтай памяццю. Памяццю пра матчыну мову, родныя твары, маляўнічасць і прыгажосць краю, пра ўсё тое, што называецца Бацькаўшчынай...*

**Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ**

Хачу расказаць пра свайго бацьку. Пра яго ж амаль ніхто не ведае. А ўсё тое, чым зараз жыву, у што веру, закладзена іменна ім. Шчырасць, дабрыня, самаахвярнасць і міласэрнасць... Як гэтага не хапае зараз людзям.

Аня Рамановіч з Моталя ўспамінае: "Хварэла на сухоты. Ратунку ніякага. І раптам, як цуд, прыходзіць пасылка ад твайго бацькі. А там лекі. Дзякуючы твайму бацьку я жывая!".

Тата на той час жыў у Амерыцы і як мог дапамагаў землякам. Адпраўляў на родную Беларусь пасылкі. Падтрымліваў бедных. Ніколі не забываў, што ён беларус. Францішак Бартуль расказваў мне, што ў 1943—1944 гадах бацька апынуўся ў Кёнігсбергу, дзе было шмат беларусаў без дакументаў. Ніхто не ведаў, што рабіць, як ратавацца ад ваеннай навалы. Дзякаваць Богу, найбольш актыўныя і разумныя стварылі арганізацыю ўзаемадапамогі. Бацька працаваў у канцылярыі. Для яго кожны беларус быў свой. І ён усё рабіў, каб дапамагчы чалавеку, які апынуўся за мяжой без дакументаў. Не было ніякай бюракратыі. Шмат людзей ураваў мой бацька...

Нарадзіўся Барыс Пятровіч Рамановіч у 1905 годзе. Вучыўся ў Самарскай гімназіі. У 22-ім сям'я пераехала ў Моталь, што на Піншчыне. Купілі зямлю. Ягоны бацька Пётра і малодшы брат Паўла вялі гаспадарку. Але тату не вабіла праца ў полі. Сваёй справай заняўся. Пабудавалі цагельню, рабілі чарапіцу. Татка вёў усю бухгалтэрыю... Спачатку ўступіў у кампартыю, але з цягам часу выйшаў з яе добраахвотна. Мой дзядулька, відаць, пераканаў, які камуністаў не вельмі любіў. Але калі прыйшлі палякі, на татку нехта данёс, што ён быў бальшавіком. Арыштавалі яго...

Усё маё дзяцінства асветлена бацькавай дабрынёй. Я і мае дзве сястрычкі Галя і Оля выхоўваліся з любоўю. Ніколі татка не крычаў на нас. Абыходзіўся з намі тактоўна.

Памятаю яшчэ, як тата гаварыў, што хоча пайсці ў рэзерв, у армію. Аднойчы заскочыў узбуджаны ў хату, сказаў усхвалявана: "Вайна будзе, хутка развітаемся!". Ён ведаў, што немцы захапілі Чэхію, а Польшча — на чарзе. Хтосьці раіў яму схавацца, але ён ад'ехаў. І ніколі ўжо дамоў не вярнуўся. Але перад тым як ад'ехаць, зайшоў да мяне ў пакойчык і абсыпаў усю... цукеркамі! Я ж так любіла шакалад!

Праз час хтосьці паведаміў, што бачыў, як немцы забілі нашага бацьку. Можаце ўявіць, што мы перажылі. Але Бог пашкадаваў нас — прыйшоў ліст ад таты! Я скакала і спявала ад шчасця.

На жаль, у жыцці бываюць не толькі светлыя і шчаслівыя моманты. У вайну загінулі мой дзядулька Пётр, дзядзькі Павел і Мікалай.

Мой татка заўсёды марыў пра вольную Беларусь. Пра незалежнасць. Пра нашу Бацькаўшчыну, якая б мела годнае месца сярод еўрапейскіх народаў...

Бацька прыехаў у Амерыку, калі яму яшчэ не было і сарака. З маці маёй развёўся, каб не чапляліся да яе, ды не звялі са свету нас, як ягонага татку і братоў. У Амерыцы ажаніўся зноў, але не мог не клапаціцца пра нас, не мог кінуць у бядзе родных, дапамагаў як мог. Новая жонка была супраць, таму ён гэты шлюб скасаваў... Калі наведала бацьку вельмі хворага ў Амерыцы, было яму за 60. Дапамагаў нам увесь гэты час. Купіў дом маме, мне. Каб хоць як аддзячыць, захацела забраць яго да сябе ў Польшчу. Але бацькавы сябры А. Бушкевіч і К. Прадун, дазнаўшыся пра нашы планы, засцераглі: "У Беларусі ёсць нейкае пісьмо, дзе нехта абвінавачвае твайго бацьку ў тым, што ён... загадаў фашыстам спаліць Моталь... Ехаць у Польшчу нельга — там тыя ж камуністы". Нейкае дзікунства! Ці мог бацька загадваць немцам?! Дый знаходзіўся ён на той час у Кёнігсбергу... Шмат пазней атрымаў бацька ліст ад нейкага спадара Мікалая: "Барыс, прабач, калі можаш. Я змушаны быў падпісаць гэтую паперу, бо мяне білі... Прабач, зграшыў я..."

Пішу гэтыя радкі, каб яшчэ раз пераасэнсаваць бацькава жыццё, у якім не было месца ні хлусні, ні здрадзе, ні абыякавасці... Я проста пераканана, што такіх людзей заўжды шмат, толькі на іх і трымаецца гэты свет. Верыць у Бацькаўшчыну, дапамагаць адзін аднаму, спараджаючы і працягваючы дабрыню ў дзецях сваіх і ўнуках — ці ж не ў гэтым прызначэнне любога шчырага і сумленнага чалавека.

# Я жыву ў Краіне...

## БЫТ І НЕБЫТ

...ДАДОМУ З АПТЭКІ вяртаюся задаволеная: атрымала ўсе патрэбныя лекі! На вуліцы лагодна цярусіцца рэдзенькі чысцюткі — першы! — сняжок. Абуджае ў душы, абуджае нязгасныя Трусавы "дыяменты-росы"... Знямелы, распрануты да апошняга лістка, парк пакорна чакае не дачакаецца, калі, нарэшце, убярэцца ён у сваё бязважкае зімовае футра... А на праспекце — у пераходзе — ружы, ружы, ружы! "Миллион, миллион, миллион алых роз!"

Жыццё цудоўнае!

І раптам у самую спіну мне, як раскаленай цаглінай:

— Пастараніся, бабка! Заняла дарогу!

Гэта — мне?!

У хлапца ў руках бруднае вядро з нечым рудым... Хлапец у замызганай апранасе і гэтакіх жа джынсах, у недатаптаных красоўках на нагах.

— Дадай кроку, бабка, не сядзіцца ёй дома!

Памылкі няма: наш, тутэйшы ўнук...

Умомант ледзянее, прыгінаецца спіна. Драбнее вінавата крок. Патухаюць, патухаюць і на вачах засыпаюцца шэрым попелам ружы... І шэры падземны пераход здаецца бясконцым.

•

... На вуліцы страчаю раптам — а страчаць знаёмых нікога не хочацца! — свайго рэдактара... Вітаемся. Усміхаемся адна адной. Цешымся: якой, нарэшце, пасля бясконцай нэндзы, светласці дачакаліся. Якога суцяшальнага хараства... Распытваем — узаемна — пра навіны, пра радню...

Прамаўчы! Стрымайся! Не трэба толькі вось так, адразу, накідвацца з роспытам пра свой уласны небыт...

(У выдавецтве марнуюцца дзве мае кнігі, падрыхтаваныя да выдання. Пра тую, што ляжыць ужо больш за дзесяць гадоў, хоць і заключана, змацаваная пячаткаю і подпісам дырэктара выдавецкая Умова, няма ўжо ні пра што, ні ў каго няма пытацца: загадчыца рэдакцыі пайшла на пенсію, а галоўныя рэдактары і дырэктары выдавецтва мяняліся, як пальчаткі... А вось маю "новую" (?) "маладую" (?) кнігу — да майго ўжо наступнага, праз наступную пяцігодку, таксама даўно мінулага "годдзя" — не маладзенькага, не маладзенькага! — вядзе Наташа... Дакладней, не "вядзе". Два гады ўжо як "прывяла" яна яе да выдання.

Але бяздонне выдавецкай брацкай магілы не спатольнае! Праўда, ляжу ў ёй не адна я. На Дзяржаўных выдавецкіх могілках мёртвым сном спіць уся не народжаная беларуская літаратура... Са святымі ўпакой!..)

І ўсё ж я не стрымліваю сябе!

— Нічога не чутно?

— Будзем спадзявацца...

Сапраўды: будзем спадзявацца.

Але што залежыць ад выдавецкага рэдактара, як бы сумленна ні шчыраваў ён над рукапісам, як бы добразычліва ні ставіўся да аўтара?..

Дырэктар выдавецтва, пры такой жа выпадковай стрэчы, той суцяшае мяне аптымістычным пафасам:

— Надзея памірае апошняй!

— Здараецца, што аўтар апярэджвае...

— Не будзем спяшацца!

Як на добры лад, яно і сапраўды лепей было б пачакаць...

— Не будзем спяшацца!

Які ўсё ж зайздросны здаровы і бадзёры рогат у гэтых дзяржаўных начальнікаў!

•

...Атрымала з поштай пісьмовую адносіну з падатковай паліцыі. Даруйце, афіцыйнае дзяржаўнае найменне гэтай установы не такое прасталінейнае і гучыць яно далікатней: "Инспекция государственного налогового комитета". Адносіна нагадвае пра Закон Рэспублікі Беларусь "О подоходном налоге с физических лиц"...

У дзяржаўнай паперы ад мяне патрабуецца: "Предоставьте декларацию о совокупности годового дохода за 1999 год. Имейте при себе справку ф. N 2 о годовом доходе с основного места работы, паспорт и ксерокопии свидетельств о рождении детей..."

Закон ёсць закон, і яго трэба выконваць.

А тут, як на тое, скаланулі свет нейкія нечуваныя дагэтуль магнітныя буры і да таго ж у атмасферы ўзніклі пачварныя чорныя дзіркі... Пра ўсё гэта можна было б казаць ужо нават з гумарам (ці не звычныя мы да самых адчайных катаклізмаў?), каб не папярэджанне ў газетах і не сведчанні медыцынскіх устаноў: у пасцелі валяецца і гібее на працы паўгорада людства... А я хіба лепшая за іншых?.. Папера з падатковай інспекцыі падгадала з'явіцца і сустрэцца якраз з гіпертанічным крызам.

Аднак законы ёсць законы... У падатковую інспекцыю званю на трэці дзень.

Кажу: "Совокупных доходов" не маю, бо 17 гадоў ужо атрымліваю працоўную пенсію.

Пытаюся: Навошта ксеракопіі "свидетельств о рождении детей", калі ў маіх дзяцей, дзякаваць Богу, ёсць ужо ўласныя ўнукі;..

Кажу: Прыехаць да вас, на жаль, не здолею. У працоўнай кніжцы маёй запісана: пачаўся мой працоўны шлях 13 мая 1942 г. у Вайсковай часці п/п 54800... А звольнілася я з працы ў выдавецтве "Юнацтва" 9 сакавіка 1983 года...

Мужчынскі голас незадаволена-абыякава перапыняе мяне:

— Это вы мне так говорите. Но я же не вижу и не могу проверить что у вас там написано.

Дакладна. Не можа. Ён жа, напэўна, не яснабачны, як Ванга, ці як Роза Куляшова...

— Ну, тады ў вас, напэўна, ёсць людзі, якія наведваюцца і правяраюць пенсіянераў дома?

— У нас таких людей нет!

— Як жа тады быць?

— Вы сами обязаны принести нам свою трудовую книжку, чтоб мы ее посмотрели.

— А калі чалавек не здолее да вас прыйсці?

— Пусть кого-нибудь попросит.

— А як няма каго?

— Обязаны принести!

— І што ж — усе пенсіянеры вось так, стройнымі шарэнгамі, і крочаць да вашых дзяржаўных дзвярэй?

— Не все-э!..

— І што ж вы робіце з тымі, што ўсётакі не з'яўляюцца?

На тым канцы провада, як і на маім, кіпенне даходзіць да крытычнай адзнакі.

— Что надо, то и делаем!

— Ну дык і мы таксама, што здолелі, тое ўсё і сделали!.. Да вашай пенсіі!..

Пагутарылі. З... дзяржавай.

•

...Адкуль ён вынырнуў раптам — з мае штодзённае слаты — той сонечны, прыветны кастрычніцкі Рым 1982 года?.. Вечны Горад!

З Мілана, з Фларэнцыі, з Венецыі даставіў туды нас, групу турыстаў, груваcткі камфартабельны мастадонт "Сальвадорэ". З яго кіроўцам — зусім не тыповым для італьянца — нетаропкім, негаваркім спаважным Леонэ. У Рыме далучылася да нас ажыўленая чароўная сіньёра Анна — гід, наша апякунка і дарадчыца па ўсіх турысцкіх праблемах.

Леонэ вазіў нас па Рыме, а сіньёра Анна захоплена знаёміла нас з яго светам — ад цэзараў яшчэ і светам сённяшніх італьянцаў.

...Патаўкліся ў вавілоне турыстаў сярод музеяў Ватыкана і наталілі смагу святой вадой аквапіяй з Траянавага акведука ў Ватыканскім дворыку... Паблукалі па Калізею. Патупалі па Рымскім Форуме. Там некалі адбываліся дзяржаўныя ўрачыстасці і ўзнасіліся галасы цэзараў. Там, зрэшты, было спалена цела Юлія Цэзара... (І ты, Брут?!). А тады, калі вазілі нас па Рыме Леонэ з сіньёрай Аннай, па Форуме вельмі будзённа, кожны са сваім, зусім не дзяржаўным клопатам, кіраваліся звычайныя італьянцы... Аб'ехалі бокам Трыумфальную дарогу (на сучасны пагляд нейкую надта вузкую). Па ёй праязджалі толькі цэзары. Па Трыумфальнай дарозе царыца Клеапатра з сынам — нашчадкам Юлія Цэзара — на сланах уступала ў Рым...

Трыумфальная дарога савецкіх турыстаў вяла — непазбежна — у самы буйны і самы танны гандлёвы цэнтр. Па нашых капіталах... Адтуль, вытрасшы апошнія ліры, можна было з лёгкай душой кіравацца і да аэрапорта Леанарда да Вінчы... Хацелася ўжо дадому!

Па дарозе трапілася, аднак, на адной з Рымскіх віа непрадбачаная перашкода-затрымка. Увесь шасціпалосны (!) шалёны аўтарух раптам замёр, спыніўся, як укопаны. На шырачэзную рымскую вуліцу ступіла сіньёра... У чорным да зямлі строі, у чорным капелюшы, з кійком у руках. З вакна салона ёй можна было даць і сто гадоў, і дзевяноста, або няхай сабе і восемдзесят... Сіньёра рухалася годна, не мітусілася, не азіралася па баках. Не прыспешвала кроку! (Уяўляеце гэта на нашай вуліцы?) Сіньёра была ўпэўненая, што ў гэты момант на гэтай шалёнай вуліцы галоўнай была яна! І яна не жадала (ды ёй гэта і ў галаву не магло прыйсці) прыніжаць сваё права.

У нашым, спыненым таксама, "Сальвадорэ" адразу ж узнікла святое савецкае абурэнне: "Чаго стаім? Чаму дарэмна марнуем час?!" Кіроўца з усмешкаю паказаў рукою на старэнькую італьянку, што няспешна кіравалася і не прайшла яшчэ і паловы шырачэзнай рымскай вуліцы.

— Зірніце на яе! Порах сыплецца, а яна на шпацыр выбралася!..

Абураліся мужчыны. Жанчыны, як адна, атарапела маўчалі... (Няўжо такое магчыма ў свеце?!.)

Леонэ, не разумеючы, з якой прычыны ў яго надзейна ўсталяваным "Сальвадорэ" ўзніклі раптам такія эмоцыі, зноў усмешліва кіўнуў у бок старой італьянкі. Тая ўсё яшчэ не адолела свой рызыкоўны маршрут.

— Сіньёра! — дабрадушна патлумачыў Леонэ, і гучала гэта так пачціва-паважальна, нібыта вуліцу пераходзіла, і ён пазнаў яе, сама Клеапатра!

•

...У свой двор вяртаюся прыцемкам (які кароткі зімовы дзень...). Пагрозліва чарнее — колькі ўжо часу — каля пад'езда яма. Раніцой спытала ў дворніка Жоры, якія гэта раскопкі вядуцца ў нашым двары? Аказваецца: рамантуецца ацяпленне... Цяпер? Толькі ў снежні спахапіліся рабіць гэта?

— А вы што хочаце, каб гэтак, як старэйшыя браты ў Прымор'і, паліць вогнішчы ды грэцца і варыць бульбу на вуліцы?

— Але ж мы так імкнёмся ў абдымкі да гэтых братоў.

— Я не імкнуся! — разумее нашу Эзопаву мову дворнік Жора. — А вам іх хочацца, гэтых абдымкаў?

— Не, гэтых абдымкаў мне таксама не хочацца.

— Хопіць уласных, тых, што здуру дамагліся і маем у сябе дома! — закурвае цыгарку і кіруецца ў свой бок (працоўны дзень скончаны!) палітык Жора.

Дзьме вецер. І, як шэрыя гусі, разлятаюцца па двары абрыўкі паперы (адкуль яе гэтулькі?). Возчык прыехаў позна і, узлаваны, прамахнуўся і скінуў няўзнак на асфальт пад ногі кантэйнер смецця...

...Добра, што на дзвярах код. Хоць не збіраюцца ў пад'ездзе на перакур у перапынкі нашы суседзі-гімназісты. (Гімназія побач з нашым дваром). Не ўзбагачаюць нас, жыхароў пад'езда, вытанчанай свай нефармальнай лексікай.

Добра, што ёсць код.

Ёсць код?!

Мая і суседчыны паштовыя скрынкі наросхрыст! У суседа ж — яшчэ і адмыслова пакалечаная, выкручаная дзверка. Як ведаючы ўсё роўна — мужык, знойзе лад і дасць рады.

(І тут жа зусім не высакароднае, амаль шчаслівае: добра, што хоць не маю — гэтак...) Нядаўняя яшчэ мода падпальваць паштовыя скрынкі мінулася. Адышла. Ды яно, што там паліць сёння? Цяпер хто выпісвае, а хто і не — адну якую газетчыну. Наш, напрыклад, пад'езд, як амаль выключна чэсны, падпісваецца на "Советскую Белоруссию"... На лаўках, каля ганка, калі толькі ўсчынаюцца жаночыя дыскусіі на палітычную тэму, непазбежна перамагае адно непахіснае: усё злачыннае нялюдства і дурнота, якія вось ужо колькі гадоў нас адольваюць, маюць адзіную толькі прычыну: бо прэзідэнту мяшаюць!

Хто і ў чым "мяшае" прэзідэнту спраўляць без памяці — які б ні выдаўся бязладны год — галасныя дажынкі, ці мала не па ўсёй Беларусі будаваць "лядовыя" дамы? — і не спрабуйце запытацца — апаненткі выдзеруць вочы!

Добра, што не пакалечаная мая паштовая скрынка!

...Затое на сёмым паверсе — у нас гэта не навіна — незачынены ліфт... Але я люблю наш стары ліфт. Гэта не тое што навейшыя — "герметычныя", магілёўскія ліфты. Засядзеш дзе-небудзь паміж трынаццатым і дзевятнаццатым паверхамі — і хочаш грукай, хочаш лямантуй — кліч на дапамогу, ці калі ў цябе слабыя нервы, у адчаі млей... Пакуль аднекуль не ўзнікнуць нябачныя сілы і не вызваляць.

А наш!.. Неяк і я завісла паміж пятым і чацвёртым паверхамі. Ну і што? Наш ліфт ажурны, як адмысловая гардзіна. Сузірай сабе свет, радуйся жыццю... Гэтак і каля мяне спыніўся сусед з сёмага паверха. Павітаўся, пацікавіўся:

— Што вы тут робіце?

— Ды вось, атрымала свежы нумар часопіса. Праглядаю.

— Дык я вам ліфцёра па тэлефоне выклічу зараз!

— Буду вам удзячная.

І выклікаў. І ліфцёр не забавіўся. Не прайшло і паўгадзіны — вызваліў мяне з цывілізаванага палону.

Хвала вам, дапатопныя ліфты! Каб жа яшчэ толькі карыстацца вамі палюдску.

А мне на шосты паверх! І прыступкі на лесвіцы ў нас стромкія, стромкія...

Нічога. Нічога... Не хвалюйцеся, сядзьце на прыступку, пасядзіце, мадам... Нічога. Дастаньце з сумкі — ён у вас заўсёды пры сабе — прыміце валідол, сіньёра...

Алена ВАСІЛЕВІЧ

 **ЧАСАПІС**

## *"Літаратура Беларусі..."*




**Дзякуючы Кастусю Цвірку (укладальнік, аўтар прадмовы, біяграфічных даведак і каментарыяў) у выдавецтве "Беларуская навука" выйшла хрэстаматыя "Літаратура Беларусі. Першая палова XIX стагоддзя". Яна дапушчана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцяў вышэйшых навучальных устаноў. Аднак з хрэстаматыяй з цікавасцю пазнаёмяцца і вучні-старшакласнікі, і выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры ды і ўсе чытачы, хто любіць беларускую літаратуру і не абмяжоўвае сябе толькі знаёмствам з кніжнымі навінкамі. І на гэта ёсць вялікая прычына: творчасць аўтараў, прадстаўленых у кнізе, не надта добра вядома нам. Хоць і выходзілі раней блізкія па змесце хрэстаматыі і калектыўныя зборнікі, але яны сёння сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Ды, трэба быць праўдзівым, да нядаўняга часу стаўленне да творчасці пісьменнікаў, якія тварылі ў першай палове XIX стагоддзя, было неадназначнае. Справа, аднак, не ў тым, што нехта збіраўся аспрэчваць мастакоўскую вартасць напісанага імі. На своеасаблівае "забыццё" іх імёнаў уплывала тое, што ў пераважнай сваёй большасці яны пісалі па-польску, а таму даследчыкі, як бы аўтаматычна і адносілі іх да польскай літаратуры.**

**У прадмове К. Цвірка падрабязна аналізуе сітуацыю, што склалася на Беларусі ў згаданы перыяд, калі "беларуская мова заставалася жыць толькі пад саламянымі стрэхамі сялянскіх хат ды ў асяроддзі беднага мяшчанства гарадоў і мястэчкаў. Яна вольна гучала хіба толькі ў народных песнях, казках, паданнях. Гэта была пераважна мова простага народа, "гміну", моцна запрыгоненага, пагарджанага фанабэрыстым панствам мужыка. Каб зрабіць яе літаратурай, передавым колам грамадства трэба было яшчэ вельмі шмат і цяжка змагацца". Галоўнае было ў тым, каб "вярнуць у грамадстве страчаную за доўгія гады прыгонніцтва звычайную чалавечую павагу да селяніна-беларуса, яго працы, да яго традыцыйнай культуры, яго прыроднай мовы — мовы беларускай зямлі, мовы Айчыны. Якраз гэтую місію ўзялі на сябе прагрэсіўныя пісьменнікі былой Рэчы Паспалітай — ураджэнцы Беларусі".**

**У прадмове К. Цвірка называе імёны асобных з гэтых літаратараў, але больш грунтоўная гаворка пра творчасць асобных пісьменнікаў вядзецца ў бібліяграфічных нататках, што папярэднічаюць публікацыі твораў — як беларускамоўных, так і польскамоўных. Пераклаў асобныя з іх сам К. Цвірка, іншыя ўзяты з папярэдніх выданняў, аб чым агаворваецца ў каментарыях.**

**Што да аўтараў, дык сярод іх і добра вядомыя, як Адам Міцкевіч, Паўлюк Багрым, Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, а таксама Вінцэсь Каратынскі, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Тадэвуш Лада-Заблоцкі, Тамаш Зан і іншыя, чые імёны таксама на слыху ў многіх.**

**Поруч імёны — менш вядомыя. Для прыкладу, хрэстаматыя адкрываецца творамі Яна Аношкі — беларускамоўным вершам "Плач пакінутага каханай" і перакладзенымі з польскай мовы Уладзімірам Дубоўкам вершамі "Муза з вясковае далі", "У роспачы", "Чорная роспач". Як сведчыць К. Цвірка, "Ян Аношка — адно з самых загадкавых імён у гісторыі беларускай літаратуры. Біяграфічныя звесткі пра яго вельмі скупыя і супярэчлівыя. Вядома толькі, што нарадзіўся ён каля 1775 года ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губерні". Гаворыць К. Цвірка і пра творчасць Я. Аношкі.**

**Вартыя ўвагі і такія імёны, як Ю.-У. Нямцэвіч, А. Гарэцкі, В. Равінскі і іншыя. Шырокавядомая ж паэма "Тарас на Парнасе" падаецца ўжо не як твор невядомага аўтара, а як напісаная Канстанцінам Вераніцыным. А першым, як вядома, такое меркаванне выказаў Генадзь Кісялёў.**

**Прыемна, што наклад хрэстаматыі, як для сённяшняга часу, немалы — больш за дзве тысячы паасобнікаў, а гэта значыць, што яе змогуць набыць, бадай, усе жадаючыя.**

**Міхась ГЕНЬКА**

***Іван Чыгрынаў пакінуў глыбокі след у нашай літаратуры. Чытацкай свядомасцю ён успрымаецца перш за ўсё як стваральнік пяці раманаў пра Айчынную вайну ("Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві", "Свае і чужыя", "Вяртанне да віны", "Не ўсе мы згінем"). У гэтых раманах, аб'яднаных адзінствам галоўных герояў (Дзяніс Зазыба, Радзівон Чубар і інш.), паказана не толькі тое, як супроць гітлераўскіх прыхадняў змагаліся нашы людзі, але і як яны жылі ў той трагічны час. А між тым Іван Гаўрылавіч быў і выдатным майстрам апавядання. Паэт Масей Сяднёў, які стаў прататыпам чыгрынаўскага героя Масея Зазыбы, казаў: "У жанры апавядання я гатовы паставіць Івана Чыгрынава на першае месца, залічыць яго да ліку нашых класікаў. Апрача артыстызму, я вывучаю ў ім і наша, нацыянальнае — філасофію, псіхіку, быт, норавы нашага народа".***

# Слова майстра не старэе

### 5 ГАДОЎ ТАМУ НЕ СТАЛА Івана ЧЫГРЫНАВА

Сказана вельмі слушна. Лепшыя чыгрынаўскія апавяданні сапраўды вызначаюцца сваёй неардынарнасцю, глыбіннай праўдзівасцю. Пісьменнік і ў часы моцнага ідэалагічнага дыктату не баяўся выходзіць на вельмі складаныя жыццёвыя праблемы, хоць гэта было звязана з вялікай рызыкай. Рэзкія нападкі з боку ідэалагічных наглядчыкаў, якія і ў літаратуры больш за ўсё баяліся праўды, выклікала пасля апублікавання ў часопісе "Полымя" апавяданне "У ціхім тумане". Гэтая, па словах Л. Дранько-Майсюка, "маленькая трагічная сімфонія" упершыню была надрукавана ў 1963 годзе пад загалоўкам "Маці". Іван Чыгрынаў потым мусіў адмовіцца ад таго загалоўка і даць больш нейтральную назву, бо пісьменніка вінавацілі ўжо за тое, што ён па-чалавечы спачувальна напісаў пра маці паліцая і тым як быццам апраўдаў і самога здрадніка.

Але такога апраўдання ў творы няма і блізка. Рэйдаў Яшка, які пайшоў у паліцыю, помсцячы за арыштаванага ў калектывізацыю бацьку, і прымае актыўны ўдзел у карных аперацыях гітлераўцаў, адназначна называецца здраднікам: "Якава Рэйду партызаны потым злавілі толькі на другое лета... Здрадніка прывезлі ў Бароўку і застрэлілі на краі бярозавага балота, там, дзе ледзь не круглы год цвякае пад нагамі іржавая вада". Яго нікім не дагледжаная магіла даўно зарасла дзірваном і зраўнялася з балотным пяском. Гэта таксама недвухсэнсоўны паказчык сапраўдных адносін нашых людзей да здраднікаў.

Дык што ж турбавала Чыгрынава? Ён напісаў пра чалавечую трагедыю старой Матруны Рэйдзіхі, якая, праз шэраг гадоў знайшоўшы закінутую магілу Яшкі, аплаквае не паліцая, а сына. Па сыне ж, які б ён ні быў, матчына сэрца баліць заўсёды. Такая ўжо ў людзей псіхалогія, нескажона адлюстраваная пісьменнікам.

Вядома, гэта агульначалавечы, а не вузкакласавы падыход. Для нашай ідэалагізаванай літаратуры ў 60-я гады ён быў яшчэ нязвыклы. Чыгрынаў адважыўся парушыць тую нязвыкласць, бо разумеў, што вузкакласавымі меркамі, якія на першы план вылучалі нянавісць, цывілізаванае грамадства пастаянна жыць не можа. Ды пісьменнік зусім не адмаўляў і заканамернасць нянавісці ў перыяд барацьбы з гітлераўцамі. Паказаў жа ён, што пацярпелыя ад карнікаў жыхары спаленай фашыстамі беларускай вёскі Бароўкі тады, у віхуры вайны, "праклінали на чым свет стаіць і немцаў, і здрадніка (Яшку), і маці, якая нарадзіла яго". І гэта адпавядала праўдзе свайго часу.

Але жыццё на месцы не стаіць. Яно няўхільна змяняецца, уносячы свае папраўкі-карэктывы ў людскія ўзаемадачыненні. Так адбылося і з героямі чыгрынаўскага апавядання "У ціхім тумане". У ім пастаўлена і рознабакова асэнсоўваецца праблема гневу і літасці ва ўзаемаадносінах былых ахвяр і здраднікаў Радзімы. Здраднікі, паўтару яшчэ раз, ніяк не апраўдваюцца, іх злачынствы не рэабілітуюцца, не выдаюцца за дабро ці за нейкую дробязь, вартую хутчэйшага забыцця. Але вастрыня нянавісці калі не да саміх здраднікаў, якім даравання, вядома, няма, дык да іхніх сваякоў, блізкіх ім людзей, — гэтая вастрыня з цягам часу прыглушаецца, гнеў саступае месца літасці, вытлумачальная ў сваім часе нецярпімасць змяняецца разуменнем і нават спагадай, за якою стаіць высакародства добрых людзей. Так па законах чалавечнасці вядуць сябе чыгрынаўскія героі, у прыватнасці Тараськова Ганна, вобраз якой для разумення праблематыкі твора вельмі важны.

Ганнінага бацьку павесілі немцы, а ім з-за старых крыўдаў зларадна дапамагаў і Яшка-паліцай. Дык Ганна пэўна ж была сярод тых, хто тады праклінаў і карнікаў, і іхніх прыслужнікаў, усё, як тады казалі, паліцэйскае кодла. Але прайшлі гады. Самога здрадніка, які атрымаў па заслугах, даўно няма на свеце. Таму ўжо можна па-чалавечы паставіцца і да ягоных сваякоў, у тым ліку да маці, вінаватай міжвольна, толькі тым, што яна нарадзіла хлопца, які стаў паліцаем, не пытаючыся згоды ў яе.

Важна таксама, што Ганна ўспрымае Рэйдзіху як старую, нямоглую жанчыну, моцна патрапаную жыццёвымі нягодамі. Гэтая акалічнасць прыкметна падкрэсліваецца ў апавяданні: "Згорбленая, маленькая Рэйдзіха стаяла перад Ганнай босая — ногі былі парэпаныя, з пакручанымі пальцамі, як у вялікай птушкі, скінутай аднекуль з гнязда: яна цяпер чаплялася сваімі кіпцюрамі, каб перастаць нарэшце падаць, неяк затрымацца хоць тут, на зямлі". Увогуле, яна выглядае, "як падстрэленая варона". У Рэйдзіхі "зусім ужо стары, збляклы" твар, спаласаваны рубцамі маршчын. І сама яна, нібы молячыся, шэча без разліку на староннае вуха: "Прытаміліся мае ножачкі, апускаюцца мае ручачкі, баліць маё ўсё цела... Пара спакой даць старым касцям..."

Зразумець матчын боль Рэйдзіхі, яе чалавечую трагедыю дапамагае Ганне і тое, што яна, акрамя бацькі, страціла яшчэ аднаго вельмі блізкага чалавека, свайго мужа, які дачасна загінуў на вайне. "Адна пяклуюся", — скрушліва зазначае Ганна. Так і нараджаецца ўжо спачуванне жанчыны да жанчыны. Дарэчы, яно хоць увогуле і відавочнае, але не зусім адназначнае, суправаджаецца часам і супярэчлівымі рухамі душы. Прыгадаю, што Ганна спачатку глядзіць на Рэйдзіху з прыкрасцю і здзіўленнем, "як на прывід які" (у вёсцы Бароўка, дзе адбываюцца падзеі, старая не паяўлялася ўжо трыццаць гадоў і сведкай Яшкавых злачынстваў не была). Таму і стаяла яна (Ганна), "бы скамянелая, і не ведала, што рабіць. Надта ўжо нечакана выйшла гэта сустрэча".

Рэйдзіха таксама "больш за ўсё на свеце" баялася, што "людзі пачнуць гаварыць пра яе сына", ужо даўно мёртвага. Яна стараецца быць дагодлівай, усмешка перад Ганнай у яе атрымліваецца "палахлівая і вымушаная". Так што складанасці сітуацыі Чыгрынаў ніяк не абмінае. Але разам з тым ён дае нам ясна зразумець, што ў Ганнінай здольнасці, пераступаючы праз свае крыўды, адчуць чужую бяду і адгукнуцца на яе выяўлялася дабрыня нашых людзей іх чалавечнасць, якую падтрымлівае і хрысціянская рэлігія. Яна, як вядома, бачыць у дараванні грахоў бліжняму бясспрэчную дабрачыннасць.

Тады, як пісалася апавяданне Чыгрынава, наша афіцыйная ідэалогія рэлігійны падыход адмаўляла, лічыла яго заганным. І таму празаік сваю сугучнасць з гэтым падыходам не афішыраваў. Але сёння яна, тая сугучнасць, заўважаецца выразна.

Пісьменнік наогул умеў бачыць жыццё ў яго складанасці. І Гэта не толькі кладзе адбітак на пачуцці Ганны, але праглядвае і ў асобных пейзажных штрыхах, якія ўспрымаюцца як яшчэ адзін напамінак пра вайну, яе трагічнасць і крывавасць: "Яшчэ кідала сваю чырвань нябачнае ўжо сонца. І таму здавалася, што яно крывавіць. Вядома, гэта яўны водсвет ваеннага часу, яго кровапралітнасці.

Выразная настраёвасць, якая ўзмацняе эмацыянальнае гучанне твора, ёсць і ў іншых пейзажных мазках: "На ўсходзе па чыстым небе, толькі што адарваўшыся ад зямлі, узбіралася ўгору сонца. Але яно было нейкае цяжкое, бы перагружанае чым, і амаль не праменілася.

Вёска як бы драмала яшчэ". Каб заўважыць усе такія нюансы і адценні, трэба быць не толькі назіральным чалавекам, але і добрым мастаком, здольным ажывіць пейзажныя малюнкі, прымусіць іх выпраменьваць паэтычнае святло. Яно вельмі адчувальнае і ў апісанні ранішняга туману, выкананым з філіграннай тонкасцю: "Туман яшчэ не паспеў зусім асесці, хоць на вёсцы яго і не было ўжо. Затое над возерам ён плаваў, як абястлушчанае малако: то паднімаўся, паказваючы цёмнае люстра вады, то апускаўся заслонаю, хаваючы ўсё ад вачэй. Лес, што падступаўся да возера з другога боку, здавалася, калыхаўся, стоячы на воблаках".

Гэтая хісткасць, у нечым і прывіднасць, а ўжо зменлівасць, дык бясспрэчна, паяўляюцца тут невыпадкова. Яны добра акцэнтуюць істотную для разумення твора рухомасць жывога жыцця, адсутнасць у ім застылай аднастайнасці, якая не можа заўсёды панаваць ні ў прыродзе, ні ў людскіх стасунках.

Канкрэтную фактуру многіх эпізодаў, пейзажных малюнкаў у тым ліку, пісьменнік часта браў з рэчаіснасці. У апісанні Бароўкі з апавядання "У ціхім тумане" ўгадваюцца некаторыя прыкметы Вялікага Бору — роднай вёскі аўтара. Словам, хораша пісаў Чыгрынаў, па-майстэрску адшліфоўваў у сваіх творах асабліва ў апавяданнях, усё. Таму так натуральна, непрэтэнцыёзна, як бы само сабой разгортваецца ў іх змястоўнае сюжэтнае дзеянне, праз якое рэалізуецца задума твора, яго пафас, так натуральна жывуць, думаюць, спрачаюцца і спачуваюць адзін другому чыгрынаўскія героі.

Усе прыкметы класічнасці ёсць у апавяданні з эпічна ёмістай назвай "Ішоў на вайну чалавек". Яно напісана яшчэ ў 1965 годзе, але таксама і да сённяшніх дзён нікольки не страціла сваёй эстэтычнай важкасці. Цэнтральнае месца ў творы займае ярка выпісаны вобраз шчырага вясковага працаўніка Ігната, чалавека звычайнага, але вельмі паважанага з-за ягонай дабрыні, спагадлівасці і душэўнай далікатнасці. Малюючы гэты вобраз эканомнымі, але трапнымі фарбамі, пісьменнік дасягае глыбокага пранікнення ў беларускую народную псіхалогію. З высокім майстэрствам паказвае ён яе лепшыя рысы, вельмі натуральна разгортваючы нескладаны падзейны сюжэт.

Сітуацыя ўзята для ваенных часоў не выключная, а хутчэй звыклая, будзённапростая, вёску пакідае згаданы селянін Ігнат. Гэта апошні мужчына з той вёскі. Раней ён не быў мабілізаваны на вайну з-за хворай нагі. Цяпер яна паправілася. І трэба чалавеку ісці ваяваць. Пра гэта з усёй неаспрэчнасцю нагадвае лаканічная ваенкаматаўская позва, якую Ігнат прымае як належнае, хаця добра ўсведамляе, што "на вайну ісці — не жыта малаціць". Пакідаючы жонку Анюту з двума дзецьмі, ён толькі шкадуе, што за апошні дзень не зможа зрабіць усё тое мноства неадкладных спраў, да якіх за звыклымі гаспадарскімі клопатамі раней так і не дайшлі яго працавітыя рукі. З асаблівай вастрынёю

пачынае Ігнат адчуваць цяпер усё навакольнае, мусіць, падсвядома прадчуваючы, што, магчыма, ужо больш ніколі не ўбачыць някідкае харathства роднага свету.

І яшчэ застаецца ў Ігната ноч развітальнага кахання з жонкай. Яно пададзена ў цнатліва-ўзвышаным ключы, без той натуралістычнай аголенасці, якая ўсё больш запалоньвае сучасную літаратуру, даходзячы ў некаторых аўтараў ледзь не да адкрытай парнаграфічнасці. У апавяданні Чыгрынава самыя інтымныя падрабязнасці ўвогуле тактоўна апушчаны. Але моцны сваёй жыццёвасцю эпізод напісаны так, што мы выразна адчуваем усю не растрачаную за дзесяць шлюбных гадоў сардэчнасць адносін мужа і жонкі, іхнюю пяшчотнасць, абвостраную вельмі блізкім, ужо ранішнім, расстаннем: **"Ігнат спачатку доўга цалаваў змакрэлы ад слёз жончын твар, адчуваючы, як налівалася млявай пяшчотаю цела, пасля падхапіў яе на рукі — якая яна ў яго лёгкая! — і, асцярожна ступаючы, панёс па сходках.**

**На шырокім выгане, што быў паміж полем і гародамі, усімі краскамі лета пахла ў копах лугавое сена".**

Зусім скупы пейзажны штрых, што завяршае эпізод, інтуіцыяй мастака дасканала выверany і таму шмат гаворыць пра пачуцці герояў. Бо гэта менавіта ім, Ігнату і Анюце, асабліва моцна пахла лугавое сена на тым выгане, дзе яны кахаюцца хутчэй за ўсё апошні раз — з найцяжэйшай вайны супроць гітлераўцаў, на якую ішоў Ігнат, вярталіся вельмі ж нямногія яго равеснікі.

Хораша гучыць магутны заключны акорд апавядання, яшчэ раз нагадваючы і пра сапраўдную павагу вяскоўцаў да Ігната, і пра натуральнасць учынкаў, думак і пачуццяў яго самога і ягонай жонкі, і пра разуменне спагаднымі людзьмі таго, што яго чакаюць вялікія выпрабаванні, ухіліцца ад якіх чалавек не можа, не мае права: **"Праводзіць Ігната ўранні сабралася ўся вёска. А Ігнат быў спакойны, як зямля пасля дажджу, і нават жартаваў, хоць гэта яму не кожны раз і ўдавалася. Не спяшаючыся, ён абыходзіў па адным сваіх аднавяскоўцаў, трос ім рукі і сарамліва чырванеў: яму было трохі не па сабе ад таго, што праз яго да коўрат сабралася столькі народу. Жонка больш не плакала. І гэта падабалася Ігнату. І толькі пасля таго, як ужо развітаўся з усімі і пайшоў, паскараючы крок, па дарозе, ён пачуў за спіною немы плач. Бабы суцяшалі жонку, паціху перагаворваліся і не пераставалі глядзець на дарогу, па якой ішоў на вайну яшчэ адзін чалавек".**

За эпічнай важкасцю і стрыманай прастатой такіх бездакорна выпісаных малюнкаў з моцна скандэнсаванай унутранай энергіяй ўгадваецца дыханне раманнай прозы. Зрэшты, далёка не кожны раман, прынамсі, з тых, што пісаліся ў нас у 60-я гады, нёс у сабе столькі праўды пра чалавека, яго душэўнае высакародства, колькі ўмясціла невялікае апавяданне Івана Чыгрынава. У ім жа, акрамя ўсяго іншага, дакладна адлюстравана і дзіцячая псіхалогія, без знарочыстага падкрэслівання, але выразна паказана наіўнасць Ігнатавага сына, яшчэ хлапчука. Ён, даведаўшыся, што бацька ідзе на вайну, узрадаваўся, бо па сваім малалецтве яшчэ не разумеў, што менавіта для радасці тут менш за ўсё падстаў. Але ж дзеці застаюцца дзецьмі.

Логіку і псіхалогію дзяцей Іван Чыгрынаў адчуваў вельмі глыбока і дасканала выяўляў у сваіх творах, Ён з бацькоўскай пяшчотнасцю любіў дзяцей, нярэдка хваліўся дзвюма сваімі дочкамі, якія закончылі сярэднюю школу з залатым медалём, і асабліва ганарыўся унукам Іванам, які знешне падобны на свайго славутага дзеда-пісьменніка, і некаторыя рысы характару атрымаў разам з дзедавымі генамі. Яны ж ідуць, як сцвярджаў Іван Гаўрылавіч, не ад мужыцкіх каранёў, а ад далёкага, ажно ў шостым калене (для ўнука ўжо і ў сёмым), продка з панскага роду. Чыгрынаў называў і прозвішча таго панскага продка. Ды гэта ўжо іншы сюжэт, нагода для іншай размовы. Цяпер жа хіба дадам яшчэ тое, што ў пісьменніцкім асяроддзі вострыя на язык жартаўнікі трохі пасмейваліся з панскай радаслоўнай Івана Гаўрылавіча і не без намёку ахрысцілі яго, трэба сказаць, ганаровай мянушкай "Святлейшы" — пад самога князя Пацёмкіна, які ў Крычаве збудаваў для сябе адмысловы палац. Ад Крычава ж да касцюковіцкага Вялікага Бору, у якім нарадзіўся Чыгрынаў, адлегласць відочна не касмічная...

**Дзмітрый БУГАЁЎ**

# Сталенне... на маіх вачах

## ШТРЫХІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА *Леаніда* ЛЕВАНОВІЧА

Нашы з Левановічам журналісцкія шляхі сышліся каля трыццаці гадоў таму — у 1971 годзе, калі я з радыё перайшоў у рэдакцыю "Нёмана", дзе Леанід працаваў ужо загадчыкам аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі. Гады чатыры мы працавалі разам пад "сцягам" галоўнага рэдактара Андрэя Ягоравіча Макаёнка. У той час ён ужо друкаваўся, пісаў у асноўным нарысы. Асабліва запаў мне ў душу яго нарыс "Бульба-бульбачка". Гэта было цэлае даследаванне. Імпанавала дасведчанасць аўтара, яго інфармаванасць, актыўнасць у здабычы фактаў і матэрыялаў.

У друку ўсё часцей пачалі з'яўляцца мастацкія творы Л. Левановіча. Трэба сказаць, што і ягоныя нарысы можна лічыць аналітычна-мастацкімі творамі (той жа нарыс "Бульба-бульбачка"). Неўзабаве пачалі выходзіць у свет кнігі празаіка — "Мадонна з кветкаю" — апавяданні (1976), "Якар надзеі" — аповесці і апавяданні (1979).

Пра з'яўленне ў беларускай літаратуры яшчэ аднаго самабытнага празаіка сведчыла не толькі цікавасць да яго творчасці чытачоў, але і водгукі літаратурнай крытыкі. Станоўчыя рэцэнзіі пісалі на яго кнігі А. Марціновіч, М. Ермаловіч, Т. Дасаева, А. Рагуля, Я. Лецка, В. Нікіфаровіч, У. Юрэвіч і іншыя вядомыя крытыкі.

Праца над аповесцямі падрыхтавала празаіка да напісання твораў больш буйнога жанру — рамана. На сённяшні дзень пабачылі свет чатыры раманы Л. Левановіча: "Шчыглы" (1986), "Паводка сярод зімы" (1989), "Дзікая ружа" (1993), нарэшце ў 1998-м у часопісе "Полымя" (NN 6 і 7) надрукаваны скарочаны варыянт чацвёртага рамана — "Сіняе лета". Гэта ўжо раманны цыкл, эпапея, магчыма, яшчэ не скончаная.

У цэнтры аповеду "Шчыглоў" паказана вялікая сям'я Сахутаў — маці, працавітая і гаспадарлівая Кацярына; бацька, таксама працавіты і разважлівы, Мацвей, якія з дзецьмі перажылі навалу вайны, панёсшы цяжкія страты. Тут з'яўляецца адзін з меншых сыноў Сахутаў, Андрэйка, якому ішоў толькі шосты гадок. Андрэй Сахута ў далейшым зробіцца пастаянным персанажам раманаў Л. Левановіча, і няцяжка здагадацца, хто стаў яго правобразам, што пісаў яго аўтар на біяграфічным матэрыяле.

У названых раманах адлюстроўваюцца падзеі і лёсы людзей у першыя пасляваенныя гады. Левановіч піша пра роднае Прыбесяддзе, пра тое, што яму блізка і дорага. І ў гэтым, бадай, сакрэт яго поспехаў у літаратуры. Пасля публікацыі рамана "Сіняе лета" ў "Полымі" на творчасць празаіка адгукнуўся ў тым жа "Полымі" ў першым нумары за 1999 год вядомы даследчык літаратуры і крытык Дзміірый Бугаёў разгорнутым артыкулам "Дасягнутае і страчанае", у якім шмат месца адводзіць аналізу апошняга рамана. Загаловак артыкула гаворыць пра імкненне аўтара да аб'ектыўнасці, бесстароннасці ў ацэнках, і гэты падыход у слыннага крытыка ў асноўным вытрымліваецца, прынамсі, станоўчая ацэнка пераважае асобныя крытычныя закіды аўтару рамана. Дарэчы, Дзмітрый Якаўлевіч, пішучы свой гэты артыкул, мабыць, не ведаў пра тое, што ў часопісе "Нёман" рыхтуецца да друку пераклад "Сіняга лета" на рускую мову (часопісны варыянт надрукаваны ў N 7 за 2000 г.). Гэта была апошняя перакладчыцкая і рэдактарская работа незабыўнага Уладзіміра Георгіевіча Машкова. Тонкі стыліст і знаўца беларускай і рускай моў, ён змог у перакладзе дакладна перадаць змест і асаблівасці стылю аўтара.

Вобраз Андрэя Сахуты, які фігуруе ў папярэдніх раманах, да "Сіняга лета" вырас, узмужнеў і заняў месца галоўнага героя. У сюжэтна-кампазіцыйным плане аўтар удала "прызначыў" Андрэя Сахуту на вельмі дынамічную па тым часе пасаду — зрабіў яго, адпаведна з ягоным характарам, камсамольскім работнікам раённага маштабу. Той па абавязку мусіў раз'язджаць па ўсім Лабанаўскім раёне, сустракацца з рознымі людзьмі, са сваімі землякамі, трапляць у самыя розныя сітуацыі, апісанне якіх высвечвала жыццё, побыт і характары людзей.

Падзеі рамана аднесены да часу сапраўды эпахальнай падзеі — першага палёту ў космас чалавека, Юрыя Гагарына. Гэта падзея, я сам добра помню, тады ўскалыхнула ўсё савецкае грамадства, ад малых да старых, ад простых людзей да высокага начальства. І аўтар добра перадаў атмасферу агульнага захаплення з нязменнымі закідамі ў адрас "амерыканскіх імперыялістаў": "А галоўнае амерыканцам нос уцёрлі, — разважае старшыня калгаса Казакевіч. — А то хваліліся: мы самыя багатыя, самыя дужыя. А вы, маўляў, лапцюжнікі, жабракі. А еты Гагарын узяў ды і абляцеў вакол шарыка...". Праўда, як рэалістычна апавядае аўтар, касмічны палёт Гагарына наводзіць калгаснікаў і на невясёлы роздум: "...Ракеты кляпаем, у космас лётаем, а паілкі для каровы зрабіць не можам. Гной выбраць з-пад каровы няма чым...". (Той жа Казакевіч.)

Прыкмечана і сказана вельмі дакладна. У гэтым і многіх іншых эпізодах крытычнага стаўлення людзей да савецкай рэчаіснасці, у тым ліку да камсамольскай фармалістыкі, у якую ўцягнуты Андрэй, ёсць сапраўдныя адносіны аўтара да рэаліяй жыцця, якія ён адлюстроўвае ў рамане.

Усё ў "Сінім леце", у змесце рамана так або інакш звязана з галоўным героем, праз яго напаўняецца жыццёвым зместам і характарамі многіх персанажаў. Пачынаецца раман паказам абставін вяртання з вайсковай службы Андрэя, радасці яго бацькоў з гэтай нагоды. Андрэй ідзе працаваць на старое месца — у лясніцтва, дзе яму работа па душы. А тут нечакана для яго самога (відаць, быў актыўным камсамольцам па дзейсным характары) на раённай канферэнцыі яго выбіраюць другім сакратарам Лабанаўскага райкама камсамола. І закруціўся Андрэй у камсамольскай фармалістычнай рабоце: сходы, рэйды, планы мерапрыемстваў... Але не забываўся ён і пра бацькоў, сваю родную вёску Хатынічы. Быў дома і ў дні, калі яго землякі, простыя сяльчане, абмяркоўвалі хвалюючую падзею — першы палёт чалавека ў космас. Андрэй аказаўся на стыхійнай мужчынскай сходцы каля вясковай крамы. Былі тут Рыгор Свярбіла, якога вяскоўцы пацешна завуць Гылігор. Змітрок Раўнягін, Цімох Емяльянаў, Парфір Драздоў, былы харчовы агент ды іншыя землякі. Падышоў дырэктар мясцовай васьмігодкі Пётр Еўдакімавіч Мамута, які паспеў ужо правесці ў школе мітынг з вучнямі. Гаворка, вядома, круціцца вакол вялікай навіны. Не абыходзіцца без салёнаватых жартаў, завадатарам якіх быў акрыялы ад навіны стары Гылігор, накшталт таго, ці бачыў Гагарын у небе Бога...

Улучыўшы момант, дырэктар школы звярнуўся да свайго былога вучня, якім ганарыўся, што той стаў сакратаром райкама камсамола:

"— Андрэй Мацвеевіч, ёсць да цябе справа. Можа, зойдзем да мяне? Пагамонім... Андрэй пагадзіўся, і яны пайшлі".

Пагаварыць было пра што настаўніку з любімым вучнем, якога цяпер ён называў пашаноўна па імені і па бацьку. Як належыць, па-мужчынску адзначылі падзею.

Не мог не аддаць аўтар даніну тагачаснай пануючай ідэалогіі, услаўленню камуністычнай партыі і савецкаму ладу жыцця. Такім мерапрыемствам быў вясновы 1961 года пленум ЦК КПБ. І аўтар аддаў гэтаму **гістарычнаму** памяць (як гэта было, і не больш), але пры тым мы глыбей пазнаём ужо вядомых герояў (Даўгалёў, Чэпікаў), знаёмімся з новымі персанажамі. Гэта Ніна Гаўрылюк і яе муж Яўген ды іншыя каларытныя асобы. Але мяркую, што пераказваць змест твора падрабязна не варта, няхай нейкая інтрыга застанецца чытачам, хто не паспеў прачытаць раман. Можна хіба запыніцца яшчэ на некаторых сюжэтных момантах.

Вось Андрэя Сахуту, сакратара райкама камсамола, пасылаюць у Лабанаўскі раён упаўнаважаным на пасяўную, "папіхайлам", як назавуць ягоную ролю землякі. Пры сустрэчах з людзьмі, пры даверлівых размовах, асабліва ў яго родных Хатынічах, ён глыбей пазнае жыццё, пераконваецца, што падганяць сялян не трэба і ў пасяўную, тым больш, што Андрэй трапіў якраз на "першую баразну". Што да парадкаў у вёсцы, шчыра падзяліўся з ім старшыня хатыніцкага калгаса Макар Казакевіч:

"— Дарагі Андрэй Мацвеевіч, выходзіць так, што мы не жывем, а змагаемся. Ад самай рэвалюцыі... То з голадам, то з галечаю, то з ворагамі... А то самі ствараем бар'еры, перашкоды розныя. І самі ж іх перамагаем...". Умудроны жыццёвым вопытам старшыня калгаса, у вусны якога аўтар уклаў гэтыя словы, ведаў, што казаў. Тут і аўтарская пазіцыя, ягоныя адносіны да савецкай рэчаіснасці.

Асобнай гаворкі заслугоўвае інтымная лінія, шчаслівае каханне Андрэя і Ады, іх "камсамольскае" вяселле. Усе іх душэўныя памкненні, адносіны закаханых аўтар перадае карэктна, далікатна і псіхалагічна дакладна.

Шаноўны Дзмітрый Якаўлевіч убачыў у форме рамана "Сіняе лета" пэўную неадпаведнасць канонам класікі. Класічны раман павінен быць заснаваны на скразной драматычнай ідэі. Калі ёсць такая ідэя — добра. А калі яе няма, а трэба адлюстраваць жыццё пэўнага перыяду, паказаць людзей у шматграннасці характараў і лёсаў, дзе будзе і драматызм, і нейкія камічныя моманты, і розныя характэрныя жыццёвыя дробязі, якія ў сукупнасці ствараюць вобраз чалавека і складаюць змест твора? Твор, той жа раман, цікавы сваёй змястоўнасцю. Раман "Сіняе лета" менавіта такі — напоўнены разнастайным зместам, чалавечым матэрыялам, рэальным адлюстраваннем жыцця.

Не ўспрыняў крытык і своеасаблівы дакументальны дадатак — вытрымкі з тагачасных паведамленняў ТАСС і БЕЛТА, не звязанымі з тэкстамі, але якія прывязваюць дзеянне раздзелаў рамана да пэўнага часу. Лічу, што ў гэтым ёсць свой сэнс.

Падзеі рамана аднесены па часе і ўключаюць у сябе подзвіг Юрыя Гагарына і вялікі розгалас вакол яго ў грамадстве. Выхад асобным выданнем рамана Л. Левановіча "Сіняе лета" ў 2001 г. быў бы вельмі дарэчы да 40-годдзя першага палёту чалавека ў космас.

**Уладзімір АНІСКОВІЧ**

ЧАСОПІСЫ

## "Роднае слова", N 11

Адзінаццаты нумар часопіса "Роднае слова" за мінулы год — 155-ы з часу выхаду гэтага выдання (спачатку называлася "Беларуская мова і літаратура ў школе"), якое даўно стала сваім не толькі для настаўнікаў, каму ў першую чаргу адрасавана, а і для ўсіх, каго цікавяць праблемы нацыянальнага Адраджэння, лёс беларускай мовы, лёс Беларусі. Паэзію З. Бядулі 1914—1919 гадоў разглядае І. Кульбянкова ("Ад сусветнай тугі да веры ў беларускі шлях"). Змешчана заканчэнне артыкула А. Вераб'я пра творчасць У. Караткевіча "Рыцар Беларусі". Чытач мае мажлівасць пазнаёміцца з артыкуламі З, Санюка "Рэлігійная амбівалентнасць у творчасці Янкі Купалы", Алены Яскевіч "Калі адчуе сэрца радасць..." (лірычны герой Н. Гальпяровіча), А. Спрынчан "Там, дзе мора..." (стыхія мора ў беларускай паэзіі 1910—1920 гадоў), Л. Леські "Карнавалізацыя ў творах Яна Баршчэўскага", С. Кавалёва "У рэчышчы позняга Рэнесансу" (польскамоўная паэзія ў лоскіх і віленскіх выданнях 70—80-х гадоў XVI стагоддзя), П. Банцэвіча "Ён цаніў не столькі сваё слова, колькі справу..." (асветніцкая функцыя этнаграфічнага матэрыялу ў творах У. Караткевіча), працягам даследавання Б. Плотнікава "Беларуская мова ў сістэме славянскіх моў". Слова пра мастачку, мастацтвазнаўцу Л, Налівайку прамаўляе Я. Шунейка ("У мастацкім і навуковым пошуку", тут жа друкуецца яе артыкул "Зоркавы час Ахола-Вало"). Артыкул С. Лаўшука "Толькі больш працаваць і вучыцца" прысвечаны тэме "Андрэй Макаёнак і адукацыя". Сярод іншых матэрыялаў — "Шлях беларускага слова ў касцёл" Л. Лыча, "Рэдакцыйны архіў "Нашай нівы" Г. Запартыкі, "Люлі, люлі, малое, каб налета другое..." (абрадавыя дзеянні на працягу першага года жыцця дзіцяці ў традыцыйнай культуры беларусаў) Т. Кухаронак, вершы Я. Гучка, М. Мацюкевіч, аўтабіяграфія У. Караткевіча...

## "Беларускі гістарычны часопіс", N 4

Апошні ў мінулым годзе нумар штоквартальніка "Беларускі гістарычны часопіс" адкрываецца артыкулам галоўнага рэдактара "БГЧ" В. Кушнера "Праблемы навукі і адукацыі можна вырашыць толькі сумеснымі намаганнямі". Намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь А. Слука выступае з артыкулам "Сучасны гістарычны працэс і ідэалогія беларускай дзяржаўнасці для XXI стагоддзя". В. Кушнер ("Вяртанне універсітэта на полацкую зямлю") гутарыць з рэктарам Полацкага дзяржаўнага універсітэта доктарам тэхнічных навук, прафесарам Э, Бабенкам. Змешчаны артыкулы "Тэорыя і прынцыпы гістарычнага пазнання ў даследаваннях па гісторыі" М. Смяховіча, "Бітва пад Клецкам" А. Блінца, "Фотадакументы БЕЛТА як гістарычныя крыніцы" А. Міхальчанкі, "Каталіцкі касцёл у Беларусі ў XX ст." У. Завальнюка, "Атамную бомбу рабілі і нашы землякі" Ф. Папова, "Уладзімір Караткевіч і сучасная беларуская мастацкая культура" А. Русецкага, "Народны настаўнік Васіль Ракуць" Г. Беляўцовай, "Вітаўт Вялікі" В. Чаропкі, шэраг іншых матэрыялаў.

## "Люблю вясну"

Імя Івана Чыгрына добрая вядомае ў літаратурных колах. Ён зарэкамендаваў сябе ўдумлівым, дасведчаным літаратуразнаўцам, які даследаваў розныя аспекты нацыянальнага прыгожага пісьменства. Па-ранейшаму не страцілі навуковай каштоўнасці такія кнігі І. Чыгрына, як "Станаўленне беларускай прозы і фальклор. Дакастрычніцкі перыяд", "Проза "Маладняка". "Дарогамі сцвярджэння", "Крокі". Проза "Узвышша", "Рэальнае і магчымае. Проза Якуба Коласа", "Паміж былым і будучым. Проза Максіма Гарэцкага". І толькі найбольш блізкія І. Чыгрыну людзі ведалі, што Іван Пятровіч піша і вершы, якія не спяшаецца прапаноўваць у друк. Таму чытачы ўпершыню адкрылі для сябе




І. Чыгрына-паэта толькі ў 1992 годзе, калі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла яго кніга вершаў "Капеж". Пасля былі наступныя — "Трыба" і "Бераг", абедзве пабачылі свет ў 1998 годзе. І вось чацвёрты паэтычны зборнік І. Чыгрына, выпушчаны "Беларускім кнігазборам". Па праўдзе кажучы, назва яго — "Люблю вясну" — напачатку насцярожвае з-за сваёй залішняй традыцыйнасці: каму ні падабаецца гэтая пара года, у каго ні выклікае яна асаблівыя асацыяцыі. Але дастаткова пазнаёміцца з аднайменным вершам, каб упэўніцца: перасцярога ад таго, што аўтар ідзе пратаранымі сцяжынамі, марная. У гэты выраз І. Чыгрын укладае іншы, больш шырокі сэнс:

*Люблю вясну дружную ды раннюю.*
*Люблю лета каласістае ды звонкае.*
*Люблю восень сцішаную, грыбную.*
*Люблю зіму ружовую, пульхную.*

*У жыцці так не бывае.*
*У жыцці розныя вёсны.*
*Розныя леты.*
*Розныя восені.*

*Розныя зімы.*
*Усяго патроху.*
*І ўсяму*
*Свая*
*Чарга.*

Чаго "у жыцці... не бывае" — магчыма ў паэзіі. Калі яна — не звычайнае вершаскладанне, а душэўная патрэба. Калі без яе свет становіцца вузейшым, страчваючы сваю вабнасць. Калі пісаць — значыць жыць, а не проста адбываць адведзеныя табе на зямлі Богам зімы і вёсны:

*Хачу паэзіі. Хачу вялікай.*
*Каб скалынала, каб вяло,*
*Каб словы калыхаліся, як пікі.*
*Каб рыфмы замыкаліся цяплом.*

*Хачу прабіцца ў кожнае ваконца.*
*Хачу дапасці ў кожную душу*
*Хачу ўзыйсці над доляй сонцам.*
*Ні менш, ні больш. Таму пішу.*

Вершы, прадстаўленыя ў кнізе, напісаны І. Чыгрынам у розныя гады. Самы ранні з іх "***Я не скачу на адной назе...", якім зборнік адкрываецца, напісаны яшчэ ў 1963 годзе, апошні — "***Абазначылася строга мая ў рай даўно дарога..." — датаваны 30 кастрычнікам 2000-га. Як на першы погляд, пры такім падборы твораў магчымы разнабой, адсутнасць скразных матываў. Але гэтага не атрымалася. Перад намі свайго роду дзённік душы лірычнага героя, які з гадамі, не зважаючы на маральныя страты, не пазбаўляецца душэўнай адкрытасці, не губляе маральнай чысціні. Ён па-ранейшаму застаецца аптымістам:

*На руінах уласнага сэрца*
*перад сконам*
*накрэслю*
*— Дзякуй, Божа, за шчасце.*

Кніга "Люблю вясну", хочацца спадзявацца, прынясе вясну ў сэрцы кожнага, хто па-сапраўднаму любіць паэзію і неабыякавы да прачулага, шчырага слова.

**Міхась ГЕНЬКА**

ПАЭЗІЯ

Мікола ШАБОВІЧ



## З нізкі "Ненаглядка"

•

*Непрыхаваны твой сур'ёз*
*Так недарэчы.*
*У белым полымі нябёс*
*Бялеюць плечы.*

*Зялёна-чысты спеў вачэй,*
*Сутонне веяў...*
*З табой дзяліць суцем начэй,*
*Сухмень, завею.*

*Хто ён — адзіны чараўнік,*
*Што сон вартуе,*
*Што ловіць твой таемны ўздых,*
*Красу святую?..*

*Хай не мая ты, не мая,*
*Ды ў небным бліску*
*Мне песня чуецца твая*
*Так блізка-блізка.*

•

*На схіле дня, на ўскрайку ночы*
*Чакаеш ты мяне, дзяўчо,*
*І пазіраеш сумна ў вочы,*
*І падстаўляеш мне плячо.*

*Твой тварык лёгка ружавее —*
*І ты ўжо тулішся сама,*
*Мая пяшчотная завея,*
*Мая спакусная зіма.*

*За бела-сінім даляглядам*
*Ці нашы мройна ткуцца сны?*
*Не спакушай мяне паглядам —*
*Яшчэ далёка да вясны.*

*Магчыма, снег калі растане*
*І прыляцяць гракі-шпакі,*
*Прызначыш іншаму спатканне,*
*Туліцца будзеш да шчакі*

*І пазіраць спакусна ў вочы*
*На скрыжаванні дня і ночы.*

•

*О, я ці ўбачу,*
*як пляча акругласць*
*Маю змагніціць*
*мяккую далонь*
*І шчок тваіх*
*каштанавая смугласць*
*У свой чароўны*
*забярэ палон?*

*О, я ці ўбачу,*
*як грудзей трымценне*
*Супыніць час*
*—і знікне далягляд,*
*І задрыжаць*
*пяшчоты сутарэнні,*
*Як толькі твой*
*раскрыліцца пагляд?*

*О, я ці ўбачу,*
*як твая спакуса*
*Твайго пакіне*
*цела берагі,*
*І як бутоны*
*распялёсцяць вусны,*
*І з іх пральецца*
*слова: "Дарагі"?*

•

*Зірні, як молада світае,*
*Як зорнаспеўна ў вышыні!*
*Яшчэ нам восень абяцае*
*Такія сонечныя дні,*
*Калі ў паднебнае сінечы*
*З паглядам стрэнецца пагляд,*
*Мяне абдымеш ты за плечы*
*І дзён спаволіш ліспапад...*

•

*Ты сёння выходзіш замуж,*
*Прырода спраўляе фэст.*
*У белай фаце і ў замшы*
*Ты лепшая між нявест.*

*На правай руцэ пярсцёнак.*
*Час новы пачаў адлік.*
*Паболела сёння жонак*
*На лепшую сярод іх.*

*Ты скажаш: "Усё ў парадку,*
*Жыццё не стаіць — імчыць..."*
*Што ж песня пра Ненаглядку*
*Праз цэлую ноч гучыць?*

•

*Глядзіш, і мядовы месяц*
*Закончыцца неўпрыкмет.*
*Ці ўспомніш гадоў праз дзесяць,*
*Што быў у цябе паэт?*

*Як мог, ён цябе галубіў,*
*Ад рознай брыды бярог.*
*Цяпер ты ў законным шлюбе,*
*І муж — твой адзіны Бог.*

*Няхай жа цябе ён песціць,*
*Ад злых беражэ нягод*
*Не толькі мядовы месяц,*
*Не толькі мядовы год.*

•

*Яшчэ твой голас не заціх*
*У небе слёзна-жураўліным,*
*А сумны восеньскі трыпціх*
*Ужо вяртае успаміны.*

*Вяртае сцішанасць начэй,*
*І рук ласкавых трапятанне,*
*І словы тыя, што знячэў*
*Казаў табе я на світанні.*

*Вяртае колішнюю сінь,*
*Сустрэчы нашы і разлукі.*
*Зірні з паднебных тых вышынь*
*І працягні насустрач рукі.*

*У той далёкай старане,*
*Дзе сны плывуць, нібы аблокі,*
*Табе ці сумна без мяне,*
*Ці адзінока?*



*Фота з архіва "ЛіМа"*

ПРОЗА

«Што ж ты нарабіў, хлопец, што нарабіў...», — прамовіў стары Змітрык і роспачна апусціў галаву.

«Які ж я хлопец! — хацеў сказаць дзед Базыль. — Я такі ж стары, як і ты... вы...», — ды не паспеў. Стары знік у цвеце яблыні, растаў, як дым ад павеву ветрыку, нібыта і не было яго, нібыта прымроіўся. «А вось жа толькі быў тут, — падумаў дзед Базыль, — я не спаў і вочы не змružваў нават, і дзень цяперака...»

Ён сядзеў перад расчыненым у сад вакном. Ён любіў сядзець гэтак перша-цёплымі вясновымі дзянькамі, а сёння быў якраз такі дзень. Ён глядзеў на яблыню і гэта цвет ейны сабраўся ў твар дзеда Змітрыка і прамовіў тыя словы, якія сам ён думаў пра сябе: «Што ты нарабіў, хлопец, што нарабіў...» І ў семдзесят пяць дзед Базыль пачуваў сябе маладым, дваццацігадовым. Гады давалі пра сябе знак толькі тады, калі ўставаў ён і ногі не слухаліся яго. Дробнымі крокамі дыбаў ён да ложка і верыў, і не верыў, што жыццё пражытае ўжо, а ён быццам бы і не жыў яшчэ...

Ранкам да яго зайшоў дырэктар школы — рухавы чалавек сярэдняга веку, з чужых, прыезджых, аселых у Бароўцы людзей. Жвава павітаўся за руку і спытаў-папрасіў:

— Базыль Піліпавіч, дык, можа б, вы ўсё ж прыйшлі дзевятага мая да нас у школу, га? І дзеці, і настаўнікі — усе мы просім...

— Я ж казаў вучням вашым — не магу... Ніякі з мяне выступальнік. І раней, а што ўжо цяперака... Не, няма мне чым хваліцца.

— Ну не скажыце... У вас медалёў баявых вунь колькі! І ордэн маеце. Вы ж і партызанілі ў нашых краях, і да Кёнігсберга дайшлі... Дык мо прыйшлі б?

— Не, сынок, не магу. Гады не тыя — па школах хадзіць...

— Я разумею. Не турбаваў бы, але вы ў нас адзін засталіся. На ўсё наваколле, на ўвесь сельсавет — няма больш ветэранаў. Памерлі вашыя сябры баявыя... Дык перад памяццю іх... — і дырэктар пачаў казаць нешта пра абавязак, а потым пра выхаванне падрастаючага пакалення на традыцыях... Але дзед Базыль слухаў яго ў паўвуха. «партызаніў тут, кажаш, — думаў ён сваё, — напартызаніў, было...»

— Дык дамовіліся, прыйдзеце, — дырэктар злавіў дзеда за маўчанні, на сваіх думках і, не даючы апамятацца, дадаў: — Ну і добра...

«Умееш угаворваць, — пасміхнуўся сам сабе дзед Базыль, — не быў бы дырэктар...», — а ўголас сказаў:

— Не, сынок, не спяшайся... Кажу ж: каб змог — прыйшоў бы, прытэпаў бы неяк...

— Дык мы вас падвязём! Вы падумайце. Час яшчэ ёсць.

На тым і развіталіся. Дырэктар пайшоў — лёгка, весела, нібы падбрыкваючы, можа, нават і песню напяваючы; пайшоў, пакінуўшы дзеда сам-насам са сваімі думкамі. З тымі думкамі, якія раней ён усяляк стараўся не трымаць у галаве: тужлівымі, трывожнымі, балючымі...

«Чаму я не з'ехаў адсюль? Чаму вярнуўся пасля вайны на вечную пакуту? Не бачыў бы, не ведаў бы і не балела б... Запрашаў жа старшына Раз'ездаў на Урал. Дзяўчаты прыгажэнныя казаў, рыбалка, паляванне... Сястра ў яго харошая — картачку паказваў. Чаму не паехаў з ім па дэмабілізацыі? Навошта пацягнуўся сюды? Тут жа нішто не трымала. Ніхто не чакаў... Можна было з'ехаць і пазней — завербавацца на Сахалін ці ў Калінінградскую вобласць, у Карэлію ці потым у Казахстан... Колькі тады з'ехала з Бароўкі! Уга... Якая моладзь! І дзе яны цяперака? Што з імі сталася? З Казахстана ды Карэліі многія павярталіся. Ні грошай не зарабіўшы, ні жытла там не прыдбаўшы. А на Сахаліне ды ў Калінінградскай вобласці прыжыліся. Абруселі. Прыязджалі раней з дзецьмі — не пазнаць, гарадскімі пасталі. А цяперака і дзеці іхнія ўжо не ездзяць. Мо яшчэ і Чарнобыля баяцца...»

Не паслухаў Базыль старшыну Раз'ездава, не паехаў да яго на Урал. Дамоў вярнуўся. Каб віну загладзіць? Ды не, не думаў ён тады пра віну. Сярод агульнае радасці перамогі вяртаўся ён дамоў героем: уся грудзіна ў медалях... А прыехаў, хай і з разбітага, разбомбленага, але сытага Кёнігсберга, выйшаў з лесу на луг перад Бароўкаю і жахнуўся: няма вёскі. На ўсю шыр, на месцы яе — пустка. Голае поле з папялішчамі ды комінамі ад печаў. Садоў да вайны лічы не было, дзе-нідзе перад хатамі раслі хіба ліпы ці клёны, а на полі — грушы-дзічкі. Толькі па іх, па аднабока абгарэлых,

# ВіНА

Барыс ПЯТРОВІЧ



счарнелых дрэвах, і можна было здагадацца здалёк, што была тут вёска і дзе чыё селішча стаяла.

Бароўцы, што з лесу перабраліся на папялішчы, жылі яшчэ ў зямлянках. Сёйтой паспеў толькі будан які зляпіць над зямлёю. Ды і каму адбудоўвацца было: мужчын у вёсцы па пальцах пералічыш. старэйшых немцы спалілі, астатнія, хто выжыў, з вайны толькі-толькі вяртацца пачыналі. А жанчыны... Мала ў якой на руках было менш за трое дзяцей. Пракарміць бы іх, а ўжо будавацца — потым...

Вось тады, на ўскрайку лесу, і скаланула яго ў першы раз усур'ёз думка: а ці ж не я гэта ва ўсім вінаваты?.. Прамільгнула думка тая жахлівая, але не пусціў ён яе ў сэрца, загнаў далёка-далёка ў падсвядомасць, бо дужа страшная была яна... Ды і прыглушыла яе, зусім патушыла пачуццё іншае: радасці, што нарэшце ён дома, што перамаглі ў такой вайне, што сонца бачыць, а не парыць косці дзе-небудзь у Прусіі... А цяпер — адбудуемся, жывы будзем — не памром...

Але думка тая трывожная трапятнулася ды не забылася: заціхла — да пары, да часу...

Захацелася паліць: нясцерпна, перасмягла, як у вайну. Прымятая з бакоў бляшанка з тытунём ляжала побач на падваконні. Дзед Базыль узяў яе дрогкімі рукамі, падчапіў накрыўку збялела-чорным пазногцем і расчыніў. Сыпануў шчапоць, другую, трэцюю на паперчыны, скруціў, а ў роце перасохла: змацаваць самакрутку няма як, няма чым... Сяк-так склеіў, прыпаліў. Зацягнуўся глыбока-глыбока, адставіў руку і ўгледзеўся ў цыгарку, усю ў дробных газетных літарках. «Як у вайну», — зноў падумаў. Пенсіі на лавачныя цыгарэты не хапае — якая там пенсія, слёзы. «Але, — адразу ж падумалася, — дзякуй Богу, што хоць тую своечасова плацяць». Пенсіі на хлеб ледзьве стае, дык вось і садзяць бароўскія дзяды кожны сабе граду тытуню, каб хоць самасад быў. Ды і не толькі дзяды, але ўжо і маладзейшыя курцы «плантацыі» сабе завялі. «калі так далей пойдзе, дык хутка і лён пачнём на кашулі сеяць», — жартуюць. Натуральная гаспадарка... Якраз учора дзед Базыль напрыканцы саду, там дзе болей сонца, пасадзіў расаду пад новы ўраджай: маразоў мо болей не будзе, акрыяе...

Дым расцёкся па сухенькім целе, прабрала трохі і нібыта палягчэла. Але думкі горкія не мінуліся, не адпускалі. Стаў шукаць сваю віну там, у тых далёка-даўніх падзеях, і не бачыў яе. То быў збег абставінаў. Лёс... Пачаў шукаць апраўданне сабе ў тым помным учынку і таксама не знаходзіў яго... Патухлі вочы, стомлена апусцілася галава...

Быў пачатак лета, якраз перад ушэсцем. Іхняя група падрыўнікоў пайшла на заданне пад Васілевічы. Меркавалі ўзарваць цягнік, ды пралічыліся. Нават да чыгункі не змаглі падступіцца, хоць праляжалі на ўзлеску каля яе трое сутак. Ішоў сорак трэці год. Дарога была важная: у адзін бок на Брэст, Варшаву і далей на Берлін, у другі — на Гомель, Бранск і далей на Арол ды Курск. Там недзе праз месяц мелася адбыцца знакамітая бітва, пра якую яны тады і здагадвацца не маглі. Але заўважылі, што ахову чыгункі немцы ўзмацнілі. Паабапал на добрую сотню метраў выразалі і звезлі лес, наставілі дзотаў. Падыходы да дарогі прастрэльваліся навылёт. Гэта пазней, падчас «рэйкавае вайны», партызаны пачалі цэлымі атрадамі нападаць на чыгунку, прарываць нямецкую ахову. А яны ўпяцёх што тады маглі зрабіць: хіба толькі кінуцца да цягніка і загінуць, можа, нават і не дабегшы да тых рэек.

Яны паназіралі, як ідуць у бок фронту цяжкія, добра гружаныя саставы, і вырашылі вярнуцца назад. Міну паставілі на гравійцы, што за некалькі кіламетраў ішла амаль паралельна чыгунцы. Чакаць, хто ці што на ёй падарвецца, не сталі. Ператаміліся, амаль не спаўшы, агаладалі. «Далажым, што машына з немцамі падарвалася, — сказаў камандзір групы Мікола Шчучэнка, — і трое фашыстаў загінула на месцы». Было тое не ўпершыню, і яны, пераглянуўшыся, моўчкі пагадзіліся. А што — і сапраўды падарвецца ж нехта на гэтай міне, можа, нават і танк. І тады яго на свой рахунак запіша нейкі іншы атрад з бліжэйшых тут. Бывала такое. Але найчасцей узрываліся падводы. Не толькі нямецкія, але і з навакольных вёсак... Ды на тое ж і вайна... І хто тую міну ставіў — невядома. А на іх міне — пойдзе цяпер па ўсіх зводках — узарвалася машына: ідзі правер, калі не верыш... І яны ўсе, як адзін, будуць сцвярджаць гэта, калі спатрэбіцца — нават пад пагрозай расстрэлу. Аднак — не трэба будзе. Так ніводнага разу за вайну і не спыталі ні ў кога...

На шляху да базы атрада доўгай стужкай між двух балотаў выцягнулася Базылёва Бароўка. Можна было абысці яе, але ўсе хлопцы ведалі, што Базыль адсюль родам, што тут жывуць ягоныя бацькі. І яшчэ ведалі, што хоць вёска і вялікая, аднак нямецкага гарнізона тут няма. Ёсць толькі стараста, які і сам партызанам дапамагае (хоць і немцам служыць, калі наязджаюць — дзеля таго і прызначаны), ды некалькі паліцаяў з мясцовых хлопцаў, якіх партызаны да пары не чапалі і яны партызанаў таксама, калі тыя ў вёску наведваліся. Без злосці пакуль абыходзіліся: трэба ж і на вайне нейкая ўлада, вось яны і былі той уладай. Тут, у далёкай ад вялікіх дарог палескай вёсцы, захоўваліся свае законы нават у часы ўсеагульнага беззаконня...

Світала, калі падрыўнікі падышлі да Бароўкі. Хоць у дарозе Базылю падалося, што ночы і зусім не было: сонца толькі на вобміг схавалася ў нізкіх шызых хмарах і зноў пачало фарбаваць іх у чырвань, вось-вось збіраючыся вызірнуць. Хлопцы засталіся на ўзлеску, а Базыль, не хаваючыся, пайшоў да свае хаты. «Гарэлкі, самагонкі прынясі, — шаптаў яму ўслед Мікола-камандзір, — хоць пляшачку...» У небе заходзіўся ранні жаўрук, раса холадам абмывала боты, навакол стаяла такая ціша — не гаўкалі надакучлівыя сабакі, не рыкалі, не ўсхадзіліся яшчэ каровы — што, калі б не адчягвала плячо і не цэлілася паўз клуб вінтоўка, якую ён пабаяўся пакінуць, бо з ёй усё ж смялей, дык і зусім падалося б: няма ніякай вайны, і вяртаецца ён дамоў гэтак позна-рана ад дзеўкі з суседняе вёскі...

Бацька і маці ўжо не спалі. Толькі Базыль паказаўся ў дзверы — маці вызірнула ў вакенца і ён убачыў, як засвяціўся радасцю яе старэчы твар. Базыль з братам Міколам былі познімі дзецьмі, бо і самі бацька з маці пабраліся ў сталым ужо веку. У рэвалюцыю іх першыя сем'і памерлі ад тыфусу: бацька быў на вайне, таму выжыў, а маці адную неяк выходзіла суседка. Ім было за сорак, калі нарадзіўся Базыль — паднялі яго з братам, выгадавалі і нейк адразу састарэлі, асунуліся. Бацькоў Базылёвых раўналеткаў называлі яшчэ дзядзькамі ды цёткамі, а ў яго былі — дзед ды баба. Не, ён не саромеўся іх, але побач тросі ніякавеў. Жылі бацькі цяпер з нявесткай, братавай жонкай, гадавалі ўнукаў.

У хаце Базыль не забавіўся. Не хацеў будзіць дзяцей, што соладка спалі. Маці хуценька сабрала харчоў і, праводзячы яго за гароды, нібыта нешта прадчуваючы, залілася слязьмі, загаласіла. Яго гэта нават абурыла-раззлавала: ну што тут такога — прыйду, прыйду яшчэ пры нагодзе... Эх, каб ведаў ён, каб ведаў, што будзе, не паліцеў бы так хутка да хлопцаў, пабыў бы з бацькамі... Не, каб ведаў, дык абышоў бы тады Бароўку за сто кіламетраў...

Тут жа, на ўзлеску, назіраючы, як прачынаецца вёска, нетаропка паснедалі, выпілі патроху — маці знайшла толькі пляшку самагонкі, і тое, збегала да суседкі, пазычыла, бо сваёй не было. Але ім, стомленым, нявыспаным, хапіла. І далей пайшлі яны амаль не тоячыся. Каго было баяцца: нямецкі гарнізон ёсць толькі ў райцэнтры, а да яго адсюль кіламетраў пятнаццаць. Немцы з свайго логава асабліва не высоўваліся, хіба з нейкімі гаспадарчымі справамі — харчоў сабраць па вёсках: яек, сала, малака, курэй налавіць-настраляць... Гучна гамонячы, хлопцы выйшлі да дарогі — да адзінай, што была на іх шляху, якраз той, што вяла ў райцэнтр. І трэба ж такому здарыцца: ледзь не нос у нос сутыкнуліся з нямецкім абозам: чатыры-пяць падводаў па адным-два немцы ці паліцаі на возе...

Колькі хвіляў працягвалася маўклівае супрацьстаянне: вазы спыніліся і хлопцы не варушыліся, замерлі ад нечаканасці. А потым немцы кінуліся з падводаў па адзін бок дарогі, а партызаны — па другі. Нехта стрэліў: адзінокае рэха азвалася далёка ў лесе. Нібыта ў адказ суха трэснула яшчэ некалькі стрэлаў. Базыль зачапіўся за корань, упаў, апамятаўся, адпоўз за хвою, залёг за ёй і рапам пачуў, як над ягонаю галавою чыркнула па камлі куля. Амаль адразу ён убачыў і немца, які страляў па ім. Той таксама схаваўся за хвояй па другі бок дарогі ў паўсотні метраў ад яго, толькі не ляжаў, а прысеў на адно калена. Імгненне Базыль глядзеў на немца, але запомніў на ўсё жыццё. То быў нашмат старэйшы за яго чалавек, грузны, круглатвары, у акулярах, відавочна, не з тых, каго бралі на перадавую — тыпoвы тылавік, інтэндант нават знешне. Немец, мусіць, быў галоўным у абозе, бо нешта пакрыкваў на іншых і... цэліўся ў Базыля. Базыль затуліўся за дрэва і калі пырскнула зямлёй, упілася ў ігліцу каля яго куля, вызірнуў і сам стрэліў. Амаль не цэлячыся. Прамазаў, аднак немец стаў ужо не такім смелым, схаваўся за дрэва.

Што рабілася вакол, Базыль не бачыў і не чуў. Бачыў, а хутчэй адчуваў толькі таго немца за дарогай, які таксама торгаў затворам карабіна і раз-пораз страляў у бок Базыля.

Колькі так доўжылася — мо хвіліну, мо больш, — Базыль не ведаў. Была нейкая гарачлівая спешка, але час нібыта запаволіўся, перапыніўся нават. Стрэліў ён у немца ўсяго, можа, пяць, можа, шэсць разоў. І апошнім стрэлам, сам не разумее як, але патрапіў у яго. Быццам на замаруджаных кадрах убачыў, як ірванула куля мундзір на грудзях у немца, як выпусціў той з рук свой дабрэнны карабін, як, гледзячы на Базыля і нібы гаворачы позіркам: «Навошта? Чаму мяне?..», пачаў асядаць за хвою. І тут да Базыля зноў вярнуўся страх, ён падхапіўся і кінуўся ўцякаць туды, куды павінны былі пабегчы хлопцы з ягонае групы.

Праз сотню крокаў Базыль наткнуўся на сваіх. Яны вярталіся на гукі перастрэлкі, каб выручыць, выхапіць яго. «Хлопцы, я немца забіў!!!», — крыкнуў ён і заплакаў...

Разам, здалёк, яны паназіралі, як немцы сабраліся вакол забітага таварыша, як паклалі яго на калёсы, як павярнулі свае падводы назад, да райцэнтра... І не было ў хлопцаў жадання нападаць на тых немцаў, страляць па іх, забіваць іх, бо выглядалі яны зусім не ворагамі, а проста мужчынамі, згорбленымі горам, прысамочанымі смуткам страты свайго сябра.

За той бой і за забітага немца камандаванне атрада ўзнагародзіла Базыля медалём «За баявыя заслугі».

Але гэта было потым. А тады... Тады...

Дзед Базыль абапёрся на падваконне, высунуўся з вакна, вызірнуў на вясковую вуліцу. Вёска, вядома ж, адбудавалася. Цяперака па ёй ніхто і не скажа, што была яна некалі дашчэнту спаленая, што і не было яе, як Хатыні. Галоўная вуліца, праўда, прайшла не па тым месцы, дзе раней, а метраў на сто ніжэй, але нат і той, хто ведае, цяперака таго не заўважыць. Вунь і школа новая, двухпавярховая стаіць на пагорку, крыху паводаль дарогі... «Ну што я скажу дзецям?.. Буду гаварыць пра подзвігі, пра гераізм, а сам думаць зусім пра іншае... Крывіць душою... Не...» Апошні раз дзед Базыль быў у школе на сустрэчы з ветэранамі гадоў пяць таму. Прамаўлялі іншыя. Ён, можна сказаць, прамаўчаў: сядзеў ды слухаў. І так брыдка было яму... Каб хто ведаў! Выступаў тады больш Сцяпан Мідзенка, зямля яму пухам. Вайну праседзеў тут, у вёсцы, у партызанах не быў. Калі немцы палілі Бароўку, уцёк з сям'ёю ў лес і там дачакаўся вызвалення. Мабілізавалі, дайшоў у абозе да Берліна. Але язык меў добра падвешаны ды і «мемуараў» начытаўся за пяцьдзесят гадоў пасля перамогі. Сыпаў, як па пісаным, толькі юбілейныя медалі бразгацелі на пінжаку: «Как ціперь помню, — казаў ён, — наша втарая стралковая рота, 131 батальона, 45 стралковага палка, ордзена Баявога Краснага Знамені дывізіі пад камандаваннем генерал-майора Стральцова Івана Нікадзімавіча стаяла пад мясцечкам Ружомбярок, што пад Марцінам у Западных Карпатах...», — і кідаў, кідаў у клас прозвішчы генералаў ды назвы гарадоў, якія ён «брал». «Які Стральцоў, якія Западныя Карпаты, — думаў Базыль, седзячы побач, — што ты бачыў у сваім абозе, што ты ведаў, якія ты гарады «брал», трапло...» І больш за ўсё злавала ды вярэдзіла яго тое, што Сцяпан, які ўсё жыццё пражыў у вёсцы, перад такімі ж вясковымі дзецьмі стараўся «выступаць» па-руску, хоць і не атрымлівалася ў яго, слоў не хапала, і ён казаў свае на «рюскі» манер.

Базылю, як партызану, адразу па вызваленні «аказалі давер»: накіравалі на перадавую. І вайну скончыў ён у першых акопах. А ордэн атрымаў пад Кёнігсбергам, калі з іхняе роты засталося жывых сямёра... Але геройства ні свайго, ні іншых ён не памятаў. Дакладней, не бачыў ён у тым, што рабіў, як ваяваў, геройства. І што дзецям расказваць — не ведаў. Змагаліся, стаялі насмерць, перамаглі... Што яшчэ? Страшна было, не верце тым, хто кажа, што нястрашна... Пра подзвігі не думалі там, думалі, як выжыць. хаця, калі трэба было, жыцця свайго дзеля іншых не шкадавалі. І марылі, марылі, як добра жыць будзе пасля перамогі. Вось якраз пра тое, «як добра» стала жыць «пасля перамогі» і да чаго мы, пераможцы, дажыліся сёння, праз пяцьдзесят пяць гадоў, дзед Базыль мог бы пагаварыць, але ці дадуць яму, ці таго ад яго чакаюць?

Вясковая вуліца была ўсцяж пустая, хоць не ноч стаяла, а самы што ні ёсць дзень — звычайны, не святочны і не выходны. Так, Бароўка адбудавалася, адрадзілася, каб цяперака зноў... паміраць. Старэюць яе жыхары, старэюць дрэвы і камень — старэе і вёска. Маладыя, у пяро ўвайшоўшы, адлятаюць у горад. А тут яшчэ гэты Чарнобыль... На іхняй вуліцы засталіся адны дзяды ды бабулі. І то жывыя — праз хату-другую, хто адзін, а хто яшчэ ўдвух ярмо цягне. Астатнія селішчы стаяць пустыя, развальваючыся паціху-патроху, нікому не патрэбныя. Памірае вёска. Без вайны памірае. Пакутліва, расцягнута ў часе, развальваецца, парахнее без гаспадароў, гніе... Паступова, запаволена...

А тады... Тады не стала яе ў адзін дзень, за некалькі гадзін...

Забітага немца пахавалі ў райцэнтры праз дзень. А яшчэ праз дзень у бок Бароўкі з горада рушыла калона. Немцы і паліцаі, а ім на падмогу пад'ехалі з Мазыра і Калінкавічаў, колькасцю ў некалькі сотняў чалавек, што для гэтае балотнае мясцовасці, аддаленай ад шляхоў ды гарадоў, было сілаю магутнай, пад'ехалі да вёскі рана-ранენька. Але Бароўка ўжо не спала, хоць дзень быў святочны — якраз ушэсце. І паколькі была вёска вялікай, расцягнулася з захаду на усход па выспе між балот на чатыры кіламетры, незаўважна акружыць яе, напасці раптоўна, знянацку не ўдалося.

Як тое адбывалася, Базыль, вядома ж, не бачыў. Ведае ён толькі з пазнейшых расповедаў вяскоўцаў. Пакуль людзі апамяталіся, немцы паспелі ахапіць сваім карным ланцугом амаль палову вёскі. Тыя, хто жыў на другім, дальнім ад райцэнтра канцы яе, пахапалі дзяцей, што маглі з адзення, і кінуліся ў лес. Астатніх жыхароў немцы сагналі да клуба. З ганка афіцэр праз перакладчыцу аб'явіў, што ім выпаў гонар паехаць сем'ямі на працу ў вялікую Германію. Да Васілевічаў пойдуць пешкам, а далей паедуць на цягніку. Старым і нямоглым, хворым і зусім малым можна застацца — іх падвязуць да станцыі на машынах.

*(Працяг на стар. 14—15)*



ЧАСАПІС

## Чатыры творчыя дзесяцігоддзі

**У далёкім ужо 1958-м выдаў першую прадукцыю Беларускі аўтамабільны завод. Не забывалі і аб сацыяльнай інфраструктуры, якой флагман айчыннага машынабудавання паступова "абрастаў". І як адказ на задавальненне духоўных і відовішчных запатрабаванняў маладзёжнага калектыву стала ўжо праз два гады адкрыццё свайго дыхтоўнага Палаца культуры.**

**У пачатку снежня 1960-га з лёгкай рукі будаўнікоў ключы ад новага будынка былі ўручаны выпускніку Ленінградскай вышэйшай прафсаюзнай школы культуры А. Дзьячкову. І сапраўды: лёсам яму было наканавана быць на чале калектыву ажно 22 гады, у той час, калі яго паслядоўнікі больш чым 5 год не затрымліваліся.**

**Ды і што там казаць: менавіта на вачах Анатоля Барысавіча і пры яго вельмі зацікаўленым і актыўным удзеле адбывалася станаўленне палаца: стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы, падбор і шліфоўка кадраў, прыцягненне да работы шырокага актыву, з дапамогай якога ўдалося зрабіць палац любімым месцам адпачынку завадчан і членаў іх сем'яў.**

**І не дзіўна, што ўжо ў першыя тры месяцы распачалі дзейнасць духавы і эстрадны аркестры, харавы, сольных спеваў, танцавальны і тэатральны калектывы. А праз чатыры месяцы, у красавіку 1961-га ўсе гэтыя калектывы прынялі ўдзел у першым канцэрце на ўрачыстым вечары.**

**Колькі завадчан і жыхароў маладога горада Жодзіна знайшлі прымяненне сваім здольнасцям, колькі было адкрыта талентаў за гэты час! Ужо к канцу 60-х гг. харавая капэла пад кіраўніцтвам выпускніка Мінскай кансерваторыі А. Жукоўскага адной з першых у рэспубліцы атрымала званне народнай. А праз дзесяцігоддзе іх пры ПК было ўжо тры: народная харавая капэла (кіраўнік Э. Шчыры, у памяць аб якім цяпер штогод праводзяцца міжнародныя фестывалі), народны харавы аркестр (Э. Сінькевіч), народны тэатр (М. Бараш).**

**Лепшымі калектывамі самадзейнай і тэхнічнай творчасці ў розныя гады кіравалі таксама У. Дабравольскі, С. Швец, Я. Ядзігараў, М. Бармоцька, А. Самусевіч, В. Міхееў, В. Часнакоў і іншыя.**

**Спектр праводзімых культурна-масавых мерапрыемстваў быў і застаецца вельмі шырокім, разлічаным і на дзяцей, і дарослую аўдыторыю. Іх з творчай самааддачай і натхненнем ажыццяўлялі і ажыццяўляюць В. Васілеўская, Т. Акімава, В. Пуплікава, Л. Пухнарэвіч, А. Куніцкая, Т. Палазнякова, Т. Логвінава і іншыя.**

**Сем апошніх гадоў на чале калектыву палаца стаіць Г. Смольскі — выпускнік Беларускага універсітэта культуры. Ён у корані, у адпаведнасці з рэаліямі нашага жыцця змяніў работу палаца. Так, што асноўная стаўка робіцца не на колькасць, а на якасць. І невыпадкова вялікай папулярнасцю карыстаюцца вялікія шоу-праграмы пад назвамі "Завадчанка", "Дочкі-маці", "Канешне, ён", што спалучаюць у сабе сінтэз мастацтваў.**

**... Ідзе час, адбываецца змена пакаленняў. За апошнія тры гады калектыў папоўніўся такімі маладымі, але таленавітымі спецыялістамі, як С. Луцэвіч, С. Смольскі, С. Мытнік, В. Марчанкава, К. Пешчыран, Л. Пішчухін і інш. Неацэнную дапамогу, перадаючы багаты вопыт, ім аказваюць Г. Смольскі, Е. Шэвелева (Куніцкая), Л. Пухнарэвіч, К. Вярцінскі.**

**А ўвогуле сёння ў палацы створаны неабходныя ўмовы і база для плённай, творчай працы. Ёю ў 27 клубных фарміраваннях занята звыш 700 чалавек. Гонарам жа з'яўляюцца калектывы, што носяць высокае званне народнага, харавая капэла, духавы аркестр, ансамбль беларускай песні "Медуніца", тэатр, цырк "Ювента", харэаграфічны ансамбль "Кружевница", маладзёжны тэатр "Штурх".**

**Творчы ўзровень самадзейных артыстаў па вартасці быў ацэнены на такіх прэстыжных конкурсах, як рэспубліканскі фестываль "Пеўчае поле" і народнай творчасці "Залатыя ключы", тэлевізійных эстрадных выканаўцаў "Зорная ростань" і юных талентаў "Усе мы родам з дзяцінства" і нават на міжнародным фестывалі духоўнай музыкі "Магутны Божа". Безумоўна ўсе гэтыя поспехі грунтуюцца на надзейнай матэрыяльнай падтрымцы і пастаяннай увазе, якую ўвесь час аказваюць кіраўніцтва і прафкам ВА "БелАЗ".**

**Рыгор ГАНЖУРАЎ**

ЗГАДКІ

# Дзякуй за памяць

***Нядаўні спектакль "Рыгалета" Нацыянальнага акадэмічнага тэатра Беларусі быў не зусім звычайны. Ён прысвячаўся памяці колішняй салісткі тэатра Доры Кроз. У партыі Джыльды яна ўпершыню выступіла на мінскай сцэне 65 гадоў таму. Сёлета ж гэтую партыю выконвала Алена Шведава, якая атрымала ад Доры Захараўны сакрэты вакальнага майстэрства — як ад першага настаўніка спеваў. Яна падрыхтавала Алену і да паступлення ў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, у клас прафесара Тамары НІЖНІКАВАЙ.***

У гэты вечар лаўрэат Міжнароднага конкурсу Алена Шведава была літаральна ва ўдары — яе голас гучаў лёгка, свежа, прыгожа. У кожным руху, у кожнай інтанацыі артысткі адчуваліся яе талент і музычнасць. Яна ўразіла публіку шчырасцю, лёгкасцю, глыбінёй. Яе Джыльда кахае па-сапраўднаму: моцна, ад усяго сэрца, гатовая нават загінуць, толькі б выратаваць каханага.

Выдатна выступілі ўсе ўдзельнікі спектакля. У партыі Рыгалета ў выкананні Юрыя Бастрыкава ўсё было прадумана і вакальна, і сцэнічна. Герцаг Мантуанскі Сяргея Франкоўскага захапіў незвычайнай абаяльнасцю. Голас спевака гучаў ярка, сакавіта. У партыі Маддалены дэбютавала Алена Сало. Артыстка змагла стварыць вобраз вясёлай, бесклапотнай прыгажуні. Лёгкасць, прывабнасць адчуваліся ў кожным яе руху і, вядома ж, у цудоўным голасе. Пераканаўчым быў і Алег Гардынец у партыі Спарафучыле.

Вельмі арганічнымі ў агульным артыстычным ансамблі былі амаль усе салісты: Аляксандр Краснадубскі (Марула), Васіль Кавальчук (граф Мантэроне), Г. Чэпікаў (Борса), А. Кеда, Г. Гур'ева (граф ды графіня Чапрана), Т. Варапай (Джаванна). Поспех спектакля падзялілі артысты хору (хормайстар-пастаноўшчык Н. Ламановіч), аркестр пад кіраўніцтвам В. Чарнухі, усе канцэртмайстры, якія працавалі з салістамі.

65 гадоў у рэпертуары нашага тэатра "Рыгалета" Д. Вердзі. Цяпер опера ідзе ў рэжысуры Юрыя Аляксандрава з Санкт-Пецярбурга. На мой погляд, пастаноўка не зусім удалая, не адпавядае опернаму тэатру, які мае назву "Акадэмічны". Мне давялося бачыць другую па ліку пастаноўку, 1948-га года. Выканаўца партыі Джыльды Дора Кроз выступала і ў першай, і ў другой пастаноўках. Запомніўся створаны ёю шчыры, пяшчотны, абаяльны вобраз закаханай дзяўчыны. Запомніліся артысткі — выдатныя таленавітыя выканаўцы — Ісідар Балоцін (Герцаг), Міхаіл Дзянісаў (Рыгалета), Ганна Касценіч (Маддалена).



А вось што ўспамінае наш знаны кампа-

МУЗЫКА

# Справа канцэртная чакае спраў ад улады

Сёлетні канцэртны сезон у Петрыкаве адкрыўся выступленнем лаўрэата міжнародных конкурсаў Андрэя Сікорскага, аднаго з лепшых беларускіх піяністаў.

У тым, што Петрыкаў паступова набывае аўтарытэт прывабнай для майстроў мастацтва канцэртнай пляцоўкі, галоўная заслуга калектыву мясцовай дзіцячай музычнай школы. Вядома, што буйныя выканаўцы ахвотна прыязджаюць толькі туды, дзе існуюць дзве асноўныя ўмовы для паспяховага творчага паказу: дасведчаная аўдыторыя і прыстойны канцэртны раяль. З уласнай практыкі пераканалася, як цяжка выступаць перад слухачамі, якія не ведаюць выдатных кампазітараў і характэрных рыс іх творчасці, не разумеюць і часцяком не любяць класічную музыку. А калі да гэтага дадаецца стары, разбіты, расстроены, з выламанымі клавішамі інструмент (часцей за ўсё нават не раяль, а старэнькае піяніна),дык канцэрт ператвараецца ў катаванне. Шмат такіх пляцовак пабачыла амаль за 40 гадоў публічных выступленняў.

У Петрыкаўскай жа музычнай школе створаны абедзве ўмовы для канцэртаў. Апошнім часам наш горад усё часцей наведваюць выдатныя майстры музычнага мастацтва. Так, у сезоне 1999—2000 гадоў выступалі такія вядомыя артысты, як Галіна Паўлянок (меццасапрана), Ігар Алоўнікаў (фартэпіяна), Мікалай Марэцкі (домра, мандаліна). А выступленне А. Сікорскага сталася адметнай старонкай музычнага жыцця Петрыкава ў новым сезоне. Праграма канцэрта была пабудавана артыстам з улікам складу аўдыторыі, у якой пераважалі навучэнцы музычнай школы, і ўключала папулярныя творы Гайдна, Шапэна, Чайкоўскага, Ліста, Рахманінава, самых "піяністычных" кампазітараў. Некаторыя творы прагучалі ў Петрыкаве ўпершыню.

Аднак пры ўсім добрым, што створана намаганнямі калектыву школы для развіцця музычнай культуры ў раёне, трэба ўсё ж адзначыць і некаторыя недарэчнасці ў правядзенні такога важнага мерапрыемства, як адкрыццё канцэртнага сезона. І ў тых недарэчнасцях няма віны музычнай школы, якая і так усклала на сябе ролю дзіцячай раённай філармоніі (дзесяткі выступленняў за год), кіраўніцтва найбольш значнымі творчымі калектывамі раёна (дзіцячыя і дарослыя хоры, духавы аркестр, аркестр і ансамблі народных інструментаў і г.д.), што, вядома ж, не з'яўляецца непасрэдным абавязкам навучальнай установы.

Справа ў тым, што пачатак канцэртнага сезона павінен зрабіцца ўрачыстай з'явай у жыцці кожнага населенага пункта. Ніякія дасягненні ў вытворчасці, сельскай гаспадарцы ды ў іншых матэрыяльных сферах жыцця не даюць такога эфекту і не пазбаўляюць горад правінцыйнага флёру так, як гэта робіць сур'ёзная культурная імпрэза, якою і з'яўляецца менавіта адкрыццё канцэртнага сезона. Гэта — галоўная адзнака горада высокай культуры, які пераадолеў сваю правінцыйнасць, местачковасць. Ведаю, што ў ЗША, у штаце Арызона, здаецца, існуе гарадок Каўперфільд з насельніцтвам каля 8 тысяч жыхароў. Дык вось, у гэтым гарадку пабудаваная канцэртная зала на 10000 месцаў! І там рэгулярна праводзяцца ўрачыстыя культурніцкія мерапрыемствы, якія збіраюць больш чым мільён гледачоў за год.

Але ж не будзем хапацца за мільённыя праекты, тым больш, што бюджэт культуры ў Петрыкаве папросту жабрацкі. Проста трэба паглядзець, ці можна зрабіць нешта ў гэтым напрамку. У свой час значная частка гарадоў Беларусі перадала

# Цымбалы завіталі ў Маладзечна

Пры канцы восені ў Маладзечне прайшоў II рэспубліканскі фестываль "Срэбны звон цымбалаў", прысвечаны 70-годдзю Акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя І. Жыновіча. Падзея адбылася ў канцэртнай зале Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага.

У горад з'ехалася шмат гасцей і ўдзельнікаў агляду юных талентаў з розных куткоў Беларусі, з бліжняга замежжа.

У першы дзень адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя Асацыяцыі беларускіх цымбалістаў і ўрачыстае адкрыццё фестывалю. Усіх гасцей і ўдзельнікаў віталі старшыня Асацыяцыі, прафесар Беларускай акадэміі музыкі, народны артыст Беларусі Яўген Гладкоў і загадчык аддзела культуры Маладзечанскага гарвыканкама Надзея Сідарэнка.

Канцэртную праграму распачаў цымбальны аркестр Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага пад кіраўніцтвам Аляксандра Кавалёва беларускай народнай песняй "Ой, учора звячора" (салістка — Галіна Баян-Ключнікава). Ансамбль цымбалістаў "Лілея" Беларус-



зітар Анатоль Васільевіч Багатыроў:

**— З Донечкай мы разам вучыліся ў Віцебскім музычным тэхнікуме, сядзелі на адной парце. Як толькі пазнаёміліся, пасябравалі. Гэтым цудоўным, добрым чалавекам я нават трошкі захапіўся, спрабаваў заляцацца. У Мінску зноў нашы шляхі перакрыжаваліся — абое сталі студэнтамі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, дарэчы, былі ў яе першым выпуску. З 1933-га мы абое працавалі ў опернай студыі, я — канцэртмайстрам, яна — спявачкай. У Доні быў цудоўны серабрысты голас — каларатурнае сапрана. Памятаю, мы са спевакамі развучвалі партыі оперы "Рыгалета". Міхаіл Дзянісаў рыхтаваў партыю Рыгалета, Ісідар Балоцін — герцага, Донечка — Джыльду. У яе было шмат абаяльнасці, артыстызму, адчувалася, што яна вельмі музычны чалавек. Ставіў спектакль маскоўскі рэжысёр Павел Златагораў.**

Яна спявала на мінскай опернай сцэне партыі Антаніды ("Іван Сусанін" М. Глінкі), Разіны ("Севільскі цырульнік" Д. Расіні), Віялеты ("Травіята" Д. Вердзі)... А ў дзень адкрыцця Вялікага тэатра ў 1933 годзе операй Ж. Бізэ "Кармэн" выконвала партыю Мікаэлы.

**— Вельмі прыемна, што мне давялося выступіць у спектаклі "Рыгалета", прысвечаным памяці Доры Захараўны Кроз, — сказала Алена Шведава. — тыя, для каго яна была першым педагогам па вакале, працуюць у розных гарадах былога СССР, нават у ЗША. Цёплы, сардэчны чалавек Дора Захараўна ўразіла мяне незвычайнай мяккасцю, цеплынёй, абаяльнасцю. І мне адразу захацелася спяваць. Літаральна да ўсіх сваіх вучняў яна ставілася па-добраму. Пастаралася перадаць мне любоў да мастацтва. Давала асновы дыхання. Я спявала вакалізы. А яшчэ яна многа расказвала мне пра оперы. І я вырашыла, што буду спявачкай. Яна рыхтавала са мной праграму для паступлення на падрыхтоўчае аддзяленне кансерваторыі — раманс Антаніды з оперы М. Глінкі "Іван Сусанін", песеньку вожыка, якую спявала Марынка з аднайменнай оперы Р. Пукста, беларускую народную песню "Што за месяц, што за ясны". Я на ўсё жыццё запомніла гэтую сціплую жанчыну з прыгожай прычоскай. Яна фактычна зрабілася для мяне роднай...**

У тым нядаўнім спектаклі Алена Шведава чымсьці нагадала мне маці, спявачку Дору Кроз... Дзякуй, Аленачка, за тое, што вы такая ёсць! Шчырае дзякуй усім удзельнікам гэтага спектакля за свята душы і музыкі, якое вы зрабілі для ўсіх, хто прыйшоў у гэты вечар у тэатр і сярод якіх былі тыя, хто помніць оперную спявачку Дору Захараўну Кроз.

**Вера КРОЗ**

*На здымку: Д. КРОЗ у гады юнацтва.*

# Плённае музычнае жыццё



Цудоўны настрой быў у шасцігадовай Бронечкі ў той летні дзень. Хацелася спяваць, танцаваць. І палілася прыгожая песня. Потым дзяўчынка міжволі закружылася ў танцы. Выпадковы прахожы захоплена спыніўся: "Дзе ты жывеш? Пойдзем да маці". А матцы сказаў, што дзяўчынка вельмі адораная, і ён, настаўнік музыкі, будзе Броню вучыць. У адказ на тое, што няма піяніна, прапанаваў, каб дзяўчынка займалася ў яго дома.

Так шчасліва пачаўся ў Гомелі музычны лёс піяністкі, педагога Браніславы Школьнікавай. Праз чатыры гады яна ўжо вучылася ў Гомельскім музычным вучылішчы. А ў 13 гадоў пачала працаваць канцэртмайстрам, акампанавала вакалістам, інструменталістам. Яшчэ праз тры гады ў Гомель прыехала камісія з Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі: самых таленавітых музыкантаў рэкамендавалі для паступлення. Прынялі ў кансерваторыю і Браніславу.

Яе педагогам па фартэпіяна быў вядомы піяніст і кампазітар Аляксей Клумаў. І ўжо з першага курса яна працавала канцэртмайстрам у кансерваторыі. А ў 1940-м годзе давялося ўдзельнічаць у Дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве. На канцэрце ў Малой зале Маскоўскай кансерваторыі Браніслава выканала два творы для фартэпіяна Уладзіміра Алоўнікава: "Прэлюд" і "Недаказанае". Ёй было вельмі прыемна ўбачыць у зале знаных музыкантаў — Г. Нейгаўза, К. Ігумнава, А. Гальдэнвейзера, якія пасля канцэрта віншавалі маладую беларускую піяністку. Дарэчы, усе канцэрты дэкады трансляваліся па Усесаюзным радыё, так што была магчымасць для родных, блізкіх пачуць яе ігру.

Потым быў 41-шы: пачатак Вялікай Айчыннай вайны... Ужо 22-га чэрвеня з трохмесячным сынам яна села ў цягнік. Дабралася да Гомеля, адтуль — да Чэлябінска. Неяк уладкаваліся. Сям'і давялося жыць у недабудаваным туалеце. Працавала Броня канцэртмайстрам, потым музычным кіраўніком у Чырванасцяжным Маскоўскім авіяцыйным вучылішчы. Нярэдка выступала ў шпіталях, спявала перад паранёнымі.

Вярнулася ў Гомель адразу пасля яго вызвалення — у 1943-м. Уладкавалася працаваць у адзіным ацалелым памяшканні каля вакзала — клубе чыгуначнікаў імя Леніна. Але ж зусім недалёка яшчэ ішла вайна... У 45-м Браніслава атрымала званне ганаровага чыгуначніка. Але ніколі не карысталася прывілеямі, якія тая адзнака давала. Адразу, як толькі вярнулася ў Мінск, прадоўжыла вучобу ў кансерваторыі і закончыла яе як піяністка-салістка.

Многім падабаўся яе прыгожы голас — лірыка-драматычнае сапрана. Але ў тэатр оперы і балета Браніславу не прынялі... Затое Вольга Несцярэнка, цудоўны педагог па вакале, якая ў свой час спявала з Ф. Шаляпіным, Л. Собінавым, запрасіла Б. Школьнікаву працаваць з ёю ў кансераваторыі, канцэртмайстрам у класе вакалу, і адначасова прапанавала браць урокі майстэрства спеваў. Ды ўсё змянілася звычайнай прозай жыцця: праз год Броня нарадзіла другога сына...

30 гадоў выкладала Браніслава Школьнікава ў канцэртмайстарскім класе Беларускай акадэміі музыкі і ў Рэспубліканскім каледжы пры ёй. Мае больш як сотню вучняў, якія працуюць на абсягах былога СССР, а таксама ў Германіі, ЗША, Ізраілі. Сярод сваіх выхаванцаў называе і такіх вядомых беларускіх музыкантаў, як У. Кузьменка, Ю. Гільдзюк, І. Алоўнікаў.

Сёння ёй 80. Але Браніслава Захараўна па-ранейшаму бадзёрая, жыццярадасная і не можа не працаваць. Яна выкладае фартэпіяна ў 11-й мінскай музычнай школе.

На яе юбілейным вечары, які праходзіў у Рэспубліканскім каледжы пры БАМ, яна выступіла як салістка, а таксама акампанавала вядомым оперным спевакам, скрыпачам. Гралі яе вучні. А сярод тых, хто віншаваў, былі вядомыя беларускія кампазітары І. Лучанок, Э. Зарыцкі. У гэты вечар яна пачула шмат добрых удзячных слоў, пажаданняў здароўя і творчага даўгалецця.

**Вера КРОЗ**



памяшканні былых райкамаў КПБ у валоданне менавіта музычных школ. У Петрыкаве, на жаль, такое рашэнне не было прынятае. У выніку горад пазбаўлены магчымасці выкарыстоўваць залу былога РК КПБ, адну з найлепшых паводле канструкцыі і акустычных магчымасцяў у раёне, для адкрытых культурных мерапрыемстваў.

Калі параўнаць пабудаваныя ў цэнтры горада залы, дык адзінай прыдатнай для выступленняў камерных салістаў і малых аркестравых складаў можна прызнаць менавіта гэтую залу, з яе шырокім люстрам сцэны і невялікай глыбінёю. Але на ёй няма раяля. Цудоўны паўканцэртны раяль "Эстонія" без усялякай патрэбы стаіць у зале СДК Конкавічы. Не так многа намаганняў трэба, каб прыняць адпаведнае рашэнне і аб'яднаць наяўныя рэсурсы ў адным пункце ды пачаць прафесійную канцэртную працу.

Не думаю, што райвыканкам, якому гэтая зала належыць, знойдзе сур'ёзны матыў, каб адмовіць у выкарыстанні залы для канцэртнай дзейнасці, якая будзе мець разавы характар (6—8 канцэртаў у год). Затое імідж раёна, як цяпер модна казаць, шмат выйграе ад урачыстага правядзення найважнейшых культурных мерапрыемстваў. Відаць, справа тут перш за ўсё ў тым, каб адпаведныя службы РВК праявілі ініцыятыву і смелы падыход да вырашэння праблемы. Мае нядаўнія сустрэчы з настаўнікамі школ і старшакласнікамі паказалі, што інтэлігенцыя чакае ад улад горада крокаў у гэтым напрамку.

А пакуль што канцэрты выдатных майстроў, хаця і вельмі карысныя для вучняў ды педагогаў, адбываюцца ў цеснай, непрыстасаванай для такіх мэт зале музычнай школы, ператвараючыся ў закрытыя, унутрышкольныя імпрэзы для абмежаванага кола слухачоў.

**Таццяна БАГДАНАВА**

*На здымку: антракт...*

*Фота А. МАЦЮША*

*г. Петрыкаў*

кай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Я. Гладкова здзівіў гледачоў цікавымі і арыгінальнымі творамі В. Кузняцова і У. Кур'яна. Сваё майстэрства прадэманстравалі салісты — лаўрэаты міжнародных конкурсаў С. Загуменкін, Ю. Кузьменка, В. Прадзед і інш. Завяршыў праграму ансамбль "Лілея" з салістамі Я. Гладковым і Т. Ялецкай.

Назаўтра пачалося праслухоўванне ўдзельнікаў агляду маладых талентаў па трох намінацыях: салісты малодшай, старэйшай груп, ансамблі. Юныя цымбалісты прадстаўлялі музычныя вучылішчы і ДМШ Маладзечна, Наваполацка, Магілёва, Гродна, Мінска, Гомеля, Ліды, Баранавічаў, іншых гарадоў і вёсак Беларусі. У складзе журы былі вядомыя цымбалісты, педагогі: Яўген Гладкоў, Таццяна Ялецкая, Рыма Падойніцына, Таццяна Сцяпанава, Тамара Лях. Яны былі вельмі задаволеныя ўзроўнем падрыхтоўкі ўдзельнікаў конкурсу, цікавым рэпертуарам. Параўноўваючы сучаснае і мінулае пакаленні юных талентаў, спецыялісты адзначаюць, што на сённяшнім этапе ўзровень падрыхтоўкі музыкантаў значна павысіўся: дрэнных не было, былі толькі лепшыя з лепшых.

Важна, што ў межах фестывалю прайшлі майстаркласы вядомых педагогаў Я. Гладкова, А. Падойніцынай, В. Тупіцына.

На заключнай цырымоніі ўзнагароджання ніхто з маладых талентаў не застаўся без увагі, усе атрымалі ганаровыя дыпломы і памятныя сувеніры. Гучалі словы падзякі арганізатарам і спонсарам: Беларускаму саюзу музычных дзеячаў, Маладзечанскаму гарвыканкаму, Асацыяцыі цымбалістаў і "Лайнс-клубу" г. Маладзечна, кіраўніцтва горада і ДМШ.

Пагутарыўшы з Я. Гладковым, які нязменна ўзначальвае Беларускую асацыяцыю цымбалістаў з часу яе заснавання (1997 г.), я пацікавілася, дзе будзе праходзіць наступны фестываль "Срэбны звон цымбалаў". Пэўнага адказу пакуль няма. Запланавана было праводзіць гэтае свята ў розных абласных гарадах Беларусі, але калі б пажадала Маладзечна прыняць і наступны фестываль, усе былі б толькі рады, бо гасцям і ўдзельнікам вельмі спадабаўся сам горад, яго музычная школа і вучылішча.

Будучыня беларускага цымбальнага выканальніцтва бачыцца яркай: гэта і пацвердзіў фестываль.

**Алена КАЦЕЛЬНІКАВА,**
**навучэнка Маладзечанскага музычнага вучылішча**

*На здымку: прафесар Яўген ГЛАДКОЎ.*

*Фота А. МАЦЮША*

КОНКУРСЫ

## "На цябе, наша моладзь, надзея"

Паколькі дзіцячыя драматычныя і лялечныя калектывы ў садках, школах, выхаваўчых і культурна-асветных установах Беларусі адчуваюць хранічны рэпертуарны голад, то даўно наспела патрэба рэспубліканскага конкурсу, які б забяспечыў гэтыя калектывы якасным сцэнічным матэрыялам. **Адкрыты конкурс драматургічных твораў для дзяцей** пад дэвізам "На цябе, наша моладзь, надзея" праводзіцца Саюзам беларускіх пісьменнікаў сумесна з міністэрствамі адукацыі і культуры Рэспублікі Беларусь з 1 студзеня па 1 ліпеня 2001 года.

Конкурс ставіць сваёй мэтай пашырэнне рэпертуару тэатральных (драматычных, лялечных, батлеечных) гурткоў і калектываў, далучэнне дзяцей і моладзі да высокіх маральна-этычных традыцый беларускага народа, выхаванне паважлівых адносін да роднага слова, нацыянальнай і сусветнай культуры.

Акрамя таго, конкурс скіраваны актывізаваць дзейнасць школьнай мастацкай самадзейнасці і клубных устаноў краіны, абудзіць творчую фантазію ўсіх, хто захапляецца тэатрам і спрабуе свае сілы ў жанры драматургіі: маладых літаратараў, студэнтаў гуманітарага профілю, кіраўнікоў дзіцячых і юнацкіх калектываў, самадзейных артыстаў і г.д.

На конкурс прымаюцца раней не друкаваныя арыгінальныя п'есы, абразкі для ранішнікаў, а таксама інсцэніроўкі малога памеру па казках і творах беларускай літаратуры. Дапускаюцца інсцэніроўкі па творах сусветнай дзіцячай класікі, напісаныя па-беларуску.

Прадстаўленыя на конкурс творы павінны мець аб'ём да 15-ці машынапісных старонак, ідэйна і зместава адпавядаць агульначалавечым і хрысціянскім ідэалам, улічваць узрост выканаўцаў і гледачоў.

**Творы дасылаюцца ў двух асобніках на адрас: Саюз беларускіх пісьменнікаў, вул. Фрунзе, 5, 220034, г. Мінск з пазнакай "На конкурс п'ес"**, з указаннем аўтарства, хатняга адраса і роду занятку.

Журы вызначае 7 лепшых твораў, якія будуць адзначаны грашовымі прэміямі, яшчэ 10 аўтараў атрымаюць каштоўныя падарункі ў якасці заахвочвальных прызоў.

Па выніках конкурсу плануецца апублікаваць лепшыя творы ў дзіцячых і метадычных часопісах і асобным зборнікам.

# У пошуках беларусаў, альбо Гісторыя са старажытнай геаграфіяй

## ЧЫТАЮЧЫ КНІГУ Алеся БЕЛАГА "ХРОНІКА БЕЛАЙ РУСІ"

Эрнест ЯЛУГІН

ЦІ НЕ Ў САМЫМ пачатку кнігі (Алесь Белы. "Хроніка Белай Русі. Нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы". Мн. "Энцыклапедыкс", 2000) аўтар прыводзіць ажно 12 груп-версій назвы Белая Русь, слушна адзначаючы: гэта не ўсе. Ну што ж, думае загартаваны чытач, на тое і новы даследчык, каб вынайсці яшчэ адну, лепшую. Але чытача ў дадатак чакае і парадокс. "Размытасць абрысаў Белай Русі, яе вандроўкі па карце Усходняй Еўропы ў Сярэднявеччы, пазбаўленыя, здаецца, усялякай логікі, — паведамляе аўтар, — ускладняюць аднаўленне сапраўднай этымалогіі тэрміна. А які даследчык скажа, што ўсё проста? Але, піша А. Белы, нельга таксама сказаць, што "падарожжа" геаграфічнай назвы адбывалася толькі ў сачыненнях сучаснікаў. Хоць ёсць сцвярджэнні ўжо ў наш час, што насамрэч "Белая Русь заставалася там, дзе і была спакон веку" (А. Рогалеў), проста не там шукалі. Не, упэўнены аўтар, рух быў. А тлумачыўся ён "не столькі бракам інфармацыі аб знаходжанні рэальнага геаграфічнага аб'екта, колькі пэўнай штучнасцю самой назвы". Так, і гэта мы недзе ўжо сустракалі, і зусім нядаўна, згадвае чытач. У той жа час, працягвае аўтар кнігі, нельга прызнаць і наміналістычнай крайнасці, паводле якой назва Белая Русь была з самага пачатку ўвогуле пазбаўленай рэальнага зместу. Хоць гэта... "значна бліжэй да ісціны". Прыехалі! У момант, калі кніга толькі пачалася і наперадзе паўтары сотні старонак тэксту ўбарыстым шрыфтам. А галоўнае — худа-бедна, а ў дакладна пазначаных геаграфічных каардынатах існуе ажно суверэнная, сярэдняя па еўрапейскіх мерках дзяржава Беларусь!

Іншая справа, што не ўсім па розных прычынах яе назва падабаецца. Адным пажадана, каб яна растварылася ў этнічным катле Расіі, а нейкім спадарам карціць стаць ліцьвінамі, другім — крывічамі, а некаму — яцьвягамі ці яшчэ кім з нашых далёкіх шаноўных продкаў ажно далетапіснай эпохі. Тады як навука этнаграфія сцвярджае: нацыі пераважна ўтвараюцца з сукупнасці пастаянных насельнікаў краю, часта незалежна ад ранейшай племяннай прыналежнасці, але злучаныя літаратурнай (па меншай меры) мовай, духоўна і эканамічна. Сямейна, яшчэ кажуць.

Дык што з Белай Руссю? "Наша" гэта назва ці нейкі фантом, нібыта прыклееены нам штучна (чаму?) расійскай імператрыцай Екацярынай II, як сцвярджаў нядаўна адзін са шчырых (здаецца) незалежнікаў у газеце "Народная воля"? Праўда, навошта той жа імператрыцы быў "камуфляж", калі прасцей было адзначыць захопленую тэрыторыю, як насамрэч і зрабілі, "землями западными воссоединенными"? Ці пасля яшчэ лаўчэй — Паўночна-Заходнім краем? А "край" ужо зусім проста падзяліць на звычайныя кіруемыя з імперскага цэнтра губерні.

Але што істотна. Белая Русь як этнаназва краю і ў часы царскай забароны на яе ўжыванне не хацела канчаткова знікаць. А ў навуковым асяродку цікавасць да яе ў канцы XIX стагоддзя нават пашыралася. Пісалі артыкулы этнографы, яна трапіла ў салідны энцыклапедычны слоўнік Бракгаўза і Эфрона. Чаму? Бо мацнеў нацыянальна-культурніцкі (а за ім згадваўся і новы Кастусь Каліноўскі) рух і самай аб'яднаўчай для насельнікаў краю па нейкіх прычынах аказвалася этнаназва Белая Русь? Відаць, так, бо яе прызнавала ў такім вызначэнні нацыянальна актыўная частка і разначынцаў, і шляхты, у тым ліку каталіцкага веравызнання, якая стагоддзем раней арыентавалася на Польшчу. Самы яскравы прыклад — Францішак Багушэвіч. Па сацыяльным статусе — царскі чыноўнік, па паходжанні саслоўным — шляхціц, а па мастацкім таленце — паэт, чалавек, якому ад Бога дадзена ў словах выказаць самыя патаемныя памкненні народнай душы. Супала чамусьці, што тады ж, у 1891 годзе, калі пра Белую Русь (праўда, назваўшы гэтак толькі рэгіён Магілёўскай і часткі Віцебскай вобласці) з'явіўся артыкул у Энцыклапедычным слоўніку, адзначае аўтар кнігі, з друку выйшаў зборнік вершаў "Дудка беларуская", у прадмове якога Ф. Багушэвіч дастасоўваў назву Беларусь да ўсёй тэрыторыі краіны ў яе этнаграфічных межах!

А ўвогуле адным з першых, хто пачуваў сябе беларусам (Францішак Скарына назваў сябе русінам — не блытаць з маскавітам!) і пра тое дайшлі пераканаўчыя звесткі, адзначае аўтар кнігі, быў таксама паэт Саламон Рысінскі. Родам з Нарачаншчыны, гэты шляхціц пры паступленні ў Альтдорфскі універсітэт 2 снежня 1586 года напісаў у метрыцы на лаціне, што ён Leucorussus, ужыўшы этнонім "беларус" у значэнні, блізкім да сучаснага. А на пачатку XX стагоддзя яму адгукнуўся зноў жа паэт і шляхціц Янка Купала. Ён ужо з поўнай упэўненасцю абвясціў, што народ, які мае гонар прадстаўляць, — беларусы. Зразумела, чаму ідэолагі царскай Расіі распачынаюць кампанію па пераасэнсаванні на карысць імперыі назвы Белая Русь, у новых умовах аднавіўшы тое, чым яшчэ ў другой палове XV стагоддзя займалася атачэнне мітрапаліта Філіпа, абгрунтоўваючы прэтэнзіі Масковіі на верхавенства ва ўсёй Усходняй Еўропе, заўважае даследчык, калі сфармулявалі тэорыю, вядомую па лагатыпу, як цяпер кажуць, "Масква — Трэці Рым, а чацвёртаму не бываць". Ствараюцца на царскія грошы ажно адпаведныя камісіі з навукоўцаў, пра што ёсць грунтоўнае даследаванне ў Міколы Улашчыка. Аўтар "Хронікі..." згадвае пра цэлую гісторыю падлогаў і містыфікацый (іншым разам і ненаўмысных), якія за некалькі стагоддзяў "раскруціліся" вакол Белай Русі. А ў дадатак былі звычайныя недакладнасці ды частая міфалагізацыя малавядомага, характэрныя для Сярэднявечча (а адтуль гэта ўсё пераходзіла ў наступныя стагоддзі), што заблытала справу неверагодна.

Галоўным накірункам у версіях этымалогіі (паходжання) назвы Белая Русь у дарэвалюцыйны час у расійскіх гісторыкаў быў: гэтак даўней называлі калі і не ўсю Маскоўскую дзяржаву, то яе частку. Спрачаліся толькі: а якую?

Нарэшце ў савецкі час, адзначае аўтар кнігі, самай пашыранай, нават як бы афіцыйнай, асабліва з 1960-х гадоў стала версія, што Белай, у сэнсе "вольнай" Руссю спачатку называлі землі ўсходняй Беларусі, не залежныя ў XIII ст. ні ад Літвы, ні ад татараў. Наадварот, раней, яшчэ ў "царскую эпоху" вельмі падрыхтаваныя расійскія даследчыкі (але "вялікадзяржаўнікі" па перакананнях) В. Тацішчаў, М. Карамзін, С. Салаўёў, І. Грэкаў — і "далучаны" да іх аўстрыйскі падарожнік з XVI ст. Зыгмунд Герберштэйн — звязваюць назву нават не з усходнеславянскімі землямі Вялікага Княства Літоўскага, а з самой Маскоўскай дзяржавай. Былі даследчыкі, што звязвалі паходжанне назвы Белая Русь хто з "белымі куманамі" венгерскіх хронік (яшчэ ў XIV ст.), хто з "белымі скіфамі" (XV ст.), а Дж. Флетчар (XVI ст.) — з "белымі сарматамі", патлумачыўшы эпітэт "белыя" — у сэнсе "вольныя, незалежныя", бо такое яго значэнне было вядомае ў Еўропе. Пазней, ужо ў XX ст. "беларусаў" шукалі таксама сярод саюза аланаў-норсаў, якія раней жылі над Дняпром і змяшаліся са славянамі. Нарэшце ў апошні, "перабудовачны" час, ужо ў асяродку прагрэсіўных айчынных даследчыкаў (аўтар называе прозвішчы гісторыкаў Я. Юхо, К. Тарасава, А. Цітова) знайшла падтрымку версія, нібыта усходняя частка сённяшняй Беларусі названая калісьці Белай у процівагу Чорнай Русі, ахрышчанай пасля, дзе паганскія звычаі захоўваліся пазней. Нехта эпітэт "белы" расшыфраваў згодна таму, што ў цюркаў гэта магло значыць "заходні". Іншы — быццам назва паходзіць ад гіпатэтычных "гарадоў бельскіх" у сярэднім цячэнні Заходняга Буга (як Бельск, Беласток і т.п.). У той час як існуюць яшчэ ж і Белае мора, Белавозера, рака Белая — увогуле цэлы край Белазер'е паблізу Карэліі, рэгіён, які калісьці каланізавалі наўгародцы, яшчэ цалкам незалежныя ад Масковіі.

Азнаёміўшыся з працамі папярэднікаў, у тым ліку апошняга часу, А. Белы прыходзіць да высновы пра відавочны "крызіс вывучэння праблемы, "манапалізаванай" этнографамі, гісторыкамі і філолагамі". Але ж Белая Русь — геаграфічнае паняцце і расшыфроўваць яго, перакананы ён, "трэба, абапіраючыся, у першую чаргу, на геаграфічныя карты — тып гістарычных крыніц, заснаваны на ідэі вымярэння і дае магчымасць наблізіць метадалогію даследавання да дакладных навук".

Прынцып слушны. Калі ўлічваць, што геаграфічныя "мапы" старажытнасці — гэта зусім не сучасны выраб Дзяржаэрагеадэзіі і картаграфіі. Калісьці больш-менш дакладна пазначаліся самыя бліжнія, зведаныя самім стваральнікам мапы тэрыторыі, а чым далей, тым абрысы земляў станавіліся ўсё болей няпэўнымі, а некаторыя, згаданыя з паведамленняў недасведчаных у такой справе купцоў, місіянераў і т.п., насамрэч, як пазней аказвалася, знаходзіліся ўвогуле ў іншым месцы. Так што да тых мапаў-карт усё ж патрабаваліся тлумачэнні, здабытыя з адпаведных надзейных гістарычных пісьмовых крыніц. А. Белы выбраў гэты няпросты шлях даследавання. Акрамя як мага паўнейшага збору карт, пачынаючы ад мапы італійцаў П'етра Вісконтэ — Марына Сануда Старэйшага (1320 г.), дзе ці не ўпершыню згадваецца пратаназва Белай Русі — Albania, і "планісферы Борджа" ( мапы свету, створанай каля 1450 г., у тлумачэнні да якой гаворыцца, што Albania Magna (вялікая) знаходзіцца па суседстве з краінай ваяўнічых амазонак (!), недзе недалёка ад Паўночнага акіяна), ён пераправярае крыніцы, на якія спасылаліся ранейшыя даследчыкі. Гэта, акрамя прыцягнення новых, раней не скарыстаных ці нават невядомых крыніц, як, прыкладам, так званы Дублінскі рукапіс. Тут адзначым, што раней, у савецкі час, такое было ўвогуле недаступна нашым даследчыкам — і па фінансавых абмежаваннях, і па прычынах ідэалагічных. Ды за адно выкарыстанне прац беларусаў-эмігрантаў. Аўтар у лепшым выпадку мог суцяшаць сябе хіба афарызмам, што "напісанае застаецца".

А. Белы, мяркуючы па ўсім, вельмі сур'ёзна папрацаваў, перш чым пачаў пісаць сваю "Хроніку...". У пэўнай меры пра гэта сведчыць і прыведзены ў канцы кнігі даведачны апарат — 596 спасылак. У тым ліку на замежныя крыніцы — у Венгрыі, Вялікабрытаніі, Германіі. Аўтар дзякуе вучонай супрацоўніцы Цэнтральнай бібліятэкі г. Цюрыха ў Швейцарыі сп. Моніцы Банькоўскі-Цюліг, якая дапамагла адшукаць "шматлікія недаступныя на Беларусі крыніцы". А ў Лондане а. Аляксандр Надсан паспрыяў працы ў заснаванай ім надзвычай цікавай для даследчыкаў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны. Вядомы лацініст Алесь Жлутка зрабіў кваліфікаваны пераклад бальшыні лацінскіх і італьянскіх тэкстаў. Усё гэта дапамагло даследчыку не толькі скарыстаць новыя звесткі, але і пераправерыць крыніцы спасылак папярэднікаў. І як высветлілася, вельмі дарэчы. Удалося выявіць не толькі важныя для пошуку ісціны памылкі, але і свядомыя фальсіфікацыі дакументаў "у вышэйшых дзяржаўных інтарэсах", асабліва ў часы Тацішчава, калі пачалося асаблівае шчыраванне, каб даказаць маральнае права Расіі на захопленыя тэрыторыі, у тым ліку па "Паўночна-Заходні край".

Наогул жа геаграфічны тэрмін Белая Русь, слушна даводзіць даследчык, мог узнікнуць тады, калі дружыны ваяроў-варагаў, пачаткова ў асноўным скандынаўскага паходжання, якіх фінамоўныя народы называлі ruotsi (русы), ды і самі яны, магчыма, гэтак зваліся, здолелі замацавацца ля "возера вепсаў" — весі **(wissi)** рускіх летапісаў, чыя назва ў носьбітаў германскіх моў, заўважае даследчык, асацыіравалася са словам "белы" (ням. **wiz-weiss**, як і лац. **albus** — "белы"). Хутчэй за ўсё гэтаму спрыяла і пігментацыя адной з найбольш светласкурых этнічных груп у рэгіёне, належнай да фінскай моўнай групы. Паводле "Аповесці мінулых часоў", напамінае даследчык, менавіта вепсы (весь) і былі адным з тых плямёнаў, што "паклікалі" да сябе князя з варагаў (русі). Летапіс згадвае пры гэтым канкрэтна варага Сіневуса, паўміфічнага брата Рурыка (Рорыка, Эрыка) Ютландскага.

Арэал панавання варажскіх ярлаў (князёў) усцяж водных шляхоў працягваўся на поўдзень з адгалінаваннем на паўднёвы ўсход, маючы на мэце беспярашкодны доступ у Волжска-Камскую Булгарыю і краіны Арабскага Халіфату. А разам з пашырэннем тэрыторый, падпарадакаваных новым уладарам, пашыралася і значэнне новага геаграфічнага тэрміна, лічыць даследчык. У XIII ст. большая частка вепскіх земляў, згадвае А. Белы, апынулася ў складзе Наўгародскай рэспублікі, таму, мусіць, натуральна, што і Белая Русь у еўрапейскіх крыніцах XIII—XVI ст. найбольш часта ўжывалася ў сувязі з Вялікім Ноўгарадам: ці як абазначэнне яго пэўнай часткі (далучанай), ці (паводле прынцыпу **pars pro toto** — "частка ў якасці цэлага" — лац.) усёй Наўгародскай рэспублікі, нават з некаторымі прылеглымі землямі. Усё гэта не магло прайсці міма пільнай увагі германскіх крыжакоў. Бо калі ў XIII ст. Белая Русь фігуравала, піша даследчык, толькі ў лацінскіх трактатах і мела схаластычны, амаль міфічны выгляд, то ў XIV — першай палове XV ст. у германскіх крыніцах яна набывае канкрэтыку, калі асвятляліся ўзаемадачыненні крыжакоў і Паўночна-Заходняй Русі. Пра што сведчыць, у прыватнасці, і геральдычны верш аўстрыйскага паэта Петэра Зухенвірта, прысвечаны "подзвігам" рыцара Фрыдрыха фон Кройцпека (пам. 1360 г.). У шэрагу ягоных "прыгод-рэйзаў" згадваецца і тое, як крыжакі "наехалі на белых русаў, на крэпасць Айзенбург". Eysenburk, тлумачыць даследчык, германская перадача назвы Ізборска, старажытнага "прыгарада" Пскова. Таго самага, дзе, паводле "Аповесці мінулых часоў" у 862 годзе "сеў" паўміфічны Трувар, брат Рурыка і Сіневуса. Заўважым, што "братамі" тады князі адзін аднаго называлі незалежна ад роднаснасці.

Цікава, піша А. Белы, што падчас "подзвігаў" згаданага ў вершы рыцара-крыжака, служылым князем Пскова намінальна яшчэ быў Андрэй Альгердавіч, а прадстаўляў яго там зноў жа літоўскі князь Юры Вітаўтавіч. Вельмі магчыма, слушна лічыць аўтар, што звесткі пра паходжанне "князёў Белай Русі" маглі быць успрынятыя так, што часткай гэтай Белай Русі як бы аўтаматычна рабіўся і Полацк. У феадальную эпоху, заўважае А. Белы, з яе асаблівай увагай да генеалогіі і тытулатуры, атаясамленне асобы феадала з тэрыторыяй, якой ён валодаў ці нават на якую толькі прэтэндаваў, звычайная з'ява. Аўтар згадвае як механізм пашырэння назвы Белая Русь на сумежныя тэрыторыі праявіў сябе ў выпадках і са смаленскім князем Фёдарам Юр'евічам.

У другім вершы, прысвечаным ужо подзвігам крыжака Ганса фон Траўна, Зухенвірт апісвае падзеі 1356 г., калі "белыя русіны мелі нахабства наехаць на хрысціян" там жа, ля "добрага горада на Белай Русі" Ізборска. Назва Белая Русь, піша даследчык, была вядомая і іншым германскім паэтам перыяду, калі жыў Зухенвірт. І не толькі ім. А. Белы называе "Хроніку Польшчы" падканцлера Яна з Чарнкова, "Хроніку Канстанцкага сабора 1414—1418 г." баварца Ульрыха Рыхенталя, дзе Белая Русь і белыя русіны згадваюцца некалькі разоў і пры розных абставінах. А вось "сапраўднай Руссю" Рыхенталь лічыў хутчэй за ўсё, піша аўтар, тую, якая "падначалена герцагу Вітаўту". У той жа час, даводзіць аўтар кнігі, каментуючы літаратуру, прысвечаную ўжо Ферара-Фларэнтыйскаму сабору (1438-1445 г.), дзе была зроблена чарговая спроба уніі, даследчыкі, якія мяркуюць, што там (у "Аповесці Сімяона Суздальскага", "Хаджэнне на Фларэнтыйскі сабор" ды ў "Слове... на лацыню") дакладна ўказваецца, быццам Белая Русь ёсць сінонім Маскоўшчыны (Я. Станкевіч), дапусцілі шэраг істотных памылак. У тым ліку і расійскі гісторык Карамзін, калі выкрываючы Тацішчаўскія сцверджанні адносна "Уладзіміра-Суздальскай" Белай Русі, абвясціў, нібыта Іван III назваў Маскоўскую дзяржаву Белай Расіяй, "то есть великою... по смыслу сего слова в языках Восточных". У сапраўднасці, упэўнены аўтар кнігі, не толькі Іван III, але і ягоны сын Васіль III у зносінах з еўрапейскімі дзяржавамі, у тым ліку з Вялікім Княствам, карысталіся тытулам, які пачынаецца са слоў: "Божьею милостью государь всеа Русии и великий князь... иных", аднак Белай Русі там няма ўвогуле. Тады як вядома, што маскоўскія валадары паўнату свайго тытулавання ўспрымалі надзвычай хваравіта. Былі выпадкі, калі замежных дыпламатаў тыднямі трымалі без аўдыенцыі толькі за тое, што ў іхніх граматах аказваўся парушаны вызначаны парадак пераліку царскіх тытулаў. Белая Русь з'явілася ў тытуле маскоўскага гасудара, але

*(Працяг на стар. 14—15)*



ЧАСАПІС

## Даследаваў фальклор

**У 1966—1980 гадах у Берліне, у перакладзе на нямецкую мову выйшлі "Беларускія народныя казкі" ў дзесяці выпусках. Адбылося гэта дзякуючы беларускаму і рускаму фалькларысту і літаратуразнаўцу Льву Барагу. Нарадзіўся Леў Рыгоравіч 13 студзеня 1911 года, памёр 4 верасня 1994-га. У 1938—1941 гадах загадваў кафедрай Мінскага педагагічнага інстытута і адначасова з'яўляўся навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук БССР, а ў 1943—1949 гадах быў дацэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Л. Бараг зрабіў шмат запісаў вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа, даследаваў творчасць Янкі Купалы, Цёткі, Максіма Танка, Міхася Лынькова і іншых пісьменнікаў. Ім апублікаваны першы ў гісторыі беларускай фалькларыстыкі сістэматычны паказальнік "Сюжэты і матывы беларускіх казак", напісаны каментарыі да зборнікаў "Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі", "Чарадзейныя казкі" (сумесна з К. Кабашнікавым), "Сацыяльна-бытавыя казкі"... У манаграфіі "Беларускія казкі" звярнуў увагу на багацце і самабытнасць чарадзейных беларускіх казак.**

## Новае — добра выдадзенае старое!




**У справядлівасці гэтай медыфікаванай народнай мудрасці можна ўпэўніцца калі зірнуць на кампакт-дыскі, што не так даўно былі перавыдадзеныя беларускімі фанаграфічнымі фірмамі.**

**Першы — гурта "Палац" "Лепшае" — у гэтым сэнсе можна аднесці да кампіляцыі найбольш вядомых апрацовак знакамітага фолк-мадэрн-гурта. Гэтае выданне ажыццявіла фірма "Каўчэг", якая ўвесь мінулы год перавыдавала на кампакт-дысках лепшыя альбомы гуртоў "NRM", "Уліс", "Крама"...**

**Рэпертуар "Лепшага" быў вызначаны рэйтынгавым апытаннем сярод удзельнікаў гурта. І таму на ім знайшлося месца і таму, што прыдатна для дыскатэк — рытмічным "Ночам" і "Канюшні", і знаным калядкам — "А ці дома", "Святы вечар", а таксама, лепшым песням з іншых альбомаў гурта каляндарнага і абрадавага цыкла. Таму не дзіўна, што новы зборны дыск "Палаца" атрымаўся сапраўдным падарункам для аматараў фолк-мадэрна ў Беларусі.**




**Калі беларускія і замежныя слухачы ўпершыню пазнаёміліся з кампазіцыямі супольнага праекта "Народны альбом", то набыць яго для сваёй хатняй фанатэкі яны маглі толькі ў выглядзе магнітафоннай касеты. Але папулярнасць гэтага арыгінальнага твора не змяншаецца ўжо на працягу трох гадоў і гэта падштурхнула выдавецкую фірму "Бульба-рэкардз" выдаць яго на кампакт-дыску.**

**Цяпер нашыя слухачы маюць магчымасць асэнсаваць гэты беларускі мастацкі феномен, з якім ужо пазнаёміліся слухачы ў Польшчы, Францыі, Фінляндыі, зразумець, чаму крытыкі яго называюць *гістарычным і постмадэрнісцкім*, шматпланавым і полікультурным...**

**А яшчэ новы дыск зафіксаваў творчыя пошукі шмат якіх зорак беларускага андэграунда, ад пераліку імёнаў якіх у знаўцаў займае дух: М. Анемпадыстава, Л. Вольскага, К. Камоцкай, В. Кораня, П. Паўлава...**

**А. МІТРАНОВІЧ**

# У пошуках беларусаў...

*(Заканчэнне. Пачатак на стар 13)*

пазней, састаўной часткай і не вызначальнай. Гэта адбылося, калі Масковія захапіла Вялікі Ноўгарад і прылеглыя да яго землі. У 1471—1478 гадах. Але паколькі, заўважае даследчык, Масква некаторы час лічыла выгадным пакінуць Ноўгараду рэпрэзентатыўныя функцыі ў зносінах са Швецыяй, Лівоніяй і ўвогуле Ганзейцамі, гэта магло паўплываць на атаясамленні яго (Белай Русі) Захадам з Маскоўскай дзяржавай "усёй Руссю". Адсюль магло ўзнікнуць, мяркуе А. Белы, адпаведнае ўспрыманне геаграфічных рэалій і ў італьянцаў.

Разабраліся ж заходнія еўрапейцы ў новых стасунках толькі на пачатку XVI ст., калі настваораная імперыя распачала наступ ужо на Лівонію.

Дадаткова ж, мяркуе даследчык, справу з назвамі заблытала выкарыстанне панегірыстамі маскоўскіх уладароў эпітэта "белы" ў значэнні, запазычаным з цюркскага — "вялікі, высакародны", які згадваўся раней пры тытуляванні ханаў Арды. Іх па меншай меры пасля распаду імперыі Чынгіз-хана налічвалася толькі "каляровых", здаецца, тры — Залатая, Белая (!) і Сіняя... То што ўжо гаварыць пра далёкіх італьянцаў з іспанцамі, свае блыталіся. Прыкладам, гісторык Тацішчаў ужо калі сцвярджаў, нібыта ажно яшчэ пры Юрыі Даўгарукім у 1152 годзе ягонае "вялікае" княства **"по обычаю тутошних народов, яко изясчное владение, Белое имяновано, как татареи доднесь русских государей акспадышага, то есть белый император, имянуют"**. Заблытаўся, лічыць даследчык, польскі гісторык сярэднявечча М. Стрыйкоўскі, калі характарызаваў на падставе эпітэта "белы цар" і вялікіх князёў Маскоўскіх як "уладароў Бела-Рускай манархіі". А за ім італьянец Гваньіні з яго "белым царом Маскоўскім, ці імператарам Белай Русі". Але ж, згадвае даследчык, і германскага імператара Максімільяна І пры заключэнні хаўрусу з Масковіяй супроць Польшчы і ВКЛ называлі ў дамовах Weisskunig. "Белы" кароль "Белай Германіі", выходзіць? Маскоўскія ж дыпламаты ў сярэдзіне XVI ст., працягвае даследчык, ужываючы формулу "белы цар", наадварот, ужо спасылаліся не столькі на "басурманаў", колькі на... германскага імператара — той нібыта першым сказаў. Праўда, зазначае даследчык, ужо ў наступным, XVII ст. сфера ўжытку эпітэта "белы" абмежавалася азіяцкімі суседзямі Расіі — калмыкамі, кітайцамі. Хоць увогуле ў сярэднявеччы, прыводзіць аўтар "Хронікі..." меркаванне даследчыцы Г. Харашкевіч, эпітэт "белы" ў значэнні "высакародны" ўжываўся і ў краінах Заходняй Еўропы. Прыкладам, "белы" венгерскі кароль Эндрэ І, польскія князі Лешак ІІ Белы, Уладзіслаў Белы...

Адпаведным, адзначае даследчык, было і ўяўленне тагачасных картографаў пра Белую Русь. Працяглы час яны накладвалі назву Ноўгарад, пра які ведалі лепей за астатняе, на землі ўсёй Расіі, дакладней, да той яе часткі, піша аўтар "Хронікі...", якая, меркавалася, ляжала на паўночным захадзе ад міфічных Рыфейскіх гор (якія таксама перыядычна мянялі сваю геаграфічную прывязку". Аўтар кнігі прыводзіць значную колькасць карт Сярэднчвечча, стасуючы іх з тагачаснымі пісьмовымі крыніцамі, прасочваючы неверагодны іншым разам рух Белай Русі на прасторы Усходняй Еўропы, і тое, як абрысы яе і каардынаты ўсё болей канкрэтызаваліся як па прычынах узаемадачынення паміж дзяржавамі, так і па меры геаграфічнай дасведчанасці адукаванай часткі еўрапейцаў.

Гэтая эрудыцыя значна ўзрасла, калі масіраваны напад войскаў маскоўскага цара Івана IV Грознага на Лівонію імкліва пачаў разбураць усю эканамічную сістэму ўзаемадзеяння ў дзяржаў Паўночнага захаду Еўропы. Вось калі спатрэбіліся асабліва дакладныя карты і апісанне рэгіёна Прыбалтыкі. І яно з'явілася. У 1555 г. у Базэлі, паведамляе А. Белы, выдаецца кніга вармінскага біскупа Марціна Кромера "Гісторыя палякаў". Іван ІІІ, князь Маскоўскі, паведамлялася там, "заняволіўшы Вялікі Ноўгарад, захапіўшы многія крэпасці і ўмацаванні на мяжы з Руссю, **якая завецца Белай і знаходзіцца пад уладай вялікага князя літвінаў**, уяўляў для астатняй Русі (!) і Літвы сур'ёзную пагрозу".

Такім чынам, адзначае даследчык, Марцін Кромер першым **свядома ўжыў назву Белая Русь у дачыненні менавіта да нашай краіны.** *(Падкрэслена мною. —Э. Я.).* У 1563 г. Полацк і прылеглыя землі былі захоплены Масковіяй. У 1569 г. да таго ж прымаецца Люблінская унія, якая перакройвае карту Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага на карысць нашай стратэгічнай саюзніцы Польшчы. Зразумела, чаму цікавасць да гэтага рэгіёна ў Еўропе ўзрастае яшчэ болей. У адказ у 1575 годзе ў Франкфурце-на-Одэры выходзіць чарговая праца вучонага географа і гісторыка біскупа Кромера "Польшча, або Пра становішча, народы, звычаі, кіраванне і дзяржаўны лад Польскага каралеўства". Там зноў падаюцца звесткі пра Белую Русь. Праўда, цяпер пад такой жа назвай праходзіць і Усходняя Украіна. А. Белы не дапускае, што гэта "перазовы" з традыцыяй папярэднікаў — Калімаха і Пампонія Лэта (калі ва ўяўленнях географаў існавалі ў адных "цысрыфейская", у другіх — "трансрыфейская" Белыя Русі). Аднак дакладна вызначаюцца, піша даследчык, геаграфічная граніца Белай Русі і Жмудзі — 57 градусаў паўночнай шыраты. (Цяпер — 56 градусаў п.ш.). І значыць Кромер лічыў, што, апроч рускіх земляў ВКЛ і, магчыма, Смаленшчыны, у яе ўваходзілі паўднёвыя часткі Наўгародчыны і Пскоўшчыны — землі ў вярхоўях рэк Вялікая, Ловаць, Дняпро і Дзвіна, страчаных Вялікім Княствам у перыяд 1486—1537 гг. у выніку ваенных нападаў з боку Масковіі.

А вось этнатэрмін "беларусы" ў значэнні, вельмі блізкім да сучаснага, адзначае аўтар "Хронікі...", ці не першым пісьмова ўжыў паляк па паходжанні Мацей Стрыйкоўскі ў сваёй знакамітай "Хроніцы Польскай, Літоўскай, Жмойцкай і ўсяе Русі", выдадзенай у 1582 годзе ў Кёнігсбергу. Даследчык тут пагаджаецца з выдатным нашым гісторыкам (у іншых выпадках дыскутуе) Мікалаем Улашчыкам, які ў свой час прысвяціў асобнае даследаванне аналізу звестак гэтай Хронікі, што ўжыванне Стрыйкоўскім "Bielorussacy Litewscy — праўобраз этнаназвы сучасных беларусаў, калі ўлічыць, што межы *паслялюблінскай* Літвы ў асноўным супадалі з межамі сучаснай Беларусі".

Даследчык згадвае яшчэ нямала пісьмовых дакументаў і картаў XVII і нават пачатку XVIII ст., *калі мела месца ранейшая* непаслядоўнасць і блытаніна з назвай Белая Русь. Аднак усё часцей, зазначае ён, Белую Русь згадваюць побач з Літвой, "прычым як сувымераныя па арэале і палітыка-*адміністрацыйным значэнні тэрміны*". Быў

# Віна

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9)*

Людзі паверылі – ды і куды было падзецца. Старых і хворых засталося чакаць транспарту, цяпер Базыль ведае дакладна, 148 чалавек. Надумалі пад'ехаць і ягоныя бацька ды маці. Нявестка хацела пакінуць з імі малых дзяцей, але нейкі немец не даў ёй гэтага зрабіць: груба адштурхнуў разам з дзецьмі, запхнуў у калону. Усю дарогу праклінала яна таго немца, несучы на руках то адное, то другое знямоглае дзіця. А калі потым даведалася ўсю праўду, дык не раз у думках малілася за яго...

Калона адышла ў бок Васілевічаў усяго некалькі кіламетраў, як немцы пачалі паліць вёску на вачах у тых, хто застаўся чакаць машын. Нібыта спяшаліся, хоць доўгага летняга дня заставалася яшчэ шмат. Калі запалалі першыя хаты, у натоўпе пачаўся гвалт, крык, плач. І тады старых ды хворых пад рулямі кулямётаў загналі ў калгасную стайню. І хоць ніхто яшчэ не здагадваўся, дзеля чаго іх туды папіхаюць, людзі ісці ў цёмнае, змрочнае памяшканне не хацелі...

У атрадзе пра тое, што немцы праводзяць карную аперацыю і паляць Бароўку, дазналіся тым жа ранкам, а камандзір ад разведкі, пэўна ж, ведаў яшчэ з учора. Камандаванне вырашыла нічога не прадпрымаць. байцы збіраліся ў купкі і абмяркоўвалі гэтую вестку. Крыўдна было Базылю чуць, што шкадуюць хлопцы не вёску, не людзей, якія застаюцца без даху над галавой – размоў пра гэта і блізка не было, – а турбуюцца, што папругі давядзецца зацягваць тужэй: вялікая Бароўка давала атраду ці не палову харчоў, асабліва зімой. Базыль цішком адышоўся да недалёкага бору і залез на высачэзную хвою. Глядзеў у бок вёскі – там, над лесам, падымалася густая паласа дыму. Сівога па баках і чорнага-чорнага пасярод. Ён не ведаў, што там адбываецца, ён не ведаў, дзе бацькі, не чуў крыкаў і стогнаў, галашэння і плачу, але слёзы так і цяклі з ягоных вачэй, бо, здавалася, само неба лямантавала нема ў той дзень...

З тым чорным дымам адляталі душы бацькі, маці, дзеда Змітрыка і яшчэ дзесяткаў блізкіх яму і знаёмых з дзяцінства людзей. Толькі адзін хлопчык ўратаваўся з тае стайні, але ад жаху перажытага анямеў (стаў немчыкам, казалі ў вёсцы, і да яго, анямелага ад лютасці немцаў, гучала гэта яшчэ жахлівей) і таму расказаць нікому нічога не мог, а пісаць яшчэ не навучыўся. Так і не навучыўся... Жыве ён і цяпер у вёсцы — старэнькі, ходзіць з навечна наіўнадзіцячым тварыкам, як нямы дакор... Базылю.

«І чаму не бацька, не маці, а дзед Змітрык убачыўся мне сёння? Чаму ні бацька, ні маці ні разэчку нават у сне не паўшчувалі мяне? Яны ж там усё ведаюць! Усё... І ведаюць, пэўна ж, пра мае перажыванні. І пра пошукі апраўданняў. Ці мо яны вінаватым мяне не лічаць... Інакш хоць разок ды з'явіліся б... Як жа, дадумаўся зноў: ты – невінаваты.., – горка ўсміхнуўся сам сабе дзед Базыль, – не прыкідвайся. Іншых ты можаш падмануць, а сябе – не. Ты ж чуў тады: немцы аб'явілі, што спалілі Бароўку менавіта помсцячы за забітага каля яе унтэр-афіцэра. І людзі ўсе пра тое ведаюць. Не здагадваюцца хіба толькі, што гэта ты зрабіў, што ты забіў таго немца... У атрадзе землякоў больш не было, а іншыя неяк стараліся не згадваць той выпадак. Бо адчувалі і сваю віну, што прасядзелі ў лесе і не кінуліся нават адбіць тых, каго немцы гналі ў Германію: ахова там была невялікая. І пабаяліся, не перастрэлі на паўдарозе немцаў ды паліцаяў, што вярталіся з «аперацыі». Не абстралялі нават. Хоць тады ўжо можна было зрабіць гэта беспакарана: вёска ж усё роўна спаленая... Дык не, праседзелі, як мышы пад венікам, дрыжэлі толькі, каб немцы не завярнулі на зваротнай дарозе да іх базы, месцазнаходжанне якой, пэўна ж, ведалі... Але і немцам, мусіць, не трэба былі лішняя рызыка ды лішнія ахвяры: гэта ж не з вяскоўцамі «ваяваць»...»

Тысячы разоў думаў пасля дзед Базыль пра тую сваю перастрэлку. Ці хацеў ён забіваць немца? На спакойную галаву – не... А тады ў гарачцы... Ну сталася так... Няхай бы лепш немец забіў яго. Не было б столькі гора людзям: і тым, што ўцяклі ў лес і засталіся на зіму без жылля, у зямлянках з малымі дзецьмі, і тым, каго звезлі на працу ў Германію... «І чаму я не ўцёк разам з усімі, чаму запоўз за тую хвою? Каб уцёк, было б усё інакш, іначай, не так... Не так!.. Бо гэта ж несправядліва! Так не магло быць! Так нельга! Так не павінна было быць!..», – дзед Базыль заўважыў, што гучна шэпча тое сабе, ледзь не крычыць, і агледзеўся. Не, у хаце больш нікога не было. Толькі ён ды бясслоўны кот. «Нічога ўжо не зменіш, – падумаў ён слаба і стомлена, – нічога. Што было, тое было, што ёсць, тое ёсць...»

Базыль дэмабілізаваўся і вярнуўся ў Бароўку ўвосень сорак пятага. Застаў дома ўжо і тых, каго немцы загналі ў Германію: яны прыехалі да сваіх спаленых котлішчаў улетку. Была тут і братава жонка Валя з дзецьмі. Ён знайшоў іх у зямлянцы, што выкапала яна на месцы свайго селішча, непадалёк ад печы, у якой і гатавала дзецям. Брат Мікола з вайны не прыйшоў: загінуў без звестак яшчэ напачатку, ці не ў першы месяц яе, недзе пад Магілёвам. Больш нікога ў вёсцы ў Базыля не было. Дзяўчына, якую ён кахаў, да якой бегаў на спатканні, загінула, ён і па сёння не ведае дзе: прапала падчас вайны. І Базыль застаўся жыць з Валяй. Спачатку проста дапамагаў ёй

час, піша ён, калі паняцці Літва і Белая Русь на шырокай паласе Цэнтральнай Беларусі паступова робяцца раўназначнымі, паколькі дакладнаму падзелу "не спадарожнічала ні адміністрацыйная, ні этнічная, ні натуральная фізіка-геаграфічная мяжа". Аднак у Жамойціі і блізкароднасных ёй рэгіёнах першай стала ўзрастаць нацыянальная самаідэнтыфікацыя, якой вельмі спрыялі дзеі знакамітага біскупа Гедройца і яговых паплечнікаў, адзначым следам за Міколам Ермаловічам. Пачалося замацаванне назвы Літвы (дакладней — Летува) за балцкімі землямі і насельнікамі Вялікага Княства. Больш запаволена, але няўхільна пачынае ажыццяўляцца пэўная этнічная самаідэнтыфікацыя і насельнікаў Белай Русі, якой спрыяюць таксама палкія царкоўныя спрэчкі паміж уніятамі і праваслаўнымі, зазначае А. Белы. Працэс яшчэ больш узмацняе стварэнне Беларускай праваслаўнай епархіі (Магілёўска-Віцебскі рэгіён). Вызначаецца ў гэтым і Масква. Так, заўважае А. Белы, напярэдадні вайны з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гадоў тэрміны Белая Русь, "белорусцы", "белорусское письмо" ўжо сустракаюцца ў маскоўскіх дакументах вельмі часта. Калі ж войскі Аляксея Міхайлавіча ў жніўні 1655 г., згадвае даследчык, зруйнаваўшы амаль усё Вялікае Княства, захапілі стольны горад Вільню, маскоўскі цар адразу ж (03.09.1655) выдаў указ аб далучэнні Белай Русі да свайго тытула, канчаткова аддзяліўшы яе ад зямляў Украіны (Малой Русі). Вось з якога часу, хоць у далейшым і давялося сысці на працяглы час з заваяванай тэрыторыі, Масква ўсімі сродкамі імкнецца абгрунтаваць свае нібыта "гістарычныя правы" на Беларусь, піша даследчык.

Ну, а далейшыя змагарныя дарогі беларусаў за сваю нацыянальную незалежнасць і самаідэнтыфікацыю, сцвярджае А. Белы, ужо не ўваходзяць ў межы яго даследавання. Тым не меней у сваю кнігу ўключае яшчэ такія насычаныя і спавітыя грунтоўным аналізам раздзелы, як "Белая Русь у дачыненні да Чорнай і Чырвонай" ("Геаграфічны трыкалор"), "Фантастычныя рысы Белай Русі" ("Міф і рэальнасць"), "Дзе яшчэ шукаць звесткі пра Белую Русь". Вельмі цікавымі падаліся і "Дзесяць тэзісаў пра Белую Русь (Заключэнне)", гэтак як і "Храналагічная табліца Белай Русі". Ды і звод каментароў, крыніц і скарыстанай літаратуры паглыбляюць, дапаўняюць, робяць яшчэ болей дакладным, пра што паведамляецца ў асноўнай, "мацерыковай" частцы даследавання. Дасціпнага, удумлівага, сапраўды зробленага новым, раскаваным, сучасным у лепшым сэнсе слова маладым вучоным. Праўда, падалося, што іншым разам у палемічным запале Алесь Белы ўсё ж недаацэньвае здзейсненае даследчыкамі-папярэднікамі. Але мне, чытачу, бачна, што ў падмурку яговай пабудовы закладзеныя і іхнія важкія цагліны.

Але самае істотнае ў іншым. Заўважана, што ці не кожны народ моцна трымаецца за сваю этназву, хоць іншым разам камусьці здаецца і не самай выбітнай ва ўласнай гісторыі. Бо гэта яго, народа нейкі проста чароўны абярог ад разбурэння, аснова выжывання ў самых цяжкіх умовах несмяротнасці нацыі. Нам Усявышні падараваў такую — БЕЛАРУСЫ. Колькі цяжкага, і гераічнага адбылося, пакуль яна асталявалася. Некаму здаецца, каб ды назвацца літвінамі, то куды б лепей. Што ж, даследаванні пацвярджаюць, мог спраўдзіцца такі варыянт. Пакінулі адметны знак у гісторыі старажытныя літвіны — адважныя вояры, людзі годныя і свабодныя. Мы што, аўтаматычна сталі б такімі, каб выпала называцца літвінамі? Не кажучы пра самае істотнае: ёсць ужо на свеце Летува, наша добрая суседка. Народ яе неадноічы перараканаў, што адпавядае і характарам, і ўзроўнем уласнай годнасці сваёй этназве, перанятай у продкаў. Жывіце ў шчасці, суседзі! Наша пашана вам, летувісы!

А хто такія русы? У кнізе Алеся Белага пра іх з'яўленне на нашых землях сказана мала, але досыць ёмiста. З цягам часу так пачалі называць не толькі варажскіх дружыннікаў князя. Русінамі пачала лічыцца ўся шляхта, гэта значыць, вайсковае саслоўе ў дзяржаве, а затым і ўсе асабіста вольныя людзі краіны. Згадаем хоць бы, як называў сябе вялікі Францыск Скарына. Калі ў цяперашнім значэнні — гэта грамадзянін. У яго было выбарчае права (глядзіце Статут ВКЛ 1588 г.). Гарантавалася абарона як асабістай годнасці, так і маёмасці ў судзе і ўрадніках. І святы абавязак — збройна абараняць сваю краіну ад ворага. Чым ёсць прыметнік "белы" ў дапасаванні да назоўніка "рус", "русін" у кнізе вызначана, думаецца, вельмі дакладна. Не цяжка зразумець і тое, чаму наша этназва некаму бы костка ў горле.

А нам, калі не хочам стаць перакаціполем і нейчымі халуямі, трэба не толькі ўсімі сіламі берагчы, але і заўжды старацца быць годнымі сваёй Усявышнім дараванай этназве — БЕЛАРУСЫ. Іншага не дадзена.

*2000 г.*

гадаваць дзетак, а потым неяк неўпрыкмет сталі яны мужам ды жонкай. Хоць і казала яму Валя: «Адумайся, навошта я табе. Паглядзі колькі дзяўчат вакол. Ты малады, харошы, любая за цябе пойдзе...» Не паслухаў ён яе. І да трох братавых дзяцей дадалося яшчэ двое іхніх. Падняліі ўсіх, у свет пусцілі. Так, у вёсцы з пяцёх ніхто не застаўся. Добра, хоць унукаў на лета прывозяць.

Базыля, як франтавіка ды партызана, паставілі брыгадзірам. Кіраваў ён паляводчай брыгадай. Меў пад началам сорак жанок – удоў у асноўным. Усялякае было. І саромнае: бабы без мужыкоў вар'яцелі... Але ён Валі ні разу не здрадзіў. Не меў ён на гэта права. Не меў... Хоць і здзекаваліся напачатку з яго бабы. Жорстка, крыўдна. Але сцярпеў. А яны потым пераключыліся на Валю: маўляў, прысушыла, вядзьмарка, мужыка.

А Валя так ніколі і не сказала яму, ці кахае яго, ці проста Міколу згадвае: браты, кроў адна і пах адзін. жылі, дзяцей гадавалі... Заўважала яна, што перажывае ён з-за чагосьці, бачыла, што неспакойна яму. Спачатку на сябе віну брала, а потым зразумела: не, нешта іншае гэта, можа, ваеннае, франтавое... што насамсправе баліць яму, так да сёння яна і не ведае, не здагадвацца, бо ніколі не казаў ён ёй пра сваю віну-пакуту. Валя не раз прасіла яго: схадзі ў царкву, свечку пастаў, пакайся, палягчэе. Можа, каб была ў іхняй вёсцы царква, дык і схадзіў бы ён. Але ж Божага храма не было і ў райцэнтры. Бліжэйшы быў толькі ў Васілевічах, а туды ехаць спецыяльна трэба, дык ён так і не выбраўся. не змог, не паехаў, не пакаяўся, не павініўся...

Так і пражыў дзед Базыль сваё жыццё – ціха і непрыкметна, нікому зла не робячы, але нікому асабліва не дапамагаючы. Не вытыркаўся, не лез наперад, рабіў сумленна сваю справу. Не стаў камуністам, хоць прымушалі, як начальніка, рост, казалі, будзе. Пражыў самнасам са сваёю памяццю, са сваёю віною-пакутаю, са сваёю невыказнаю бядою. Старэйшых ды пагодкаў смерць даўно забрала, маладзейшых пералічыла, а ён усё жыве. Хварэў было, але не памёр. Схуднеў, на старасці высах з думак зусім. Ссушыла яго бяда тая на таран, як толькі душа ў целе трымаецца. На твары толькі нос застаўся ды макраватыя, бліскучыя, як гузікі, вочы. Выйдзе ў лаўку па хлеб – вецер хістае, нібы чараціну. І што яго яшчэ трымае на гэтай грэшнай зямлі? Няўжо віна? Няўжо тое, што так і не павініўся ён перад людзьмі, якія загінулі ці бедавалі з-за яго? Уголас не пакаяўся, не папрасіў прабачэння. Бо да той стайні, на месцы якой стаіць цяпер помнік спаленым фашыстамі аднавяскоўцам, хадзіў ён вініцца не раз. І на паску, і на радаўніцу, і на ўшэсце, і так проста па дарозе ў лаўку зойдзе ды пастаіць – і бацькоў жа яговых попел недзе там ляжыць... Прасіў у людзей прабачэння, плакаў. Але ціха. Як, зрэшты, і іншыя: не напаказ, а сабе. А гэта, пэўна, недзе там не лічыцца...

Дзед Базыль глядзеў у сад – ужо змяркалася – і бачыў не яблыню ў цвеце, а старога Змітрыка. Стаяў ён сівы і згорблены, нібыта з карткі сышоў. Такім запомніў Базыль яго ў дзяцінстве, такім памятаў. Дзед Змітрык глядзеў яму вочы ў вочы. І пачуў Базыль голас – глухі і слабы, але настойлівы і загадны: «Схадзі, сынок, у школу, схадзі. І дзеткам пра ўсё раскажы. Праўду раскажы. Хай ведаюць. Хай памятаюць. Хай падумаюць, якая жахлівая тая вайна. Раскажы пра нас, раскажы пра сябе. Перад будучыняй нашай павініся, перад унукамі ды праўнукамі, перад памяццю сваёй... Схадзі...» Разумеў дзед Базыль, што не змітрык гэта гаворыць, не яговыя гэта словы... Гэта сам сябе ён пераконвае, а дзед – прыдумка, не болей, каб апраўдаць нерашучасць, каб пераадолець яе ды скінуць, нарэшце, цяжар з душы... Глядзеў ён на дзеда Змітрыка, глядзеў у яговыя ясныя вочы і ў думках дзякаваў яму і абяцаў: «Схаджу, абавязкова схаджу... Колькі ж можна так жыць... Колькі ж можна жыць...»

# Любоў ШЭЛЕГ

Айчынная літаратура панесла страту — 4 студзеня пасля цяжкай хваробы памерла паэтэса Любоў Шэлег.

Любоў Валянцінаўна Шэлег нарадзілася 8 ліпеня 1953 года ў Мінску ў сям'і вайскоўца. Працоўны шлях пісьменніцы пачаўся ў Міністэрстве вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі ў 1970 годзе. Пасля заканчэння ў 1980 годзе факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта працавала карэспандэнтам радыё Мінскага вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі, пазней адказным сакратаром літаратурна-драматычнай рэдакцыі Белтэлерадыё. Працавала рэдактарам часопіса "Энергоэффективность", да апошніх дзён усе сілы, вопыт і талент аддаючы развіццю беларускай культуры.

Друкавацца Любоў Шэлег пачала ў 1977 годзе. У наступныя гады пабачылі свет шматлікія падборкі вершаў у перыядычным друку, аповесць "Амальгама", кніга паэзіі "Ромашковое поле". Паэтка няўхільна ўзнімалася над будзённасцю і дробязнасцю паўсядзённасці.

Пакінуты ў рукапісах няскончаныя творы, шчымлівыя радкі трапяткой паэзіі, якія апошнім часам яна пісала па-беларуску.



Светлы вобраз Любові Валянцінаўны Шэлег назаўсёды застанецца ў памяці тых, хто яе ведаў.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**



ПАМЯЦЬ

*Уладзімір МАЦВЕЕНКА*

# Прысвячэнне

Светлай памяці Інусі

***Не прысвячаў табе я вершы,***
***Напэўна, гэты першым будзе.***
***Як кветкі першыя на лузе,***
***Не прысвячаў табе я вершы.***
***Ты была лепшаю ў акрузе,***
***А для цябе і я быў лепшы.***
***Не прысвячаў табе я вершы,***
***Напэўна, гэты першы будзе.***

●

***Перажываю цяжка страту,***
***Аб гэтым знаеш ты адна.***
***Я слёзы выплакаў да дна,***
***Перажываю цяжка страту.***
***Не сплю начамі даўно,***
***Як у турму заходжу ў хату.***
***Перажываю цяжка страту,***
***Аб гэтым знаеш ты адна.***

●

***Я пра цябе сказаць хацеў,***
***Патрэбных слоў знайсці не змог.***
***Хоць намагаўся, далібог,***
***Я пра цябе сказаць хацеў.***
***Мяне не цягне наш парог,***
***Як ты была — страпой ляцеў.***
***Я пра цябе сказаць хацеў,***
***Патрэбных слоў знайсці не змог.***

●

***Замала табе кветак дараваў,***
***Яны цяпер ля помніка ляжаць.***
***Каб ты змагла пабачыць іх, узяць,***
***Замала табе кветак дараваў.***
***Сябе я не жадаю апраўдаць***
***Тым, што тады хапала іншых спраў.***
***Замала табе кветак дараваў,***
***Яны цяпер ля помніка ляжаць.***

●

***Я разарваны папалам,***
***Што мне рабіць і як мне жыць.***
***Палова пад зямлёй ляжыць —***
***Я разарваны папалам.***
***Хто дапаможа мне рашыць,***
***Сябры, калегі, альбо храм,***
***Я разарваны папалам,***
***Што мне рабіць і як мне жыць.***

●

***Засохла яблынька ў садку,***
***Прапаў яе ружовы квет.***
***Неспадзявана, неўпрыкмет***
***Засохла яблынька ў садку.***
***Ёй апастылеў белы свет***
***Пакінуўшы самотны след,***
***Засохла яблынька ў садку,***
***Прапаў яе ружовы квет.***

●

***Патух агеньчык у тваім акне —***
***І раптам пацямнела ў белым свеце...***
***Задзьмуў лампадку боскі вецер,***
***Патух агеньчык у тваім акне.***
***Вось некралог у лімаўскай газеце —***
***І вельмі цяжка і балюча мне...***
***Патух агеньчык у тваім акне —***
***І раптам пацямнела ў белым свеце...***

**Саюз беларускіх пісьменнікаў смуткуе з прычыны заўчаснай смерці пісьменніцы ШЭЛЕГ Любові Валянцінаўны і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае спачуванне пісьменніку СЛЕСАРЭНКУ Аляксею Аляксеевічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці брата Леаніда.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае спачуванне пісьменнікуБУТЭВІЧУ Анатолю Іванавічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

**З глыбокім смуткам паведамляем, што 30 снежня 2000 г. раптоўна памёр вядомы беларускі мастак, сябра мастацкай суполкі "Пагоня" Генрых ЦІХАНОВІЧ.**

Уладзімір МАЗГО

# Вясёлы карагод

## Казімір Камейша

*Казімір пад новы год*
*Водзіць рыфмаў карагод,*
*Покуль дрэмле пад пяром*
*Вершаваны "Крыгагром".*

## Алесь Бадак

*Паэт*
*І крытык баявы,*
*І хіт-параду*
*Руляві.*
*На Новы год,*
*Калі нальём,*
*Алесь адкажа:*
*— За рулём!..*

## Міхась Скобла

*Ён, былы дэсантнік-ас,*
*Прызямліўся на Парнас,*
*Бо раскрыўся талент тут,*
*Як надзейны парашут.*

## Міхась Зарэмба

*Свой юбілей*
*Міхась Зарэмба*
*Якраз сустрэў*
*У форме Рэмба,*
*Бо новы твор,*
*Адзначу ў тосце,*
*Стаў эліксірам*
*"Маладосці".*

## Уладзімір Скарынкін

*Як перакладчык,*
*На "выдатна"*
*Экзамен вытрымаў*
*Па Дантэ.*
*Таму віншуем*
*Урачыста,*
*Як ганаровага*
*Дантыста!..*

## Уладзімір Марук

*Як выдавец,*
*Каля Нямігі*
*Ён выдае*
*Чужыя кнігі,*
*А як паэт,*
*Марук свае,*
*На жаль,*
*Даўно не выдае.*
*Адказнасць*
*Маруку да твару:*
*Аб кнізе ўласнай —*
*Толькі марыць.*

## Ансамбль "Бяседа"

*Весялуха, непаседа,*
*Зачаруе ўсіх "Бяседа".*
*А настрой абудзіць спеўны*
*Шчырай песняю Захлеўны.*

## Ансамбль "Песняры"

*Мабыць, песняй*
*"Песняры",*
*Як эстрадныя зубры,*
*Захмялілі слухача,*
*Што дваіцца*
*У вачах...*

## Алесь Камароўскі

*Ён шчыруе моцна гэтак,*
*Як "юнацкі" энергетык,*
*І энергіяй душы*
*Зараджае тыражы.*

## Леанід Пранчак

*Вуліца імя Гардзея —*
*Ганаровая падзея.*
*А яго імя —*
*Вякі*
*Носіць вёска Пранчакі!..*

## Міхась Пазнякоў

*Заўжды паголены,*
*Міхась*
*Зрабіўся "Вожыкам" якраз:*
*Змяніў ці імідж,*
*Ці узрост —*
*Увесь калючкамі аброс.*

## Валерый Славук

*Балельшчык "Славіі"*
*Славук*
*Трымае горда галаву:*
*І клуб футбольны —*
*Чэмпіён,*
*І лаўрэат мастацтва —*
*Ён.*

## Мікола Чарняўскі

*Каго баіцца зубр? —*
*хачу*
*Прызнацца сябру-слухачу,*
*Калі глыну "Зуброўкі"*
*Хоць кроплю з паўлітроўкі.*
*Я зразумеў пакрыху:*
*Баіцца зубр —*
*зубрыху!..*

## Уладзімір Ягоўдзік

*У нашым карагодзе*
*З'явіўся пан Ягоўдзік.*
*Заўзяты лесавік,*
*Дзіцячы чараўнік,*
*Галоўны "падбярозавік"*
*Прынёс усім —*
*Бярозавік...*

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### РАМПА

**Тэатр балета**

*12 студзеня*— "Страсці па Рагнедзе"
*14 студзеня* — "Бахчысарайскі фантан"
*17 студзеня* — "Дон Кіхот"
*19 студзеня*— "Карсар"
*21 студзеня*— "Доктар Айбаліт"
*24 студзеня*— "Карміна Бурана" і "Кармэн-сюіта"
*26 студзеня* — "Стварэнне свету"
*28 студзеня* — "Чыпаліна"

**Тэатр оперы**

*14 студзеня*— "Севільскі цырульнік"
*16 студзеня* — вечарына старадаўняга рамanса
*18 студзеня* — "Жаніцьба Фігара"
*20 студзеня* — "Барыс Гадуноў"
*23 студзеня*— "Іяланта"
*25 студзеня* — "Кармэн"
*27 студзеня* — "Лючыя дэ Лямярмур"
*28 студзеня*— "Набука"
*30 студзеня* — "Яўген Анегін"

**Купалаўскі тэатр**

*13 студзеня*— "Чорная панна Нясвіжа"
*14 і 28 студзеня*— "Жаніцца — не журыцца"
*14 і 22 студзеня*— "Памінальная малітва"
*15 студзеня* — "Ромул Вялікі"
*17 і 18 студзеня* — "Смак яблыка"
*19 студзеня* — "Вечны Фама"
*20 студзеня*— "Парфен і Аляксандра"
*21 студзеня* — "Паўлінка"
*24 і 25 студзеня*— "Тутэйшыя"
*26 студзеня* — "Страсці па Аўдзею"
*27 студзеня*— "Піраміда Хеопса"
*28 студзеня*— "Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча"
*29 і 31 студзеня* — "Ідылія".

**Малая сцэна Купалаўскага**

*15 і 17 студзеня* — "Брат мой Сімон"
*18 і 20 студзеня* — "Трыстан і Ізольда"
*27 студзеня* — "Каварства і каханне"
*29 студзеня*— "Восеньская саната"

**Тэатр імя Горкага**

*24 студзеня* — "Ад'ютант-Ша Ягамосці"
*25 студзеня*— "Вольны шлюб"
*14 студзеня* — "Раскіданае гняздо"
*16, 17 і 31 студзеня* — "Тата, тата, бедны тата!.."
*18 студзеня* — "Хрыстос і Антыхрыст"
*19 студзеня*— "Дземетрыус"
*20, 21 і 23 студзеня* — "Тэрмінова патрабуецца "самазабойца"
*27 і 28 студзеня* — "Гамлет"
*30 студзеня* — "У прыцемках"

**Прадзюсерскі цэнтр "Альфа-радыё"**

*19, 24 і 25 студзеня* — "Дотык"
*20, 26 і 27 студзеня* — "Стрыптыз"
*21 і 28 студзеня* — "Чаравікі на тоўстай падэшве"

**Тэатр беларускай драматургіі**

*14 студзеня* — "Апошняя пастараль"
*18 і 19 студзеня*— "Рычард"
*20, 21 і 23 студзеня* — "Чорны квадрат"
*25 і 26 студзеня* — "Макбет"
*28, 30 і 31 студзеня* — "Містэр Розыгрыш"

**"Віртуозы сцэны"**

*18 студзеня*— "Галасы"
*19 студзеня* — "Жорж Дандэн, або Падмануты муж"
*20 студзеня* — "Старасвецкае каханне"
*23 студзеня* — "Жудасныя бацькі"
*30 студзеня* — "Французская таямніца амерыканскага палкоўніка"

**Малы тэатр**

*14, 23 і 30 студзеня* — "Камедыя"
*16 і 23 студзеня* — "ART"
*24 і 25 студзеня* — "...я жыць хачу..." ("Гульня ў джын")

**"Хрыстафор"**

*14 студзеня* — "Трэцім будзеш?"
*19, 28 студзеня*— "Выбранае"
*20 студзеня* — "Дзень танкіста"
*21 студзеня* — "Жэнефіс"

**Тэатр юнага гледача**

*17 студзеня* — "Петэр Мунк і яго каменнае сэрца"
*30 студзеня* — "Стваральніца цуду"
*14 студзеня*— "Палёт у краіну фантазій"
*16 студзеня*— "Парася, якое спявае"
*19 студзеня* — "Палачанка"
*20, 31 студзеня* — "Маленькі лорд Фаўнтлерой"
*21 студзеня* — "Коткін дом"
*23 студзеня* — "Сястра мая, Русалачка"
*24, 28 студзеня* — "Кот у ботах"
*25 студзеня* — "2222"
*27 студзеня* — "Ніхто не паверыць"

**КАНЦЭРТЫ**

*26 студзеня* ў канцэртнай зале "Мінск" адбудзецца традыцыйная цырымонія ўзнагароджання беларускіх рок-выканаўцаў "Рок-каранацыя". Гэтым разам з'явяцца і некалькі намінацый, так бы мовіць, анты "Рок-каранацыі". Называцца яна будзе "Рок-гільяціна". Тут будзе і "Найгоршы гурт года", і "Самы няўцямны тэкст". "Рок-гільяціну" прыдумалі рэдакцыі "Музычнай газеты" і "Навінак".

## ВЕРНІСАЖ

*Імя мастачкі Марыны Гарэлавай даўно знаёма пастаянным чытачам нашага штотыднёвіка па гумарыстычных малюнках, што час ад часу друкаваліся ў рубрыцы "Вернісаж". А сёння мы з радасцю паведамляем, што ў Марыны выйшла ў свет кніга карыкатур "Что за школа без прикола", якую выдала СП "Графік Хаус". Кніга стала падрахункам пяцігадовай працы "Прыкольнай школы" Марыны Гарэлавай. Дасціпныя малюнкі і дакладныя подпісы адлюстроўваюць найбольш тыповыя сітуацыі з жыцця школьнікаў. Кніга разлічана на тых, хто вучыць, вучыцца, калі-небудзь вучыўся ці збіраецца ісці ў школу. Віншуючы Марыну Гарэлаву з выхадам кнігі, мы знаёмім нашых чытачоў з яе гумарыстычнымі малюнкамі, якія не пакінуць раўнадушнымі ні дарослых, ні дзяцей.*




## Беларускі калегіум

**ЗАПРАШАЕ**

**16 студзеня** — прэзентацыя новага нумара часопіса "Фрагмэнты".

**23 студзеня** — прэзентацыя кнігі У. Арлова "Адкуль наш род" з удзелам аўтара.

**30 студзеня** — У. Маруцік "Ці можа быць Беларусь "Захадам"?" (з нагоды 95-х угодкаў выхаду працы Вэбера "Пратэстанцкая этыка і дух капіталізму").

Лекцыі і прэзентацыя адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Я. Купалы (вул. В. Харужай, 16).

Пачатак у 18.30.

## Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа

**АДЗНАЧАЕ СВАЁ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ.**

У праграме святкавання:

**15 студзеня** — дзень адчыненых дзвярэй ( з 10.00 да 14.00); прэс-канферэнцыя (пачатак у 15.00);

**16 студзеня** — настаўніцкая навуковая канферэнцыя (пачатак у 10.00);

**17 студзеня** — вучнёўская навуковая канферэнцыя (пачатак у 10.00);

**18 студзеня** — спартыўнае свята (пачатак у 10.00); спектакль ліцэйскага тэатра "Народны альбом" у памяшканні Тэатра юнага гледача (пачатак у 18 гадзін).

**19 студзеня** — урачыстая вечарына ў памяшканні Палаца культуры МАЗ (пачатак у 18.00).

Запрашэнні можна замовіць у ліцэі па адрасе: вул. Кірава, 21, прыёмная або пакой № 6. Тэлефоны для даведак: 227-32-77, 226-10-73.

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

## Прываказальны эцюд

*Вакзал. Мітусня.*
*Штурханіна. Гамонка...*
*Валютчык перонны маўклівы.*
*Галодная зранку "усіхняя жонка"*
*Цікуе аматараў піва.*

*Няголены дворнік.*
*Газетчык вагонны.*
*Цыганкі. На сметніку галка.*
*Знясілены дачнік.*
*Вайскоўца пагоны...*
*І плошча — вялізная людамяшалка.*

*Піў-бар.*
*З цыгарэтамі пнецца старая.*
*Мянты. Беганіна. Атака...*
*Тут хто як умее*
*на хлеб зарабляе:*
*Хто целам,*
*хто воблай,*
*хто ракам.*

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фота-карэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2865
Нумар падпісаны ў друк 11.1.2001 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 170

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12